25 мая 2018 | № 19 (582)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Як беларусы будавалі Ізраіль**

стар. 19

**4 КОЛЬКІ КАШТУЕ ЗЯМЕЛЬКА Ў ДРАЗДАХ?**

У рэсурснай нярынкавай эканоміцы фармуецца асаблівы тып дэмакратыі. У беларускім варыянце гэта асаблівасць палягае ў здольнасці ўлады адэкватна рэагаваць на запыты грамадзян

**5 ЦІ БУДУЦЬ БЕЛАРУСЫ БОЛЬШ НАРАДЖАЦЬ?**

У Беларусі адзін з самых высокіх узроўняў скасавання шлюбаў у Еўропе



**7–18 Літаратурная Беларусь**

**22–23 «Я – ШЧАСЛІВЫ ЧАЛАВЕК»**

Пра гэтае інтэрв'ю я прасіў Святлану Алексіевіч даўно. Зрэшты, мы ўсё ж сустрэліся...



# Касцюшка ў топе, а Каліноўскі?



Алесь КІРКЕВІЧ

**Не так даўно стала вядома пра перапахаванне знойдзеных парэштkаў 17-ці лідараў паўстання 1863 года ў Вільні. Гэта знакавая падзея, тым больш, што сярод іх можа быць і Каліноўскі — экспертыза яшчэ не скончаная. Ва ўрачыстым перапахаванні на могілках Роса будзе прымаць удзел і польскі, і літоўскі бок, а што ж з беларускім?..**




Паводле віцэ-канцлера ўраду Літвы Матулёніса, беларускі бок не выказаў да падзеі ніякай цікавасці. На першы погляд, гэта падаецца дзіўным: у Мерачоўшчыне толькі што з помпай адкрылі помнік Касцюшку, з боку ўладаў ёсць зялёнае святло на раскрутку ягонай асобы. Касцюшка — таксама паўстанец, таксама ваяваў супраць Масквы, таксама здаўна ўпісаны ў нацыяналістычны пантэон. Што ж не так з Каліноўскім?

Калі аб'ектыўна і без эмоцыяў, то Касцюшка — адназначна больш раскручаны персанаж, асоба міжнароднага значэння, а ў дадатак — масток для дыпламатычных сувязяў не толькі з Польшчай, але і са Злучанымі Штатамі. Ёсць помнікі Касцюшкі, бюсты, літаграфіі: на гэтае імя ёсць попыт і нават рынак. З Каліноўскім — складаней. Ён нават не лідар паўстання 1863 года, якое тыя ж палякі ніколі не назавуць «Паўстаннем Каліноўскага». Замежніку імя Каліноўскага ні пра што не кажа: пакуль гэта герой для «лакальнага выкарыстання».

Нацыянальны пантэон не павінен залежаць ад палітычнай кан'юнктуры. А беларускія чыноўнікі баяцца герояў беларускага нацыянальнага пантэону. А раптам — калабарант? А раптам — супраць Масквы? А раптам яшчэ што не так? Вечная перастрахоўка. Выбіраюць, нервуюцца, а пасля зноў ідуць да знаёмых і блізкіх сэрцу асобаў і датаў: Машэраў, Вялікая Айчынная, Кастрычніцкая рэвалюцыя... Просты ўваход, прадказальны выхад і пахмельны эфект.

Падобная сітуацыя была і з БНР: апынулася, што шмат хто з чыноўнікаў наўпрост не ведае, што гэта такое і навошта — ажно да кіраўнікоў найвышэйшага рангу. Таму і спатрэбіліся навуковыя канферэнцыі і выставы, каб патлумачыць: БНР — гэта не пра нацыянальную здраду і марыянеткавы рэжым, тым больш не пра сучасную апазіцыю. БНР — гэта пра незалежнасць і пачатак нашай мадэрнай дзяржаўнасці.

На сёння мы маем як мінімум тры гістарычныя сюжэты, якія за апошні час паспелі падняцца на новы ўзровень у вачах грамадства. Гэта гісторыя з Касцюшкам, БНР і Курапатамі. Як мінімум, улада не перашкаджае, дае зялёнае святло, як максімум — хай па-свойму, але падтрымлівае.

Можна па-рознаму ставіцца да тых жа прафсаюзных ці БРСМаўскіх прыборак у Курапацкім лесе: кагосьці гэта можа весяліць, кагосьці нерваваць, але гэта — крок наперад. Урэшце, ніводзін беларус не можа забараніць іншаму беларусу прыйсці ў Курапаты з сякерай ды пластыкавым мехам для смецця — незалежна ад партыйнасці, поглядаў ці іх адсутнасці.

Мяркую, што на чарзе — акурат Каліноўскі і міф паўстання 1863 года. Што павінна адбыцца, каб тэма апынулася ў трэндзе? На гэта трэба працаваць, а падмурак да афіцыйнага прызнання можа стварыць грамадскасць і без падтрымкі з высокіх кабінетаў. Пакуль імя Каліноўскага бянтэжыць і страшыць чыноўнікаў, бо гэта і «Плошча Каліноўскага» ў 2006-м, і «Праграма Каліноўскага» для адлічаных праз палітыку студэнтаў, і страшныя казкі чарнасоценнага духавенства пра «Каліноўскага-вешальніка», які пераследаваў праваслаўных святароў...

**Трэба паказаць іншага Каліноўскага і давесці, чаму ён важны, свой, карысны для нацыянальнай ідэі**

Трэба паказаць іншага Каліноўскага і давесці, чаму ён важны, свой, карысны для фармавання нацыянальнай ідэалогіі. У нас безліч патрыятычных гісторыкаў, але дагэтуль няма аніводнай цэльнай працы, прысвечанай паўстанню, каб прачытаць — і ўсё зразумець. Ёсць навуковыя зборнікі, нарысы баявых дзеянняў, перавыдадзеныя тэксты «Мужыцкай праўды», пайменныя спісы паўстанцаў, а вось адной кнігі, якая б лаканічна (і пажадана, яшчэ і па-руску) усё тлумачыла, — няма.

Прыстойны комікс пра Каліноўскага, кліп, тэматычная брэндавая вопратка, прыгожыя фотасэты рэканструктараў у строях той эпохі — для ўсяго гэтага не патрэбныя агромністыя грошы. Усё гэта пад сілу грамадскай супольнасці, блогерам і актывістам новай хвалі.

Канешне, можна сказаць, што грамадству ў прынцыпе гісторыя не цікавая і няма розніцы, які помнік стаіць на плошчы: Леніну ці Ластоўскаму, Калініну ці Каліноўскаму, Чапаеву ці Балаховічу. Гэта — толькі частка праўды. Колькі ні кажы пра высокія тэхналогіі, IT-дзяржаву, глабалізацыю і постмадэрнае мысленне, любая сур'ёзная дзяржава павінна мець салідную гістарычную канцэпцыю. Гэта важна — як радавод для арыстакратычнай сям'і.

А яшчэ гісторыя — гэта рошчына, якая цэментуе нацыю і тлумачыць, чаму Гродна — беларускі, а не польскі горад, а свой кавалак Палесся мы ніколі не аддамо Украіне, на якой бы мове там ні размаўлялі мясцовыя. Галоўнае, каб рошчына апынулася якаснай, і цэменту там было не менш, чым пяску. Інакш, глядзіш, і дом разваліцца...

# Магіла цешчы Купалы «ўпарадкаваная», помнік — знесены...

Алесь КІРКЕВІЧ

**Аўтэнтычная гранітная пліта на магіле Эміліі Манэ, пастаўленая яе дачкой, жонкай Янкі Купалы, у 1922 годзе, знікла з Вайсковых могілак у Мінску. Зараз на яе месцы — цалкам новы помнік. Як так сталася?**

Магіла Эміліі Манэ-Станкевіч — сапраўды важная памятка ў комплексе купалаўскіх мясцінаў. Эмілія была француженкай, пароднеанай з сям'ёй мастака Клода Манэ, якая пераехала ў Беларусь ды выйшла замуж за Франца Станкевіча. Жывучы тут, актыўна ўдзельнічала ў грамадскім жыцці, і кажуць, што нават спраўна размаўляла па-беларуску.

Пасля смерці помнік на яе магіле паставіла жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна — яна ж і апекавалася пахаваннем наступныя некалькі дзясяткаў гадоў. Дарэчы, гэта быў адзіны франкамоўны помнік на мінскіх Вайсковых могілках.

Знікненне першым заўважыў мінскі экскурсавод і краязнавец Павел Дзюсекаў падчас адной з вандровак па Вайсковых могілках у траўні гэтага года. Павел вырашыў правесці сваё расследаванне, звязацца са спецкамбінатам і адміністрацыяй могілак (структурамі, адказнымі за пахаванні), музеем Янкі Купалы і, у выніку, выйшаў на ...Жанну Дапкюнас, унучатую пляменніцу класіка.

Апынулася, што Жанна Казіміраўна была ў курсе сітуацыі з заменай помніка. Стары помнік ад часу пачаў трушчыцца: з яго ў 1950-х гадах нехта выдраў металічны крыж, а ў адтуліне з-пад яго пачала скопліваца вада і разбураць камень. Пайшла трэшчына, помнік быў змацаваны абручамі...

Ніводная структура з тых, у якія звярталася па дапамогу Жанна Казіміраўна, з аднаўленнем не дапамагла, таму яна пайшла ў звычайную агенцыю, якая займаецца афармленнем магілаў — там вырашылі паставіць цалкам новы помнік, маўляў, стары аднаўляць бессэнсоўна... Сказана — зроблена.

Цяжка ў нечым вінаваціць Жанну Казіміраўну, якая сама некалі працавала дырэктарам музею Янкі Купалы, — тлумачыць Павел Дзюсекаў. — Гэта ж не малады чалавек, чаму яна мае займацца ўсім сама? Крыўдна, што за падобнымі помнікамі ў нас наогул ніхто не сочыць, таму яны паціху разбураюцца альбо замяняюцца на новыя аналагі. Але гэта ўжо не аўтэнтыка, а ўсяго толькі навароби.

Што ж сталася са старым помнікам пасля замены на новы? Паколькі на Вайсковых могілках няма нейкіх адмысловых памяшканняў для захавання надмагілляў, найхутчэй — яго наўпрост адклалі ў агульную кучу для будаўнічага смецця, а пасля — вывезлі за межы горада. Паколькі сітуацыя мела месца яшчэ ў верасні 2017 года, прасачыць лёс аўтэнтычнага гранітнага каменя будзе складана. Найверагодней, ён ужо разбіты.

Раней мы ўжо пісалі аб праблемах захавання старых помнікаў на Вайсковых могілках. Ужо вядома, што Генпракуратура ўзялася за мемарыяльныя пахаванні ў сталіцы. Пасля пракурорскай праверкі, структура ініцыявала прысваенне статуса гісторыка-мемарыяльнага месца пахавання Усходнім, Татарскім і Вайсковым могілкам.

# «Навошта ў Слуцку беларускія назвы вуліц, калі нас хутка прыяднаюць да Расіі?»

Марыя ВЕРАС

**Каб хоць крышку пашырыць беларускамоўнае асяроддзе ў Слуцку, мясцовае Таварыства беларускай мовы вырашыла збіраць подпісы за дадатковае ўсталяванне беларускамоўнай версіі на шыльдах з назвамі вуліц.**

— Справа ў тым, што візуальнае асяроддзе старажытнага беларускага горада Слуцка амаль што нічым не адрозніваецца ад правінцыйнага расійскага, — распавяла старшыня Слуцкага раённага таварыства беларускай мовы Зінаіда Цімошак. — На вуліцах гучыць адна руская мова, большасць шыльдаў на крамах таксама выкананы на гэтай жа мове. Ніхто не сочыць за захаваннем дзяржаўнага двухмоўя. Дайшло нават да таго, што прозвішча Максіма Багдановіча, творчая спадчына якога з'яўляецца нацыянальным скарбам, ушанавана на шыльдах удзячнымі случчанамі толькі на рускай мове. Таму мы і вырашылі звярнуцца да ўладаў з прапановай аб усталяванні дадатковай беларускамоўнай версіі назваў вуліц на беларускай мове.

Актывістка згодная, што гэта не ідэальнае выйсце з назвамі вуліц у Слуцку, бо тут амаль не засталося назваў гістарычных, якія б штосьці гаварылі душы жыхароў рэгіёна і гасцям горада. Хіба што гэта ўжо гатовы музей-запаведнік часоў савецкай эпохі.

Людзі тут нараджаюцца на вуліцы «Пионерской» альбо «Социалистической», ходзяць у школу па «Комсомольской», «8 марта» або «Советской», у крамы — па «Ленина» і «14-ти Партизан».

— Чамусьці нашы ўлады і структуры ЖКГ Закон аб дзвюх дзяржаўных мовах разумеюць толькі як закон аб пананаванні рускай мовы і гэтым ужо нанеслі вялікі ўрон душам насельніцтва, — працягвае спадарыня Зінаіда. — Так, пры зборы подпісаў пад калектыўным зваротам на вуліцах горада, мне даводзілася выслухоўваць дзіўныя агрэсіўныя аргументы супраць беларускіх назваў. Усе яны гучалі на рускай мове, зразумела:

— Зачем нам это? Я не умею говорить по-белорусски, и это мне не нужно.

— Нет, спасибо. Не надо.

— Меня устраивает русский язык, он мне уже давно родной.

— Это будет для русских неудобно.

— Я ненавижу белорусский язык, хотя я и белоруска.

— Мои внуки в школе изучают белорусский на уроках несколько раз в неделю, им он уже труднее дается, чем английский. Зачем их мучить?

— Мне все равно.

— Языка этого не знаю, и знать не хочу.

— Вы хотите сделать из Белоруссии Сирию?

— Не пишите мой номер квартиры, я никому не доверяю.

— Боюсь называть фамилию, это чревато последствиями.

— Зачем нам белорусские названия улиц? Нас ведь скоро присоединят к России!

Пра будучае далучэнне да Расіі і ліквідацыю беларускай мовы выказаліся некалькі чалавек. І гэта былі не расіяне, а карэнныя жыхары горада.

«Хацелася б, каб улады пачалі ўсё-такі разумець, што яны ўжо занадта загуляліся з прыярытэтам рускай мовы і пачалі хоць што-небудзь рабіць для будучыні роднай беларускай краіны ў дзяржаўным маштабе», — выказала пажаданне адна неабыякавая случчанка, якая з радасцю ўхваліла збор подпісаў.

Па яе словах, будаўнікі з Малдовы, з якімі давялося паразмаўляць на Дзень Перамогі, прыехалі ў Слуцк пасля камандзіроўкі ў Расію. Яны выказалі сваё расчараванне тым, што наш беларускі горад нічым не адрозніваецца ад правінцыйнага расійскага горада. «Няма адчування, што мы ў Беларусі — іншай, адметнай краіне. Нецікава», — так выказаўся малады малдаўскі хлопец.

І тым не менш — пад калектыўным зваротам у Слуцкі райвыканкам і Слуцкі раённы Савет дэпутатаў ужо падпісаліся больш за 400 чалавек.

# У Мінску збяруцца пісьменнікі з 30 краін Еўропы

**Генеральная асамблея Еўрапейскай пісьменніцкай рады (European Writers' Council) пройдзе ў сталічным гатэлі «Мінск» 3–4 чэрвеня.**

На постсавецкай прасторы Еўрапейская пісьменніцкая рада, якая існуе з 1977 года, правядзе свой штогадовы з'езд упершыню.

— Еўрапейская пісьменніцкая рада — самая ўплывовая пісьменніцкая арганізацыя Еўропы. Прымаць яе агульны сход — вялікі гонар для Беларусі ў цэлым, і для Саюзу беларускіх пісьменнікаў у прыватнасці, — кажа Барыс Пятровіч, старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». — Традыцыйна важнымі для асацыяцыі з'яўляюцца праблемы абароны аўтарскіх правоў, гэтыя пытанні будуць закранацца і падчас мінскай Генеральнай асамблеі. Мы чакаем, што ў працы Генеральнай асамблеі таксама возьме ўдзел Святлана Алексіевіч.

Еўрапейская пісьменніцкая рада — федэрацыя 44 нацыянальных арганізацый прафесійных пісьменнікаў і літаратурных перакладчыкаў, прадстаўляе больш за 160 тысяч літаратараў з 34 краін Еўропы, найперш з Еўрасаюза, а таксама Беларусі, Ісландыі, Нарвегіі, Турцыі, Швейцарыі і Чарнагорыі. Федэрацыя была заснаваная ў 1977 годзе ў Берліне пад назвай Еўрапейскі пісьменніцкі кангрэс. З 2010 года існуе пад цяперашняй назвай са штаб-кватэрай у Бруселі, шчыльна супрацоўнічае з культурніцкімі праектамі Еўракамісіі, ЮНЭСКА, Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці пры ААН. Прэзідэнтам EWC у 2017 годзе быў абраны старшыня Шведскага саюза пісьменнікаў, празаік Гунар Ардэліус.

Саюз беларускіх пісьменнікаў з'яўляецца правадзейным сябрам EWC з 2010 года. З постсавецкай прасторы ў Еўрапейскую пісьменніцкую раду, акрамя СБП, уваходзяць толькі літаратурныя арганізацыі краін Балтыі.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# Да 30-годдзя адкрыцця Курапатаў

Марат ГАРАВЫ

**Грамадзянская ініцыятыва «Эксперты ў абарону Курапатаў» з 2 па 4 чэрвеня ладзіць шэраг сустрэчаў да 30-годдзя адкрыцця таямніцы ўрочышча на паўночна-усходнім ускрайку Мінска.**



Так, 2 чэрвеня з 12:00 ініцыятыва праводзіць талаку ў Курапатах па ўпарадкаванні аб'ектаў гістарычнай тапаграфіі Нацыянальнага некропалю з высаджваннем кветак.

3 чэрвеня эксперты прымуць удзел ва ўрачыстасцях ва ўрочышчы.

4 чэрвеня а 12:00 у сядзібе прафсаюзу РЭП па вуліцы Кульман, 4 пачнецца Другі круглы стол па экалагічнаму стану ўрочышча. Старшая навуковая супрацоўніца, кандыдатка сельскагаспадарчых навук (лесазнаўства) Таццяна Барсукова з Інстытуту эксперыментальнай батанікі імя Васіля Купрэвіча НАН Беларусі распавядзе пра вынікі маніторынгу стану атмасфернага паветра ў Курапатах.

Да ўдзелу ў круглым стале запрошаны актывісты ініцыятывы, Арцём Быстрык з «Цэнтру экалагічных рашэнняў» (Мінск), журналісты і навукоўцы.

Прадстаўнік «Гарадскога ляснічага» (Мінск) — кампаніі экалагічнага таварыства «Зялёны адказ» па захаванні зялёных зонаў у гарадах высілкамі гараджанаў Ігар Корзун пазнаёміць з асноўнымі накірункамі стратэгіі экалагічнага выратавання Курапатаў.

Нагадаю, што летась 30 траўня адбыўся Першы круглы стол на экалагічных праблемах гістарычна-культурнай каштоўнасці міжнароднага значэння «Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій 1930–1940-х гадоў ва ўрочышчы Курапаты».

Удзельнікі яго прышлі да высновы, што ўрочышча павінна набыць статус помніка прыроды.

На думку мовазнаўцы і грамадскага дзеяча Вінцука Вячоркі, грамадскім актывістам, якія працуюць у Курапатах, неабходна не толькі строга выконваць усе рэкамендацыі спецыялістаў-экалагаў, але і выпрацаваць пералік дзеянняў, катэгарычна забароненых у запаведным лесе.

Паколькі даследаванне «Ацэнка антрапагеннага ўздзеяння на стан атмасфернага паветра на тэрыторыі ўрочышча Курапаты» ў траўні 2017 года яшчэ не завяршылася, па гэтай праблеме было вырашана правесці Другі круглы стол.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Жыццё як анекдот

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Мы шмат наракалі на нашу сістэму жыллёва-камунальнай гаспадаркі, аднак мала хто бачыў яе знутры. Аказваецца, у нас ёсць такая магчымасць!**


Фота http://www.vitki.info

На сайце Мінгарвыканкама з'явілася інфармацыя аб правядзенні адкрытага конкурсу на пасаду намесніка кіраўніка Кастрычніцкага раёна, які курыруе ЖКГ. Сярод патрабаванняў да кандыдата — практычны вопыт і стаж кіруючай работы ў сферы жыллёва-камунальнай гаспадаркі не менш за 5 гадоў, адказнасць, стрэсаўстойлівасць і ўменне працаваць у камандзе.

Партал TUT.BY высветліў, што адкрытыя вакансіі нават на высокія пасады ў гарадской вертыкалі — не выключэнне, а звычайная практыка. Калі інфармацыю пра вакансію не публікуюць на сайце выканкама, то яна ў любым выпадку перадаецца ў адкрыты доступ на біржу працы. Прэтэндаваць на працоўнае месца могуць і людзі без вопыту дзяржслужбы. У выпадку паспяховага праходжання сумоўя кандыдату давядзецца здаць экзамен.

Але ж умовы нагадваюць стары анекдот: «На пасаду прэзідэнта прэтэндаваць можа той, хто мае досвед працы прэзідэнтам не менш за пяць гадоў». Менавіта так можна расцаніць патрабаванне «стаж кіруючай работы ў сферы ЖКГ не менш за 5 гадоў».

Абвестка Мінгарвыканкама выклікала цікавасць у інтэрнэце: беларусы на форумах запытваюць, ці бяруць «дармаедаў» на гэтую пасаду. «Кадравы голад. Драздоў на ўсіх не хопіць, а сядзець на працы па 12 гадзін або на нарах за 800 рублёў ужо мала жадаючых», — адзначаюць яны. Што, у прынцыпе, адлюстроўвае стаўленне і да ўлады, і да дзяржслужбы.

Яшчэ адну «сенсацыю» з рынку працы выдала на тыдні міністарка працы і сацыяльнай абароны Ірына Касцевіч. Паводле яе меркавання, галоўная праблема на рынку працы — дысбаланс попыту і прапановы. «Наймальнік чакае кваліфікаваных, з вопытам работы кадраў. Тыя, хто сёння звяртаецца ў службу занятасці, — як правіла, людзі, якія доўга не працавалі, страцілі кваліфікацыю або не пераацэньваюць свой патэнцыял. У гэтых умовах давядзецца працаваць, задавальняючы, з аднаго боку, наймальніка, а з іншага — здымаючы напружанасць на рынку працы і забяспечваючы максімальнае працаўладкаванне нашых грамадзян. Гэта галоўная задача дэкрэта № 1 «Аб садзейнічанні занятасці», — сказала Ірына Касцевіч.

Зноў, як у анекдоце: «Дзе здабыць досвед працы, калі на ўсе пасады ўжо патрабуюцца людзі з досведам працы?»

Безумоўна, зразумелая спроба спадарыні Касцевіч у чарговы раз апраўдаць тое, што яны наварацілі з дэкрэтам пра дармаедаў. Але атрымалася нягегла. Будзем шчырымі — дэкрэт №1 тут не пры чым, а міністарка працы і сацыяльнай абароны проста канстатавала: тыя курсы перакваліфікацыі ці падвышэння кваліфікацыі, якія прапануюць беспрацоўным службы занятасці, неэфектыўныя альбо не працуюць увогуле. Бо менавіта яны павінны дапамагаць тым, хто «доўга не працаваў ці страціў кваліфікацыю». І ў першую чаргу на гэта трэба звярнуць увагу, а не на тое, як выкруціцца. Словы «ў гэтых умовах давядзецца працаваць» выглядаюць менавіта як спроба выкруціцца, а не вырашаць праблему.

А некаторыя праблемы мы ствараем самі. Шмат было дзідаў зламана вакол беларускай АЭС. І гэтыя дзіды працягваюць ламацца. Літва неаднаразова казала пра тое, што набываць энергію са спрэчнага аб'екта не будзе. І ў выніку вырашыла ўвогуле разарваць старую савецкую энергасістэму. Міністр энергетыкі Літвы Жыгімантас Вайчунас распарадзіўся пачаць рэалізацыю праекта па аптымізацыі сеткі перадачы электраэнергіі на паўночным усходзе краіны.

«У рамках праекта будуць праводзіцца работы па мадэрнізацыі сеткі, якія неабходныя для паспяховага адключэння савецкай сістэмы і падключэння да бяспечнай еўрапейскай сеткі. У той жа час гэта забяспечыць надзейную працу сеткі і лепшую якасць абслугоўвання для спажыўцоў паўночна-ўсходняга літоўскага электраэнергетычнага сектара і зэканоміць больш як паўмільёна еўра на год з-за зніжэння эксплуатацыйных расходаў на электраабсталяванне», — заявіў Вайчунас.

Сярод іншага, гэтая мадэрнізацыя прадугледжвае дэмантаж самай магутнай высакавольтнай лініі, якая злучае Ігналінскую АЭС з Беларуссю. Раней Вайчунас заявіў, што праект па дэмантажу ЛЭП, якія злучаюць Літву з Беларуссю, — сігнал Мінску аб нязменнасці стаўлення да БелАЭС. «Гэта абсалютна выразны сігнал Беларусі, што тыя планы, якія намі зацверджаныя, паслядоўна ажыццяўляюцца», — сказаў чыноўнік.

З улікам гэтай акалічнасці яшчэ больш абвастраецца пытанне, якое задаў Лукашэнка: як БелАЭС будзе ўбудаваная ў сістэму беларускай гаспадаркі? Асабліва з улікам таго, што электраэнергію з яе не будуць браць ані Літва, ані Польшча. А ва Украіне і Расіі сваіх атамных станцый (дарэчы, непадалёк ад Сінявокай) хапае.

Нябачнае выйсце ўсё ж ускосна прапанавана. Беларусь трапіла ў дзясятку найбольш дружалюбных краінаў для крыптавалют і блокчэйн-праектаў. Рэйтынг быў прадстаўлены на сайце канферэнцыі BlockShow Europe 2018. Беларусь апынулася на 10-м месцы. Першае месца ў Швейцарыі. Далей ідуць Гібралтар, Мальта, Вялікабрытанія, Данія, Германія, Партугалія, Нідэрланды, Фінляндыя і Беларусь.

Складальнікі рэйтынгу прааналізавалі рэгуляванне крыптавалют у 48 еўрапейскіх краінах. Наша краіна ўвайшла ў гэтую дзясятку, бо да 2023 года, згодна дэкрэту аб лічбавай эканоміцы, у нас вызначаны нулявы падатак на крыптавалюты.

А што? У час агульнага шалу з біткойнам з'явіліся паведамленні пра тое, што людзі выкуплялі (ці пачыналі будаваць) цэлыя электрастанцыі, каб тыя сілкавалі майнінг-фермы па здабычы крыптавалютаў. У нас жа праз год на гэта запрацуе цэлая АЭС. Электрычнасць з яе ўсё роўна няма куды падзець — галоўнае, каб мы пачалі ўжо зараз будаваць каля яе тую самую майнінг-ферму.

Праблема ў тым, што будучыня (дый «цяперашчына») крыптавалютаў — цьмяная. Калі ўжо сваю «крыпту» запускае ўдзельніца і вядучая «Дому-2» Вольга Бузава, то зрабіць гэта могуць і жук, і жаба. У выніку каштоўнасць той «крыпты» наблізіцца да нуля. І нам трэба злавіць момант, пакуль гэтага не адбылося.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Дзмітрый Галко

**Нашага калегу, журналіста і блогера, перавялі са следчага ізалятара №1 у Мінску ў аналагічную ўстанову ў Жодзіна.**

Месяц таму, 22 красавіка, Дзмітрый Галко быў затрыманы на беларуска-ўкраінскай мяжы. А ўжо праз 5 дзён яму былі прад'яўленыя абвінавачванні па артыкуле 364 крымінальнага кодэксу «Гвалт альбо пагроза ўжывання гвалту ў дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў».

У мінулым годзе, падчас святкавання з нагоды дня нараджэння сына Дзмітрыя Галко, верагодна з-за гучнай музыкі, хтосьці выклікаў участковага міліцыянта. Па адной з версій, паміж журналістам і ўчастковым адбылася сутычка, у выніку якой разбіўся мабільны тэлефон міліцыянта. Галко сцвярджае, што ніякай бойкі не было. Неўзабаве Дзмітрый з'ехаў ва Украіну, а пры вяртанні ў Беларусь у красавіку быў затрыманы на мяжы. Цяпер яму пагражае да 6 гадоў зняволення.

«Перыядычна мы атрымліваем ад яго лісты. Следства пачалося, але мы не ведаем, як яно ідзе», — кажа бацька Дзмітрыя Мікалай Галко.

Сустрэцца з сынам яму не дазволілі, бачыліся з ім толькі адвакаты. Уся камунікацыя толькі праз ліставанне і праз адваката. Перадаць сыну літаратуру не ўдалося, у Жодзіна можна перадаць толькі Біблію і Крымінальны кодэкс. Мікалай Галко адзначае, што з-за такіх умоў сын застаецца ў інфармацыйнай ізаляцыі. «Пошта працуе кепска, лісты туды возяць, як на валах. Просьба да сяброў, калі некаму захочацца напісаць, то зрабіце такую ласку. Лісты там — промнікі сонца», — кажа бацька журналіста.

Паштовы адрас для лістоў: 222163. Жодзіна, вул. Савецкая, 22 а, турма №8. Галко Дзмітрыю Мікалаевічу.

## Сяргей Чалы

**Знаны беларускі эканаміст быў жорстка збіты невядомымі. Міліцыя кажа пра звычайную п'яную бойку.**



Здарэнне адбылося ў ноч на 19 мая. У 00.34 аператыўна-дзяжурная служба Цэнтральнага РУУС Мінска атрымала паведамленне пра збіццё двух чалавек па вуліцы Леніна, 5. Паведамляецца, што Чалы распавёў міліцыянтам, як напярэдадні вечарам у кавярні выпіваў са сваімі знаёмымі. А 23-й гадзіне, пасля закрыцця кавярні, Чалы з двума таварышамі набылі піва і шаурму ды пайшлі ў двор дома №8 па вуліцы Леніна, дзе працягнулі выпіваць. Праз нейкі час да іх падышла кампанія маладых хлопцаў, якія сталі беспадстаўна збіваць Чалага і яго сябра. Яшчэ адзін прыяцель уцёк з месца канфлікту і выклікаў міліцыю.

Збітых Чалага і яго сябра даставілі ў Цэнтральны РУУС. У журналіста і яго сябра прынялі заявы і выклікалі збітым «хуткую дапамогу». Лекары шпіталізавалі Чалага са зламаным носам і чэрапна-мазгавой траўмай. Кампанію, якая нібыта напала на журналіста і яго сяброў, неўзабаве затрымалі.

Сам Чалы і сведкі здарэння не падтрымліваюць версію міліцыі. Нападнікі збівалі не ўсю кампанію, а менавіта Чалага. Прычым — без «зачэпак», са спіны і зняцку. Па іх меркаванні, гэта мог быць сплянаваны напад.

## Святлана Алексіевіч



**Больш за 130 дзеячаў культуры, у тым ліку беларуская Нобелеўская лаўрэатка, звярнуліся да ўдзельнікаў Пецярбургскага эканамічнага форуму з заклікам адпусціць на свабоду ўкраінскага рэжысёра Алега Сянцова, які абвясціў бестэрміновую галадоўку.**

«Людзі, якія ведаюць Сянцова, упэўненыя, што ён пойдзе да канца. Мы патрабуем адправіць Сянцова на радзіму — ва Украіну. Смерць Сянцова стане ганьбай для Расіі і назаўсёды запляміць тых, хто мог бы яго выратаваць, але не выратаваў», — гаворыцца ў заяве праваабарончага аб'яднання літаратараў, журналістаў і блогераў Асацыяцыі «Вольнае слова».

Журналісты і літаратары нагадалі, што Сянцоў прызнаны палітычным зняволеным. Яны затрабавалі вызвалення ўсіх украінскіх палітвязняў у Расіі.

Усяго пад зваротам падпісалася больш за 130 чалавек, сярод якіх, акрамя Алексіевіч, — Уладзімір Вайновіч, Ігар Ірценеўў, Людміла Уліцкая, Віктар Шэндэровіч, сябры Санкт-Пецярбургскага ПЭН-клуба і «Вольнага гістарычнага таварыства».

25 мая 2018 | № 19 (582) Новы час

Азбука паліталогіі

# Колькі каштуе зямелька ў Драздах?



Сяргей НІКАЛЮК

**Скаргі і скаржнікі — наш залаты фонд, іх уклад у падтрыманне сацыяльнай стабільнасці цяжка пераацаніць.**




На рынку долі не купіш, а ў судзе праўды не знойдзеш. Каму за жарт прымуць, а каму за тое ж скуру здымуць, кажа народная мудрасць.

Добра гэта ці дрэнна? На думку ліберальнага інтэлігента, такое стаўленне да закона з’яўляецца абсалютным злом. А з пункту гледжання шараговага грамадзяніна?

Прапаную зрабіць разумовы эксперымент і змясціць тыповага прадстаўніка беларускай большасці ў штучнае асяроддзе, у якім строгасць законаў не змякчаецца неабавязковасцю іх выканання. Зрабілі? Ну і як, валасы ад жаху не ўсталі?

А як у такім асяроддзі будзе існаваць бізнес? Як тут ні прыгадаць Пасланне–2018, у якім Лукашэнка звярнуўся да праваахоўнага блоку і судовай улады ды папярэдзіў, што забеспячэнне вяршэнства закона не павінна наносіць шкоды эканамічнаму росту. Вось яно, аказваецца, як! Калі сілавыя і кантрольныя ведамствы сур’ёзна возьмуцца за забеспячэнне вяршэнства закона, дык прадпрымальнікам давядзецца хавацца ў бульбу. Зрэшты, не ўпэўнены, што ім гэта дапаможа.

Нацыянальных культурных адметнасцяў яшчэ ніхто не адмяняў. Што немцу добра, то рускаму (беларусу) — смерць. Паспрабую патлумачыць гэты парадокс.

Немец жыве ва ўмовах рынкавай эканомікі. Рынак немагчымы без роўнасці ўсіх перад законам — па-іншаму інтарэсы суб’ектаў рынку (як гандляроў, так і пакупнікоў) не ўзгадніць. Таму судовая сістэма — гэта найважнейшы рынкавы інстытут, без якога, між іншым, не можа функцыянаваць дэмакратыя. Не імітацыйная дэмакратыя, а рэальная, з адказным перад парламентам урадам, бо парламент — гэта не проста заканадаўчы орган. Гэта орган узгаднення інтарэсаў розных сацыяльных груп, сфармаваных рынкам.

Такое ўзгадненне звычайна называць «палітыкай». Рэальная палітыка — гэта занятак не для вузкага кола абмежаваных людзей, а для мільёнаў. Не выпадкова ж у Старажытнай Грэцыі грамадзяніна поліса, які жыве ў адрыве ад грамадскага жыцця, называлі «ідыётам». Аднак божы дар не варта блытаць з яечняй, а правядзенне гістарычных паралеляў праз тысячагоддзі ёсць не што іншае, як прыклад такога кшталту блытаніны.

У сучаснай Беларусі любая спроба суайчыннікаў сфармаваць і публічна выказаць свае калектыўныя інтарэсы тут жа ацэньваецца ўладай як палітыканства. У спіс смяротных грахоў палітычную актыўнасць грамадзян царква яшчэ не ўнесла. Пакуль не ўнесла. Тым не менш, у грамадзянскіх актывістаў няма шанцаў зрабіць кар’еру ў дзяржаўных структурах. Дый у недзяржаўных структурах у іх таксама не надта добра з шанцамі.

Каб не быць галаслоўным, спашлюся на даследаванне «Жыццёвыя рэсурсы рабочай моладзі: сацыялагічны аналіз», апублікаванае ў часопісе Інстытута сацыялогіі НАН РБ «Сацыялагічны альманах» №7. У артыкуле разглядаюцца жыццёвыя рэсурсы як сукупнасць фактараў, якія забяспечваюць біялагічны, псіхалагічны і сацыяльны дабрабыт індывіда. Абмяжуюся адной цытатай: «Найменшую дапамогу, на думку маладых рабочых, пры сутыкненні са складанай жыццёвай сітуацыяй ім здольныя аказаць рэсурсы, звязаныя з палітычнай і прававой сферай жыццядзейнасці і грамадзянскай актыўнасцю: зварот да закона, дзяржава, удзел у палітычным жыцці».

> **Абсалютнасць справядлівасці не звалілася на беларусаў з неба. Яна гарантуецца манапольным правам аднаго чалавека вызначаць, што справядліва, а што не**

### Жах! Куды глядзіць пракуратура?!

З небяспечнай палітычнай сцежкі прапаную павярнуць на эканамічную дарожку, на якой нас чакае прыемная навіна: беларусам пашчасціла жыць не ў рынкавай эканоміцы, а ў рэсурснай. А цана рэсурсаў — нагадаю тым, хто забыўся, — вызначаецца не суадносінамі попыту і прапановы, а месцам чалавека ў іерархіі.

Растлумачу на прыкладзе. Скрупулёзныя журналісты любяць абвінавачваць топ-чыноўнікаў у неадпаведнасці цаны катэджаў у Драздах узроўню даходаў іх уладальнікаў. Маўляў, толькі на куплю зямельнага ўчастка па рынкавай цане слугам народа давядзецца працаваць некалькі дзясяткаў гадоў, і пры гэтым не выдаткоўваць ні капейкі на харчаванне і вопратку. Без карупцыйнага складніку ў даходах такія набыткі зрабіць немагчыма. Жах! Куды глядзіць пракуратура?!

Але што такое рынкавая цана зямлі ў Драздах? Гэта прыкладна тое ж самае, што цана медыцынскага абслугоўвання ў Рэспубліканскім медыцынскім цэнтры Упраўлення справамі прэзідэнта РБ. Цэнтр гатовы абслугоўваць усіх ахвочых. Былі б грошы! Але я не ўпэўнены, што для «прымацаваных» да цэнтра чыноўнікаў афіцыйныя прайс-лісты актуальныя.

Як ацаніць такое нераўнапраўе? Як справядлівае. Нездарма ж Лукашэнка ўвесь час падкрэслівае, што «справядлівасць вышэй за закон заўсёды, калі на тое пайшло. Бываюць несправядлівыя законы, а само паняцце справядлівасці (можна сказаць, філасофскае паняцце) абсалютнае».

Усяго ў законах не прапішаш, але да гэтага трэба імкнуцца. Наглядным прыкладам такога імкнення можа служыць закон «Аб дзяржаўнай службе ў Рэспубліцы Беларусь». Закон, у прыватнасці, нават за экс-чыноўнікамі замацоўвае: «права на медыцынскае абслугоўванне ва ўстановах аховы здароўя, у якіх ён абслугоўваўся да звальнення, на ўзроўні абслугоўвання, якое ён меў да звальнення, на перыяд да працаўладкавання ў іншую арганізацыю, але не больш чым на дванаццаць месяцаў з дня звальнення». Перайшла, да прыкладу, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта РБ на пасаду ткачыхі ў ААТ «Камволь», а права на льготнае абслугоўванне ў Рэспубліканскім медыцынскім цэнтры захоўваецца за ёй яшчэ на працягу года. Дробязь, а прыемна.

Справядліва? Справядліва. Былых дзяржслужачых не бывае. І грошы тут не пры чым. Грошы — яны са свету рынкавай эканомікі. А ў нас рынак не тое, каб знаходзіцца ў зачаткавым стане. Ён іншы. Ён адміністрацыйны — і галоўнай валютай на ім з’яўляюцца статусы і сувязі.

### Сацыялогія скаргаў

Абсалютнасць справядлівасці не звалілася на беларусаў з неба. Яна гарантуецца манапольным правам аднаго чалавека вызначаць, што лічыць справядлівым, а што не. Але паколькі аднначасова гэты ж чалавек надзелены манаполіяй на размеркаванне рэсурсаў, дык прынцыповых пярэчанняў, як правіла, не ўзнікае. Канфліктаваць з размеркавальнікам рэсурсаў — сабе даражэй. У крайнім выпадку можна афарміць сваю незадаволенасць у выглядзе скаргі. Для гэтага і прыдуманы закон «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асобаў».

Скаргі і скаржнікі — па-за палітыкай. Яны — наш залаты фонд. Дзякуючы сваёй актыўнасці, скаржнікі забяспечваюць «дзяржаве для народа» зваротную сувязь з народам. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што дзяржаўная сацыялогія не абыходзіць сваёй увагай такую важную для падтрымання стабільнасці тэму.

Пальма першынства ў такіх даследаваннях па праву належыць сацыёлагам Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта РБ. Дзякуючы іх прафесіяналізму і працавітасці, кожны ахвочы мае магчымасць у два-тры клікі даведацца, што «…грамадзяне Беларусі пры звароце ў дзяржаўныя арганізацыі ў два разы часцей сутыкаюцца з праявай станоўчых якасцяў супрацоўнікаў, чым адмоўных (61% і 32% адпаведна). Яны перш за ўсё адзначаюць уважлівасць, адказнасць і паважлівае стаўленне да наведвальнікаў. Сярод негатыўных якасцяў — фармалізм, раўнадушша, абыякавасць. Дадзеная тэндэнцыя прасочваецца на працягу апошніх трох гадоў».

Пры правядзенні сацапытанняў рэспандэнты не толькі ацэньвалі працу дзяржаўных органаў са зваротамі, але і выказвалі прапановы па паляпшэнні такой працы: «У большай ступені яны тычыліся асабістых якасцяў супрацоўнікаў, якія працуюць з грамадзянамі: «больш памяркоўнасці да людзей, уважлівасці, тактоўнасці». Далей ідзе арганізацыйна-прававы фактар: «трэба працаваць больш аператыўна», «скарацаць аб’ём даведак, дакументазвароту», «часцей праводзіць кансультацыі» і інш.».

***

У рэсурснай — гэта значыць у нярынкавай — эканоміцы фармуецца асаблівы тып дэмакратыі («суверэнны», згодна з тэрміналогіяй расійскіх ідэолагаў). У беларускім варыянце гэтая асаблівасць палягае ў здольнасці ўлады адэкватна рэагаваць на запыты грамадзян. І тут я не магу не ўтрымацца ад цытавання самай сур’ёзнай газеты краіны, таму што лепш і не скажаш: «У канчатковым рахунку, у тых, хто каментуе сацыяльную палітыку ў Беларусі, здзіўленне выклікае зусім не «чысціня вуліц», а тое, што калі сярэднестатыстычны беларус звярнуўся з матываванай просьбай у дзяржаўны орган, мясцовую ўладу, рэдакцыю СМІ, то да яго звароту абавязаны паставіцца з усёй адказнасцю і грунтоўнасцю».

Усё зразумела? Праблема не ў дзяржаве. Праблема ў грамадстве. Далёка не ўсе яго прадстаўнікі авалодалі мастацтвам матываванасці просьбаў.

# Шэсць цікавых фактаў пра беларускую дэмаграфію

## Ці будуць беларусы больш нараджаць і менш скасоўваць шлюбы?

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**У 2017-м у Беларусі прайшло маштабнае сацыялагічнае даследаванне «Структура сям'і, сямейныя адносіны, рэпрадуктыўныя паводзіны». Дадзеныя яшчэ апрацоўваюцца і паступова публікуюцца.**

Было апытана дзесяць тысяч жыхароў Беларусі ва ўзросце ад 18 да 79 гадоў, якія жывуць у 56 гарадах і 40 сельскіх саветах па ўсёй краіне. Апытанне праводзіў Цэнтр сацыялагічных і палітычных даследаванняў БДУ па ініцыятыве Міністэрства працы і сацыяльнай абароны і пры падтрымцы ААН, па методыцы міжнароднай праграмы «Пакаленні і гендар». Атрыманыя дадзеныя можна параўнаць з міжнароднымі (задзейнічаныя 17 еўрапейскіх краін, а таксама Аўстралія і Японія).

### Факт першы: жанчыны раней за мужчын аддзяляюцца ад бацькоўскай сям'і

Сярод мужчын 1940–1989 гадоў нараджэння частка тых, хто стаў жыць асобна ад бацькоў у 25 гадоў ці раней, вагаецца ад 60 да 65%. Што цікава, сярод самых старэйшых з апытаных працэнт ніжэйшы, для народжаных у 1950–1969 гадах падрастае, а сярод маладзейшых мужчын зноў падае. Мабыць, гэта тлумачыцца сітуацыяй у сельскай мясцовасці, калі было прынята жыць вялікімі сем'ямі, і складанасцямі з жытлом у сучасных гарадах.

Падобная тэндэнцыя назіраецца сярод жанчын, але частка тых, хто жыў асобна ад бацькоў з 25 гадоў ці раней, вышэйшая: у розных пакаленнях — прыкладна 70–75%. Мабыць, уплываюць ранні шлюбны ўзрост і звычай жыць з бацькамі мужа. Але не толькі шлюб спрыяе асобнаму пражыванню, усё ж працэнт тых, хто стварыў сям'ю да 25 гадоў, ніжэйшы за працэнт тых, хто да гэтага ўзросту стаў жыць асобна. Дадзеныя па ўсіх краінах Еўропы паказваюць, што дзеці разведзеных бацькоў сыходзяць жыць самастойна раней за сваіх аднагодкаў з поўных сем'яў.

### Факт другі: павялічваецца ўзрост рэгістрацыі шлюбу

Калі ў пакаленні 1950–1959 гадоў нараджэння да 25 гадоў зарэгістравалі шлюб 70% жанчын і 59% мужчын, то ў пакаленні 1980–1989 гадоў нараджэння — суадносна 57% і 38%. У той жа час расце колькасць незарэгістраваных шлюбных саюзаў, у якіх выхоўваюцца дзеці. Ва ўсе віды адносінаў (сталае партнёрства, зарэгістраваны і незарэгістраваны шлюб) жанчыны ўступаюць раней за мужчын. Так, у 2017 годзе 28,3% мужчын ва ўзросце 25–29 гадоў заявілі, што ніколі не мелі вопыту сталых адносінаў. Сярод жанчын той жа ўзроставай катэгорыі — толькі 10,4%.

Можна, канешне, меркаваць, што жанчыны заводзяць адносіны са старэйшымі мужчынамі, але можна і выказаць гіпотэзу, што выраз «сталыя адносіны» азначае розныя рэчы для мужчын і жанчын.

Ва Усходняй Еўропе пары, што жывуць разам без рэгістрацыі шлюбу, успрымаюць гэта як этап падрыхтоўкі да афіцыйнага афармлення адносінаў. У Заходняй Еўропе налічваецца большая колькасць людзей, што жывуць разам, але не плануюць рэгістраваць адносіны са сваім партнёрам. У сярэднім пары ў незарэгістраваных саюзах менш задаволеныя сваімі адносінамі, чым пары ў афіцыйным шлюбе, аднак задаволенасць узрастае ў краінах, дзе незарэгістраваныя саюзы больш распаўсюджаныя.

### Факт трэці: беларусы маюць менш дзяцей, чым хацелі б

Да 25 гадоў сталі бацькамі крыху больш за палову беларусак і каля 20% беларусаў 1980–1989 гадоў нараджэння. Апошняе дзіця беларускі нараджаюць недзе між 38 і 41 годам. Узрост у 27–29 год дэмографы называюць «часам пік»: часта людзі амаль адначасова заканчваюць адукацыю, рэгіструюць шлюб і нараджаюць першае дзіця. У краінах, дзе больш сацыяльнай і палітычнай падтрымкі сям'і і дзетанараджэння, людзі менш спяшаюцца.

Ва ўзросце, калі рэпрадукцыя скончаная, аказваецца, што беларуска мае ў сярэднім 1,65 дзіцяці, а хацела б 2,21. Паводле еўрапейскіх дадзеных, мужчыны хочуць больш дзяцей за жанчын, але рашэнне ў пары звычайна застаецца за жанчынай.

Працэс прыняцця рашэння нарадзіць першае дзіця можа істотна адрозніваецца ад рашэння нарадзіць другое ці трэцяе. Пары, што маюць блізкіх сяброў і родных, якія маглі б іх падтрымаць, хутчэй за тых, хто жыве адносна ізалявана, рашаюцца на другое ці трэцяе дзіця.

### Факт чацвёрты: жанчыны менш за мужчын задаволеныя размеркаваннем хатніх абавязкаў

Жанчын часцей бачаць больш здольнымі да догляду дзяцей і дома, а мужчын — як палітычных лідараў, прафесіяналаў. Толькі вышэйшая адукацыя прызнаецца амаль аднолькава істотнай для прадстаўнікоў абодвух полаў. З такімі ўстаноўкамі зразумела, як размяркоўваюцца хатнія абавязкі. Пры гэтым 74% беларусаў задаволеныя ўзроўнем свайго ўдзелу ў выхаванні дзяцей, а 69% — у працы па доме. Сярод беларусак задаволенасць роўная, суадносна, 57% і 51%.

Згодна з еўрапейскімі дадзенымі, людзі, што задаволеныя размеркаваннем абавязкаў у сваёй сям'і, часцей хочуць яшчэ адно дзіця.



### Факт пяты: адукаваныя беларусы здаравейшыя

Гэта сцвярджэнне актуальнае для ўзроставай катэгорыі старэй за 30 гадоў. Чалавек з вышэйшай адукацыяй хутчэй ацэніць сваё здароўе як добрае. Што да маладзейшай катэгорыі, такой залежнасці не назіраецца, і можна казаць нават пра супрацьлеглую тэндэнцыю.

### Факт шосты: у Беларусі адзін з самых высокіх узроўняў скасавання шлюбу ў Еўропе

У 2017 годзе ўзровень скасавання шлюбаў адносна вяселляў быў трохі вышэйшым за 50%, прытым у сталіцы паказчык большы за сярэдні, а ў Гродзенскай і Брэсцкай абласцях — меншы. Гэта прынята тлумачыць рэлігійнасцю насельніцтва ў тых рэгіёнах.

У 2000 годзе ўзровень скасавання шлюбаў адносна вяселляў быў каля 45%. У тым жа годзе падобныя паказчыкі былі ў Даніі, Нарвегіі, Аўстрыі, Вялікабрытаніі і Люксембургу, больш за 50% мелі Фінляндыя, Швецыя і Бельгія. Вакол 40% вагаліся паказчыкі разводаў у Францыі, Венгрыі, Нідэрландах, Чэхіі і Германіі. Між 20% і 30% мелі Балгарыя, Швейцарыя, Партугалія і Славакія. Самыя нізкія паказчыкі разводаў зарэгістраваныя ў Румыніі, Грэцыі, Польшчы, Сербіі і Харватыі. Абсалютны рэкардсмен — каталіцкая Італія з 10%.

Ва ўсіх даследаваных краінах працэнт жанчын, што ўступалі ў новыя партнёрскія адносіны пасля разводу, меншы за мужчын.

Высновы з прыведзеных лічбаў можна зрабіць розныя і па-рознаму іх выкарыстоўваць. Нам бачыцца, што без падтрымкі дзяржавы і, у першую чаргу, мужоў, беларускі больш нараджаць не стануць, а з няроўным размеркаваннем абавязкаў у сем'ях і тэндэнцыяй да ўзрастання колькасці і працягласці незарэгістраваных саюзаў колькасць скасавання шлюбаў будзе таксама павялічвацца. З аднаго боку, сям'я сёння — ужо не толькі гаспадарчая адзінка, і людзі шукаюць у шлюбе эмацыйнай падтрымкі, цікавага супольнага баўлення часу. З другога — матэрыяльную частку нікуды не падзенеш, і побыт працягвае разбіваць сямейныя чаўны.






# Хто яны, жыхары вымiраючай вёскi?

Дзіяна ПІНЧУК

**Колькасць выміраючых вёсак у Беларусі з кожным годам расце. Хаціны-развалюхі, некалькі пенсіянераў на ўсю вёску, крама за дзясяткі кіламетраў...**


Дзядзька Юзік


Сяргей


Віця «Заяц»




На адзін раён у Беларусі прыходзіцца прыкладна каля 7 сельсаветаў і прыкладна 70 выміраючых вёсак. У Беларусі квітнеюць аграгарадкі, а паралельна вёсак, што выміраюць, ужо налічваецца дзесяцці пад тысячу...

Напрыклад, у Навадарожскім сельсавеце, што на Старадарожчыне, вёсак, якія паміраюць разам з апошнім яе жыхаром, налічваецца каля дзясятка: Дуброўскія хутары, Боркі, Іванаўка, Лукошкі, Старыя і Новыя Ісаевічы, Дубное, Равань, Раз'езд Фалічы, Буда. Ужо як некалькі гадоў знікла вёска Арыжня, што размяшчалася акурат на аднайменнай рэчцы.

Ад таго, што некаторыя хаты скупляюць пад лецішчы, вёска жывей не робіцца. Бо для мясцовых недапушчальна прайсці па вуліцы — і не тое, што не спытаць пра сёлетні ўраджай, а нават не павітацца. Бо ў вёсцы пра такіх кажуць: «О, прасунулася, і «здрасьце» не сказала! Свіння і то рухкне!»

Прыкладам такой вёскі, што памірае, з'яўляюцца невялічкія Боркі. Яны ўяўляюць сабой адну вуліцу даўжынёй каля 2 кіламетраў, уздоўж якой раскінуліся маляўнічыя хаткі да самага лесу. Назва ў яе — Зялёная, бо адзін з мясцовых жыхароў, які пераехаў сюды з Асіповічаў, па звычцы называў вуліцу па былому месцу жыхарства. Так і прыжылося. Але, насамрэч, патрэбы ў назве няма, бо калі прыходзяць лісты, то можна пабачыць, што многія проста не пазначаюць вуліцу: «в. Боркі, д. 7».

Калісьці ў Борках дзейнічала школа з бібліятэкай і кіназалай, была канюшня, але цяпер уся цывілізацыя зводзіцца да аўталаўкі, што наведваецца тры разы на тыдзень. Але яна не дае гарантыі, што мясцовыя сыдуць ад яе з хлебам ды свежымі прадуктамі. І здаецца, што гэта амаль адзіная нагода жыхарам сабрацца разам.

Жылых двароў, як раней казалі, тут засталося каля дзясятка. Цяпер падзеяй тут лічыцца нават тое, што чужы сабака прабяжыць па гароду. А раней было ўсё інакш. Напрыклад, з-за таго, што тут знаходзілася адно з нямногіх прадпрыемстваў, быў вялікі ўзровень злачыннасці.

Мясцовы ўчастковы жартаваў калісьці: «Калі б не Боркі, то ў сельсавеце і працы не было б». Адна з самых гучных справаў адбылася тут у 2011 годзе. Мясцовы жыхар з суседняй вёскі ноччу падпаліў цэх дрэваапрацоўчага прадпрыемства, пакінуўшы запіску для гаспадара: «У нас тратылу на ўсіх хопіць. Таму прывязі 3000 долараў на сметнік каля лесу і пакінь іх у халадзільніку». Прадпрымальнік спрабаваў самастойна затрымаць злачынцу, адправіўшыся на сметнік, але той прадугледзеў усё да дробязяў. Апрануў доўгі зялёны плашч, каб выцягнуць рост і здавацца больш высокім, а на красоўкі апрануў шкарпэткі, каб не пакідаць сляды на полі, калі будзе ўцякаць. З-за таго, што ў справе фігуравала выбухоўка, да расследавання далучылася КДБ. Злачынцу знайшлі, прыцягнулі да адказнасці, але матэрыяльную шкоду за спалены матэрыял прадпрымальнік так і не змог спагнаць. Выканаўчыя органы Беларусі ў гэтай сітуацыі апынуліся чарговай дэкларатыўнай інстанцыяй.

Таксама быў перыяд у 2000-х, калі на працягу пяці гадоў тут гарэлі хаты. Хтосьці называе гэта супадзеннем, а нехта закамернасцю.

Сустрэўшыся з мясцовымі жыхарамі, я прапанавала ўспомніць якую-небудзь яркую падзею ці гісторыю, якая адбылася з імі ў Борках. Але, як высветлілася, гэта задача для іх апынулася не з самых лёгкіх.

### Баба Наста:

*«Абажэі! Я памятаю, як я ў школьным садзе танчыла. Было нейкае свята, мы разаслалі пакрыва, нехта прынёс магнітафон — і мы скакалі пад музыку прама сярод яблынь. Гэта быў першы раз, калі я танчыла. Другі раз быў, калі мы ў армію хлопца праводзілі. Вось гулянне ўжо было! Але яго тады так і не забралі ў армію. А памятаю яшчэ, як пешшу ў суседнюю вёску ў Кавалічы на 8 сакавіка ў клуб хадзіла. Быў конкурс на лепшы танец, і я атрымала тады аж 2 прызы: мачалку і грабянец! Вось колькі я танчыла! А цяпер што? Вось гектар зерня ўручную пасадзіла, а 20 чэрвеня мне спаўняецца 80 гадоў».*


Андрэй


Віцька

### Андрэй:

*«Не трэба са мной размаўляць. Я асоба пры пасадзе, таму мне нельга лішні раз маячыць. Ну не ведаю, што цікавага ў маім вясковым жыцці было — штодзённае ўсё: дом і праца. О, памятаю, як мяне ў армію праводзілі. Тады ледзь дзеўку не згвалтавалі. Але гэта ж не цікава нікому. Дарэчы, у нас тут Оля-суседка жыла. Уяўляеш, кажуць, што цяпер яна ў Бараўлянах більярднай загадвае. О паднялася!»*

Андрэй — халасцяк, які жыве з матуляй, час ад часу п'яным выганяючы яе з хаты. Ужо 15 гадоў працуе лясніком у суседняй вёсцы. Ён адзіны працоўны на цэлую вёску.

### Дзядзька Юзік:

*«Я тут і нарадзіўся. Тут у школу хадзіў. Адсюль у армію пайшоў. Вось тут і жыву цяпер. Так і напішы, што проста працаваў усё жыццё».*

Суразмоўца толькі пару дзён таму выпісаўся з раённай бальніцы. Яму там сказалі, што яго хвароба галавы не лечыцца. Але ён не на хвіліну не пакінуў сваю ўсмешку, нават калі распавядаў пра гэта. Хобі ў вясковага жыхара — збіраць пустыя бутэлькі, метал, паперу. Таму яго часта можна ўбачыць на ровары ў раз'ездах па навакольных вёсках. Хаця ён атрымлівае неблагую пенсію. Мясцовыя кажуць: «Ну такі чалавек!»

### Віця «Заяц»:

*«У мяне ў жыцці ўсё нармальна. Памятаю, калі быў маленькім, то за вёскай каля лесу была вялікая горка вышынёй пад 2 метры. Мы яе «залатым калодзежам» называлі. Кажуць, там калісьці быў панскі маёнтак. І мы з сябрамі хадзілі туды гуляць. Дык аднойчы я там лыжы зламаў! Вось гэта адзіная мая прыгода ў Борках».*

У вёсцы ён мае мянушку «Заяц». Пражыў амаль усё сваё жыццё ў Борках з матуляй. З'яўляецца абсалютным рэкардсменам па спусканні на гарэлку пенсіі. Напрыклад, атрымаўшы 180 рублёў, праз пару дзён у кішэні мае толькі капейкі. Заўсёды перасоўваецца на ровары, нават у галалёд. Але пры гэтым у хаце ў яго заўсёды чыста, пасаджаны гарод, а ўлетку амаль штодзень ён бегае ў лес па грыбы і маліну.

### Віцька:

*«А мой здымак дойдзе да Лукашэнкі? Ведаеш, у мяне ў жыцці цікавага нічога не было. Вось у мяне цяпер Жучка — самы хітры сабака на свеце. Што за наколкі? Сваё значэнне ў іх. Помню, у мяне была машынка, і я тут, у Борках, сам сабе рабіў. Мне трэба было звесці адну нядобрую наколку. Так яны засталіся».*

Жыве ў Борках з бацькам на яго пенсію. Не працуе ўжо каля 10 гадоў. Нават сельсавет спрабуе паўплываць на яго, час ад часу выклікаючы на прафілактычную гутарку.


Баба Наста

### Сяргей:

*«Я нарадзіўся не тут, а ў Асіповічах, але пражыў тут палову свайго жыцця, выгадаваў дзвюх дачок, таму можна сказаць, што гэта мая другая Радзіма. Самая яркая падзея? Пажар, які цалкам знішчыў маё жыллё і маю працу. Мы, калі пераехалі, купілі вялікую старую драўляную школу, дзе жылі з сям'ёй, і дзе я працаваў з драўнінай. Пасля пажару застаўся толькі клунак адзення, тэлевізар і дзве скрынкі з фотаздымкамі. Але мы ўсё роўна засталіся ў Борках. Спачатку жылі ў чужой хаце, а потым пабудавалі ўжо свой дом. З працай было цяжка не толькі таму, што ўсё згарэла, і прыйшлося будаваць бізнес з нуля, замінала нармальна працаваць і, як яе называюць, «праграма развіцця малога бізнесу». Таму Боркі для мяне, у першую чаргу, — гэта перавадзенне нялёгкіх жыццёвых сітуацый».*

Шчыра кажучы, я спадзявалася пры размовах з мясцовымі пачуць больш вясёлых і цёплых гісторый. Здавалася б, яны павінны былі разрываць падобнымі аповедамі пра сваё вясковае жыццё, але ўскрыць сябе — гэта амаль невыканальная для іх задача. У такіх вёсках быццам іншае вымярэнне часу, дзе людзі не распыляюцца на нейкія там успаміны. Мысляць яны хвілінай, якая цячэ тут і цяпер. Ні гадзіны наперад або назад.

Але, насамрэч, усмешкі і пацешныя гісторыі ўсё ж такі былі. Яны выляталі з вуснаў вяскоўцаў, калі бачылі майго павадыра — сабаку Міцю. Кожны называў яго сваім сябрам, і ў кожнага была добрая гісторыя пра яго. Ведаеце, гэткі стары таварыш з агульнымі гісторыямі. Нават дачнікі спынялі мяне і расказвалі, як прывозяць яму косткі з гораду. Міця — гэткае ўвасабленне дабра і недагаворанасці вёскі Боркі.

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №5 (141) (май)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by


## Змест



# «Глядзець на свет вачыма дзіцяці»

**За 9 гадоў Надзея Кандрусевіч зрабіла каля 20 беларускіх перакладаў шведскіх дзіцячых кніг.**




Фота www.svaboda.org

Каб не быць абмежаванай планамі іншых выдавецтваў, сёлета яна заснавала ўласнае — «KOSKA». 18 траўня на выставе Шведскай дзіцячай акадэміі «Ура дзіцячай кнізе!» яна прэзентавала адразу два новыя пераклады кніг з серыі пра Маму Му. Чаму менавіта шведскія дзіцячыя кнігі часцей за ўсё перакладаюцца ў Беларусі і навошта жыхары Расіі замаўляюць беларускамоўныя пераклады — пра гэта і распавяла Надзея Кандрусевіч.

Неймаверны інтарэс да Швецыі і шведскай культуры ў многіх беларусаў пачаўся са... Стэфана Эрыксана — шведскага амбасадара ў Беларусі. Пасля пераводу ў Мінск у 2005 годзе ён хутка вывучыў мову і публічна выступаў толькі па-беларуску.

Надзея Кандрусевіч пачала вучыць шведскую яшчэ ў «даэрыксанаўскія» часы — гэта была яе трэцяя замежная мова ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце. Ужо тады яна мела перакладчыцкія задумы.

«Гэта было хутчэй дзіцячае ўяўленне пра пераклады. Мне была цікавая дзіцячая літаратура. Хацелася перакласці «Карлсана» і «Піпі доўгуюпанчоху». Бо Швецыя — гэта заўжды нешта прыгожае і незвычайнае», — прызналася Надзея.

Потым яна трапіла на заняткі па перакладах пры Шведскім цэнтры ў Мінску, дзе пераклала першы мастацкі твор — урывак са зборніка шведскіх пісьменнікаў.

«Я адчула смак перакладу», — кажа Надзея.

Падумала, што было б класна некалі перакласці казкі Нурдквіста. Тады гэта былі толькі мары...

На перакладчыцкіх майстэрнях яна пазнаёмілася са Стэфанам Эрыксанам. Праз два гады ён прапанаваў Надзеі ўзяцца за беларускі пераклад шведскай дзіцячай кніжкі «Малы і Мядзьведзік». Да таго часу са шведскіх дзіцячых кніг па-беларуску было толькі тры: «Карлсан, які жыве на даху», «Піпі доўгаяпанчоха» і «Усе нашы дзеці з Булербю». З расійскай мовы была перакладзеная кніга «Браты Львінае Сэрца».

На прэзентацыю Надзеінага перакладу кнігі «Малы і Мядзьведзік» у 2011 годзе ў Беларусь прыехала аўтарка — шведская пісьменніца Юя Вісландэр.

«Тады я стала сур'ёзна цікавіцца шведскай літаратурай, — гаворыць Надзея. — Уразіў Свэн Нурдквіст і ягоныя казкі пра Пэтсана і Фіндуса. Падумала, што было б класна некалі яго перакласці».

Ад таго часу ў Надзеі Кандрусевіч штогод выходзілі пераклады спачатку кніг Юі Вісландэр пра Маму Му, а потым і таго самага Свэна Нурдквіста. Надзея ведае таксама ангельскую і італьянскую мовы, але засяродзілася менавіта на перакладах шведскіх аўтараў.

«Сёння шведская дзіцячая літаратура — самая багатая ў свеце. Штогод у Швецыі выходзіць больш за дзве з паловай тысячы дзіцячых кніг. І гэта без уліку перакладных на шведскую мову», — кажа перакладчыца.

Бум дзіцячай літаратуры ў Швецыі, адзначае яна, пачаўся ў сярэдзіне XX стагоддзя. Ён быў звязаны з выхадам кніг Астрыд Ліндгрэн. Пісьменніца «перакуліла» ўяўленне грамадства пра тое, якой можа быць дзіцячая літаратура.

«У сваіх кнігах яна глядзіць на свет вачыма дзіцяці, — кажа Надзея. — Усе пісьменнікі Швецыі сталі пісаць у тым жа рэчышчы. І шведская літаратура перакладаецца не толькі на беларускую мову, але на 30 моваў свету».

Большасць шведскіх дзіцячых кніг у беларускіх крамах — гэта пераклады на расійскую мову тых жа Вісландэр і Нурдквіста. Расійскія выдавецтвы робяць большыя наклады, а таму іхнія кнігі аказваюцца таннейшымі за беларускія. Максімальны тыраж беларускіх перакладаў дагэтуль — 2,5 тысячы асобнікаў. У Расіі аналагічныя кнігі выходзяць у 10 тысячаў асобнікаў. А таму іхні сабекошт атрымліваецца прынамсі ў два разы меншы.

Але ёсць спосаб, як канкураваць з імі і зацікавіць чытача беларускімі перакладамі. Трэба проста выдаваць пераклады новых кніг раней за расійцаў. У Беларусі шмат фанатаў Мамы Му, а таксама Пэтсана з Фіндусам. І яны будуць набываць кнігі незалежна ад мовы. Таму першай кнігай пра Маму Му на беларускай мове была самая «свежая» на той час — «Мама Му чытае».

«Тады яшчэ не было перакладу на расійскую, і беларускую кнігу замаўлялі нават расійскамоўныя фанаты з Масквы», — сказала Надзея.

Паводле яе, апошнім часам на беларускую мову якраз са шведскай перакладаецца найбольш дзіцячых кніг. А з адкрыццём уласнага выдавецтва шведскіх кніг па-беларуску будзе выходзіць яшчэ больш. Прынамсі, так спадзяецца Надзея. Тым больш, што перакладчыкаў са шведскай на беларускую не так і мала.

«Я ўжо складаю асобны спіс для іншых перакладчыкаў. У шведскай літаратуры проста мора кніг, якія мне было б цікава выдаць па-беларуску. Пачынаючы ад кніг-кардонак для самых маленькіх, заканчваючы падлеткавай літаратурай, — кажа Надзея. —У Беларусі няма ніводнага выдавецтва, якое займалася б толькі выпускам дзіцячых кніг па-беларуску. Мне акурат цікава паспрабаваць сябе ў такой вузкай нішы».

Але ці будуць купляць у Беларусі так шмат дзіцячых кніг? Надзея кажа, што ўсясветна вядомыя кнігі раскупляюць хутка. Некаторыя — за пару месяцаў. Ёсць некалькі кніг, якіх ужо не знайсці ў продажы ў ніводнай кнігарні...

«Але спачатку ўсё ж новыя кнігі буду выдаваць. Калі сапраўды будзе цікавасць і попыт на ранейшыя пераклады, буду і іх таксама выдаваць», — кажа Надзея.

Ужо сёння гатовыя да друку з дзясятак перакладаў з серыі «Мама Му», «Пэтсан і Фіндус» і кнігі Сары Лундберг. Першая кніга Лундберг «Віта Белая Крэска і Эйвінд» выходзіла ў 2014 годзе.

«Кнігу неадназначна ўспрынялі. Бацькі казалі, што малюнкі — трошкі страшнаватыя. Гэта паказвае, што мы дасюль не дараслі да ўспрымання. Але разам з тым вельмі шмат дзяцей і бацькоў, якія чакаюць працягу і пішуць мне».

Пры гэтым Надзея падкрэслівае, што ейныя пераклады пакуль закрываюць толькі невялікую нішу ў дзіцячай літаратуры. Дагэтуль вельмі мала кніг для падлеткаў. І для самых малых дзяцей. З кніг-кардонак па-беларуску яна бачыла толькі азбуку і Біблію.

«Бракуе кніг на сучасныя тэмы. Мне падаецца, падлеткавая літаратура — залатая жыла. Я з задавальненнем перакладала б такую літаратуру са шведскай».

Надзея дадае, што пераклады моцна абуджаюць цікавасць чытачоў і да беларускіх аўтараў. «Беларуская дзіцячая літаратура цяпер на ўздыме. Я думаю, цяперашняя цікавасць да дзіцячай літаратуры па-беларуску — гэта не ў апошнюю чаргу дзякуючы перакладным кнігам, якія выходзяць па-беларуску», — перакананая Надзея.

**Антон Трафімовіч, АШ, svaboda.org**

# Як рабілі галоўную кнігу беларускага замежжа

**За таўсматую кнігу Янкі Купалы «Спадчына» заўсёды чапляешся вокам у букіністычных кнігарнях.**

Нават займеўшы гэты тамок, хочацца купіць яшчэ адзін пры нагодзе, — усё ж такі вельмі мала сапраўды шыкоўных самавітых выданняў было ў беларусаў, і амерыканска-мюнхенская «Спадчына» 1955 года — бясспрэчна, адно з іх. Вага, аб'ём, файная вокладка, ілюстрацыі, шоргат акуратна ці не вельмі разрэзаных старонак, нетрывіяльныя фотаздымкі Купалы даюць пэўную букіністычную асалоду.

Кніга сапраўды знакавая, але не заўсёды ўсведамляеш, што вакол яе была і свая гісторыя.

Упершыню ў нас і, што паказальна, менавіта ў сувязі з найпершым класікам Янкам Купалам з'явілася выданне ў жанры «кніга пра кнігу» — «Як укладалі «Спадчыну» аўтарства Наталлі Гардзіенкі і Лявона Юрэвіча.

Стваральнікаў «Спадчыны» — фактычна двое: нью-ёркавец Вітаўт Тумаш і мюнхенец Станіслаў Станкевіч, былыя «заходнебеларусы» і выпускнікі віленскіх універсітэтаў, адміністратары часоў акупацыі, тагачасныя топ-менеджары беларускага руху і лютыя ворагі УКП(б). Іх двухбаковае ліставанне — аснова дадзенай кнігі.

Трэба ведаць, што на той час, у 1950-я, Станіслаў Станкевіч выдае разам з газетай «Бацькаўшчына» кнігу за кнігай, якія спачатку друкуюцца на газетных палосах, а потым выходзяць асобнымі выданнямі, кожнае з якіх у пэўным сэнсе прадстаўляе тое, што ў гэты самы час Антон Адамовіч назаве «супрацiўленнем саветызацыі ў беларускай літаратуры»: «Запіскі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя, «Нядоля Заблоцкіх» Лукаша Калюгі, «Новая зямля» і «Сымон-музыка» Коласа, «Тутэйшыя» і «Раскіданае гняздо» Купалы. Неўзабаве выйдуць выбраныя творы Вацлава Ластоўскага і нават скандальныя «Дабрасельцы» Аляксея Кулакоўскага, праз якіх апошняга знялі з пасады галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць».

Станкевіч такім чынам фармуе антысавецкі канон, што на пачатак 1950-х зрабіць зусім не складана, бо фактычна большасць заўважных твораў даваеннай літаратуры не перавыдадзеная ў БССР, не рэабілітаваныя яшчэ і іх аўтары. Значная частка класікі ў




Савецкім Саюзе таксама застаецца пад забаронай, а Янка Купала шануецца выключна прасавецкі, перыяду 1930-х гадоў.

Укладальнікі кнігі абсалютна недвухсэнсоўна даюць зразумець сваю пазіцыю, што Купала пасля 1930 года, пасля спробы самагубства, — гэта ўвогуле не Купала, адзначаючы ў «Спадчыне», што «сваім абсягам кніга ня выходзіць за тую канцавую, замыкаючую вольную песьняровую творчасьць мяжу, якую сам Купала сваёй-жа рукою й крывёй правёў у часе гаракіры ў чэрвені 1930 году». То бок нават храналагічны «савецкі Купала» бярэцца ўкладальнікамі толькі ў той сваёй часціне, дзе ён сцвярджае нацыянальную годнасць — маюцца на ўвазе вершы 1920-х супраць вялікарасейскіх шавіністаў. Сам перыяд 1920-х, які ў сучасны момант праходзіць стадыю некрытычнага прыняцця і міфалагізацыі, называецца ўкладальнікамі «эпохай безназоўнага», калі чаканні нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі не спраўджваюцца, і наступае, на іх погляд, час, груба кажучы, «абы-чаго» — самастойнасць, незалежнасць, увогуле беларушчына як суб'ект не набывае таго статусу і той сілы, якія чакаліся «нашаніўцамі».

Такім чынам, распачынаючы друк «Спадчыны», Тумаш і Станкевіч бачаць статус свайго аднатомнага выдання Купалы як узорны, адзіна патрэбны для эміграцыі — у нейкім сэнсе, адпаведны класічнаму «Кабзару» Тараса Шаўчэнкі. Недарэмная ў рэкламнай абвестцы аб папярэдняй падпісцы (фактычна, аналагу цяперашняга краўдфандынгу) і згадка пра Біблію, якую некаторыя эмігранты выпісваюць і купляюць сабе за 45 даляраў, а вось жа выданне Купалы каштуе ў чатыры разы танней. Можна сказаць, што складальнікі ўяўляюць аднатамовую «Спадчыну» як Кнігу Кніг, своеасаблівы сакральны «маст хэв» для кожнага беларуса замежжа. Яны нават вырашаюць не згадваць у абвестках імя прэзідэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка — фактычнага фундатара выдання, каб аб'яднаць вакол Купалы прыхільнікаў БНР і БЦР.

З сакралізацыяй адразу (і непазбежна) узнікаюць праблемы, бо свайго дыстыляванага «Кабзара» Купала не пакінуў. Канцэптуалізаваць яго пакручасты і неаднародны лірычны набытак даводзіцца з нуля. Фактычна — пры адсутнасці папярэднікаў і пры надзвычай ускладненым германа-амерыканскім доступе нават напросту да прыжыццёвых публікацый ягонай лірыкі.

Вітаўт Тумаш бярэ на сябе гэтую працу і, па вялікім рахунку не з'яўляючыся чыстым літаратуразнаўцам ці купалазнаўцам, выдатна выконвае «структурны» аналіз усёй паэзіі Купалы, групуе яе па асноўных тэматычных блоках, вызначае гады напісання і ўрэшце на 500 старонках прадстаўляе кампазіцыйную ўверцюру ўсёй паэзіі Купалы. Ён вызначае пачатковыя вершы і кульмінацыі-фіналы для кожнага раздзела кнігі. Перад чытачом узнікае строгая форма «кнігі вершаў», падобная да багдановічаўскага «Вянка». Кожны твор займае сваё дакладнае месца, і Тумаш з вялікімі цяжкасцямі і відавочнай неахвотай пасля рэдагуе створаную ўласнаручна кампазіцыю зборніка.

Усё гэта адбываецца яшчэ ў Нью-Ёрку, а ў Мюнхене, пад кантролем Станкевіча — не менш працаёмкая тэхнічная праца. Здабыццё грошай, дамовы з друкарнямі, вёрстка, пераклады ўступу на замежныя мовы, друк, пераплёт, распаўсюд…

Як жа быў ацэнены гэты тытанічны чын працгласцю ў некалькі гадоў? Ці ёсць у лістах згадка, «па колькі чырвонцаў» атрымліваюць укладальнікі? Ды не. Можа, яны атрымаюць ганарар кніжкамі? Адказ ёсць у лісце Станкевіча: «Купалаў зборнік разсылаем у пачках па 5 штук у кажнай. Днямі атрымаеш і інструкцыю, як іх прадаваць і нікому абсалютна не даваць задарма. Навет я, які бадай найбольш працы ўлажыў пры яе выданьні, адзін эгзэмпляр за 11 даляраў купіў за «наличные».»

Як кажуць, без каментарыяў.

Праз усю кнігу, разам з гутаркамі пра вёрстку ці карэктуры кнігі, фонам праходзіць палітычная барацьба, праца аднаўленай Рады БНР, кагадзе створанай Беларускай службы Радыё Свабода, канфлікты з БЦР, канфлікты ў Інстытуце вывучэння СССР. Вакол купкі людзей стаіць неймаверны шум: ідуць дыскусіі па, фактычна, праве беларусаў на самавызначэнне перад усім светам. Відавочна, што беларуская дыяспара і пасля вайны адчувала сябе не вельмі моцна ў параўнанні з рускай, украінскай, якія даўно заявілі пра сябе. Літаральна некальнім людзям даводзілася ў наўпростым сэнсе адбівацца ад прапаноў злучыцца ў саюз з рускімі антысаветчыкамі, стаць пад крыло ўкраінскай ідэнтычнасці, увайсці ў той ці іншы альянс, які пагражаў бы самастойнаму існаванню беларускіх арганізацый. Дзякуючы імпэту і бескампраміснай пазіцыі Міколы Абрамчыка і Станіслава Станкевіча высокіх урадоўцаў Амерыкі і Еўропы ўдалося пераканаць у праве на асобную беларускую «рацыю стану», а часта нават і пазнаёміць увогуле з існаваннем беларускага народа, з яго гісторыяй.

Зразумела, што назваць гэта «фонам» можна толькі «мякка кажучы». Насамрэч барацьба за кожную капейку, за месца пад сонцам займала львіную долю часу, і тое, што ў такіх варунках атрымлівалася рабіць свае газеты, радыёстанцыі, кнігі, падобныя да «Спадчыны», само па сабе ўражвае. Усё пастаянна вісела на валаску…

«Кніга вялізарная (каля кілограма вагі), і вымагае шмат тэхнічных і рэдактарскіх выканчэньняў. Яна мне, ды, думаю, і Табе далася моцна ў знакі, што больш за такія вялікія выданьні ніколі брацца ня буду», — піша за некалькі месяцаў да выхаду «Спадчыны» Станіслаў Станкевіч. «Надаела кніга, то пэўна, — адказвае на ліст Тумаш. — Працы й часу таксама затрачана нямала. Самой перапіскі ў гэтай справе, перадусім з Табой, набралася ўжо ня менш хіба як тэксту самой кнігі. Як некалі справа ўжо будзе закончаная, думаю ўсю перапіску вылучыць, скласьці ў месца ды для архіўных патрэбаў даць апрацаваць: том, думаю, будзе мала меншы за самую Купалаву кнігу».

Вось жа, праз 63 гады архіўны том дачакаўся свайго часу. Застаецца спадзявацца, што ён будзе ўдзячна прачытаны і «трутнем не з'едзены».

**Ціхан Чарнякевіч, «Будзьма беларусамі!»**

## Дзявятая «Жырандоля»

**Выйшаў чарговы выпуск штогадовага альманаха «Жырандоля» Берасцейскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

На старонках новага нумара змешчаныя творы болей за 40 аўтараў: проза, паэзія, пераклады, гумар, успаміны-прысвячэнні Генадзю Праневічу і Уладзіміру Калесніку, а таксама многае іншае.

У Берасці прайшла і прэзентацыя «Жырандолі». Мерапрыемства адбылося ў канферэнц-зале Цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя Аляксандра Пушкіна.

Удзел у прэзентацыі ўзялі непасрэдна аўтары альманаха, мясцовыя літаратары. Падрабязней пра цікавосткі сёлетняга выдання распавёў мадэратар прэзентацыі, пісьменнік і мастак Леанід Валасюк.

Зусім нядаўна ў шэрагі Саюза беларускіх пісьменнікаў прынялі новага сябра — Петэра Бараша, перакладчыка з вугорскай на беларускую, які жыве і працуе ў Берасці. Сёлетняе выданне не абышлося без твораў маладых аўтараў, сярод іх была настаўніца і пачынаючая паэтэса Вікторыя Галоўчык.

## Новы «Палац»

**Літаратурнае жыццё Гомельшчыны прадстаўленае ў альманаху «Палац», які выдаецца Гомельскім абласным аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

«Палац», укладальнікамі якога выступілі Анатоль Бароўскі і Генадзь Лапацін, вялікую ўвагу надаў рэтраспектыўным матэрыялам. Акрамя сучасных прозы, паэзіі, літаратуразнаўства, у выданні можна знайсці гісторыю і краязнаўства, а таксама архіўны раздзел «Спадчына».

Імёны 30 аўтараў, змешчаныя на вокладцы выдання, сведчаць пра жанравую і эстэтычную разнастайнасць твораў, напісаных імі. Тут прадстаўленыя розныя пакаленні, ад маладога да сталага, а ў тэксце «Замест уступнага слова рэдактара» можна адшукаць першыя спробы пяра мясцовых школьнікаў, іх дэбютныя вершы і выказванні пра родную мову.

Рубрыка «Пабрацімства» змяшчае вершы дзвюх чарнігаўскіх паэтак у арыгінале — па-ўкраінску…

**Прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў**

# «У падарожжы да нязбытнага...»

**«Мама! Ты мыла падлогу...» — так пачынаецца верш Генадзя Праневіча — літараптуразнаўцы і паэта, творчага, духоўна багатага чалавека... Кранае ў гэтым вершы па-мужчынску стрыманае і разам з тым такое адкрытае, шчымліва-пранізлівае слова ўдзячнасці, слова яго сыноўняй любові...**

**Слова Маме.**



С. Алексіевіч, Г. Праневіч і А. Разанаў

Фота www.svaboda.org

*Мама! Ты мыла падлогу*
*І рукі, патрэсканыя ад марозу,*
*Сновалі туды і сюды...*
*Ты мыла падлогу —*
*Здавалася, мыла дарогу,*
*Каб дзеці па чыстай*
*дарозе ішлі!*

Чацвёра сыноў і дзве дачкі пайшлі ў свет пад апекаю матчынай і бацькавай любові, трывогі і клопату. Разляцеліся па ўсім свеце з роднай вёскі Жарабковічы, што ў Ляхавіцкім раёне.

Дарагая Радзіма... Сумаваў па ёй, жывучы ў Берасці, Генадзь Мікалаевіч. Успамінаў жывыя малюнкі з таго далёкага, не надта багатага жыцця. Жыў у ягонай душы, ужо гарадскога жыхара, такі настальгічны настрой па гарманічным суладдзі чалавека і прыроды, па гармоніі людскіх узаемаадносінаў, па моцнай, непарушнай сувязі родавых, сямейных стасункаў...

На вялікі жаль, сёння толькі ў думках можна пагаварыць з ім... Так нечакана і рана душа яго адляцела ў тыя таямнічыя яснасяйныя высі... Глыбокі, дасведчаны навуковец, арыгінальны паэт, пасіянарная асоба.

Вабілі яго і ў навуковых зацікаўленнях-даследаваннях і ў жыцці — пасіянарныя постаці. Янка Купала стаў такім своеасаблівым духоўным цэнтрам, сэрцам, ад якога пацягнуліся ягоныя навуковыя адкрыцці нацыянальнай культурнай спадчыны — старажытнай беларускай гісторыі, літаратуры, ад гераічна-трагедыйнага эпасу «Слова пра паход Ігаравы» — да літаратуры сучаснай. Быў захоплены «Словам...», майстэрствам невядомага аўтара, даказваў, выводзіў аргументы на карысць аўтара-«беларуса».

Творчасць Кірылы Тураўскага адкрывалася ў ягоным прачытанні новымі гранямі, духоўнымі асновамі, малітвамі, блізкімі і сучаснаму чытачу. Быў заўсёды ў полі старажытнай беларускай літаратуры, у такой прыцягальнай аўры і да канца не адкрытай энергіі «залатога» веку беларускай культуры — культуры сярэднявечнага беларускага Адраджэння. Распавядаў пра род Сапегаў, пра іх дзеі і чыны аргументавана, здзіўляў навукоўцаў, калег-выкладчыкаў, студэнтаў веданнем зместу старажытных помнікаў, прыводзіў цытаты-аргументы, выяўляючы свой погляд, сваю пазіцыю ў кантэксце сучасных даследаванняў.

Ідэя нацыянальнага Адраджэння напрыканцы 80-х–пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя была для навукоўца Генадзя Праневіча актуальнай не толькі ў ягоных даследаваннях, дзе ён мог заглыбіцца ў нацыянальна-культурную спадчыну мінулых стагоддзяў, але і жывою праяваю ягонай дзейнасці, ягоным імкненнем ажывіць грамадскую супольнасць да пошуку шляхоў развіцця дэмакратычных працэсаў у сучаснай Беларусі праз адкрыццё нацыянальнай гісторыі. Фонд Льва Сапегі, які на працягу дзесяці гадоў узначальваў Генадзь Праневіч, стаў у Берасці своеасаблівым грамадска-культурным цэнтрам, дзе гуртаваліся дэмакратычныя сілы незалежна ад узросту, прафесіі, заняткаў, дзе збіраліся маладыя і сталыя, каб праз лекцыі дасведчаных творчых людзей — гісторыкаў, літаратараў, мастакоў — адкрываць раней невядомыя старонкі беларускай гісторыі, культуры, каб расці духоўна. Засталіся яго, можа, не надта шыкоўныя знешне, аднак багатыя зместам, інфармацыяй, аналізам кнігі пра Льва Сапегу. Любіў цытаваць асобныя палажэнні са «Статута Вялікага Княства Літоўскага», захапляўся ідэяй дзяржаўнага будаўніцтва на асновах самакіравання, законаў, волі народа...

Было ў ягонай натуры вернае, рыцарскае, рамантычнае... Пэўна, гэта ішло не толькі ад ягоных літаратурных зацікаўленняў, але найперш ад унутранага духу, узгадаванага традыцыйным сялянскім укладам, дзе спрадвеку шанаваліся маральныя законы сялянска-родавых адносінаў. Было ў ім высакароднае, шляхецкае стаўленне да тых, каго прыняў да душы, і непрыманне фальшу, хамелеонства, няшчырасці...

Быў верны свайму навуковаму кіраўніку, сябру прафесару Алегу Антонавічу Лойку. Гэтак маглі разумець, адчуваць адзін аднаго ў навуковых праблемах, так адпаведна і спяваць і журыцца — толькі вельмі блізкія духоўна людзі. Абодва былі захопленыя старажытнай літаратурай, паэтам-прарокам Янкам Купалам, пытаннямі развіцця рамантычнай плыні ў беларускай літаратуры. Быў верны сяброўству з Уладзімірам Андрэевічам Калеснікам. З даверу У. Калесніка прыняў Генадзь Мікалаевіч кіраванне кафедрай беларускай літаратуры ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце. Застаўся верным сяброўству з Зосяй Міхайлаўнай Калеснік, верным памяці У. Калесніка, калі, больш за дваццаць гадоў, быў жаданым госцем у хаце Калеснікаў, калі хата жыла ўжо без гаспадара. Кніга пра У. Калесніка выйшла пад рэдакцыяй Г. Праневіча, пры ягонай шчырай дапамозе ў збіранні і кампанаванні матэрыялу. Ягонае слова пра У.Калесніка — гэта знак не толькі павагі і пашаны да асобы вядомага даследчыка, але і выява ўласнай годнасці і людскасці.

Незраўнаны апавядальнік у сяброўскай бяседзе. У коле сваіх блізкіх сяброў быў шчодры на прыгожае слова, на жарт, на добрую іронію, тонкі гумар. Так шчыра і адкрыта гучаў ягоны смех, калі ўспамінаў сам нешта вясёлае ці чуў што дасціпнае і вясёлае з вуснаў іншых. З ім была паэзія, і ў хаце Калеснікаў пры Зосі Міхайлаўне гучалі паэтычныя творы аўтараў: Н. Мацяш, Г. Праневіча, К. Жмінько, С. Варонік... Такую высокую паэтычную ноту трымаў і вёў ён...

Паэт, удумлівы і дасведчаны літаратуразнаўца, высакародны чалавек, ён быў некалькі разоў на самай мяжы, на самым краі невяртання... Ды Бог даваў сілы зноўку вяртацца да ўлюбёнага занятку, да жыцця са Словам!..

Запомніўся цудоўным аратарам. Так красамоўна прамаўляць — не чытаць! — лекцыі, даклады на навуковых канферэнцыях умеюць не многія. І часта гэта было не прамаўлянне падрыхтаванага, прадуманага, а само разважанне, развіццё-тварэнне думкі падчас выступленняў. У гэтым была своеасаблівая магія: ён здзіўляў і зачароўваў і глыбінёй выказвання, і такой непасрэднай захопленасцю тым, пра што ці каго апавядаў, што хацеў паказаць сваім слухачам.

Помніцца шматлікія сустрэчы ў Адукацыйна-асветным цэнтры імя Уладзіміра Калесніка, у абласной бібліятэцы, дзе Генадзь Праневіч выступаў, як сёння кажуць, мадэратарам. Ён быў на творчых вечарынах, імпрэзах вядучым, сувязным, пасярэднікам, ён — звязваў, злучаў, аб'ядноўваў, падводзіў, абагульняў, падсумоўваў... Так было і на сустрэчах з украінскімі пісьменнікамі, і з Алесем Разанавым, з нямецкімі аўтарамі, Святланай Алексіевіч...

Перастаў працаваць на кафедры, але не перастаў жыць літаратурай. Напісаў прадмовы да кніг Ніны Мацяш — «У прыгаршчах ветру» і «Выбраныя творы» з серыі «Беларускі кнігазбор». Пранікаўся яе паэзіяй, яе драматычным лёсам... Помніцца ягоная падтрымка пасля пахавання паэткі, сяброўкі, калі было так невыносна балюча, горка і роспачна... Яна была ў ягоным успрыманні, у ягонай ацэнцы — як неаднойчы выказаўся ён — вартаю прылічэння да ліку святых. Так ацэньваў яе зямны шлях, яе служэнне, яе духоўны подзвіг...

Творчая праца, грамадская дзейнасць дазволілі адкрыць Генадзю Праневічу Кракаў, Барселону, Амерыку... Прывозіў адтуль уражанні ад прачытанага, пачутага, убачанага. Яшчэ больш захапляўся беларускай культурай, акрэсліваючы яе ў кантэксце іншых, яшчэ больш чаравала яго «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага, яшчэ больш пранікаўся пракаветным таямнічым голасам Белавежскай пушчы, голасам Прыпяці, паэзіяй Палесся. Невыпадкова пры ягоным актыўным удзеле былі падрыхтаваны кнігі «Белавежская пушча ў духоўнай і культурнай спадчыне беларусаў», «Радаводнае дрэва Прыпяці», «З прыродай зліўшыся душой».

27 красавіка 2017 года збіраўся ў Віцебск на навуковую канферэнцыю «Леў Сапега — чалавек трэцяга тысячагоддзя». Сапегаўская канферэнцыя чакала свайго асноўнага дакладчыка і аўтара кнігі пра Льва Сапегу. Ды раптоўна — у сваёй хаце ў маляўнічым лясным кутку на Берасцейшчыне, дзе апошнім часам ён жыў са сваёй любімаю жонкаю Жэняй, — спынілася ягонае сэрца... Сэрца, якое ўмела суперажываць, радавацца і сумаваць, сэрца, нераўнадушнае да балючых праблемаў часу, Радзімы, чалавека... Пакінуў у жалобе і смутку сваіх родных... Ды за ім — у ягоным пасаджаным садзе — двое сыноў і дачка. І — дзевяць унукаў! Дзявятая ўнучачка прыйдзе пацешыць-суцешыць у горы сям'ю, калі ўжо адляціць у Вечнасць дзед Генадзь... Залатая Злата...

І з намі ягонае грунтоўнае і прачулае слова пра рэнесансавыя постаці нацыянальнай гісторыі, пра помнікі беларускага прыгожага пісьменства...

У гэтыя першыя балючыя ўгодкі адгукаецца ў душы паэтычнае слова Генадзя Мікалаевіча — філосафа, паэта, улюбёнага ў гармонію, у прыроду, у Слова... Ён паяднаў — у прасторы і часе — стагоддзі і гісторыі, мінулае і сучаснае, сцвердзіў сваім жыццём і працай высокі чын служэння Слову, Чалавеку, Айчыне...

**Марыя Новік**

# Жыць трэба

Генадзь ПРАНЕВІЧ

***

*Мама! Ты мыла падлогу*
*і рукі, патрэсканыя ад марозу,*
*сновалі туды і сюды...*
*Ты мыла падлогу —*
*здавалася, мыла дарогу,*
*каб дзеці па чыстай*
*дарозе ішлі!*

*Я іду, мая мама,*
*шмат дзён і начэй...*
*толькі сонца*
*паўсвета абыходзіць хутчэй!*
*Яно падае ноччу,*
*у знямозе, без сіл*
*за круты, быццам лоб,*
*небасхіл.*

*І спяшаюся я*
*з ім зраўняцца да дня...*
*І пасецца ў начным*
*думак вольных сям'я.*
*Ты са мной у дарозе...*
*Хоць стаіш на парозе,*
*за які я пайшоў!*
*Развятрыліся пасмы*
*сівых валасоў...*
*І глядзіш ты сляпымі*
*вачыма*
*ў прастору:*
*дзе ў бязмежнасці гэткай*
*знайшоў сын апору,*
*дзе ён сілы знайшоў?*

***

*Ільды растаюць,*
*пацяпленне ідзе*
*ў Антарктыду,*
*кроў цяплее ў кітоў,*
*у мядзведзяў палярных*
*і нават у рыб...*
*Дык чаму ж чалавек*
*на прасторах зямных*
*ледзянее,*
*абрастае карой раўнадушша*
*і сэрца хавае ўглыб?*
*Мне няма што сказаць...*
*Я на ўскрайку стаю акіяна,*
*там, дзе рушацца льды, —*
*воч не ў сілах ад іх адарваць!..*
*Кроў цяплее у рыб...*
*А твая —*
*Чалавек!!! —*
*замярзае...*
*І кавалачкам лёду*
*Апускаецца сэрца ўглыб...*

***

*Жыць трэба з адчуваннем,*
*што ты —*
*энергетычная*
*кропка свету,*
*лямпачка ў начы,*
*ад якой запальваецца сонца*
*і ружавеюць аблокі...*

*Што край зямлі —*
*толькі прамежкавая станцыя*
*у тваім падарожжы*
*да нязбытнага!..*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (141) | 25 мая 2018 | № 19 (582) Новы Час

# MARA

## Словы пра мастака Аляксея Марачкіна — Алеся Мару



Адам ГЛОБУС

### Паліто

У мастакоўскіх асяродках Аляксей Марачкін стаў знакамітым у сярэдзіне 70-х. Ён меў чорныя вусы, хадзіў у доўгім чорным паліто не і капелюшы. Першы раз я пабачыў яго ў калідоры мастацкай вучэльні. Ён падаўся мне веліканам. Я пацікавіўся, хто гэты велікан у чорным капелюшы і да каго з нашых ён прыходзіў. Валодзя Ісачанка сказаў, што гэта мастак Марачкін, які прыходзіў да Валодзі Гладкевіча, бо яны абодва з Жодзіна.

Карціны Марачкіна я ўжо ведаў на той момант, і таму так яскрава запомнілася першае ўражанне пра постаць выбітнага мастака, які крочыць шырокай хадою праз цемнаваты калідор. Фалды незашпіленага паліто на былі падобныя на вялікія крылы, якія мусяць праз імгненне разгарнуцца і выправіцца ў палёт.

### Жодзіна

Адзін час Марачкін лічыўся найвялікшым мастаком у Жодзіна. Быў у яго жодзінскі перыяд. У некага ёсць віленскі перыяд, у некага парыжскі, а ў Марачкіна быў плённы творчы час зніта ваны з індустрыяльным Жодзіна. Ён зрабіў сабе майстэрню ў падвале. Туды збіраліся зусім маладыя мастакі. Збольшага гэта былі студэнты. Бачыў я там Сярмяжку, Ступакова, Сіўчыкава, Гладкевіча… На сцяне ў той цемнаватай майстэрні я пабачыў густоўны партрэт — «Бабка Марыля». Музейны твор вісеў у жодзінскім падвале. Гэта ўражвала. Там шмат усяго рознага весела і стаяла, але запомнілася «Бабка Марыля». Акрамя партрэта помняцца размовы вучняў Марачкіна, якія пасміхаліся з Марачкіна-малодшага — Ігара — і казалі, што з яго не атрымаецца добрага мастака. Ён, маўляў, стараецца, і бацька яго прымушае маляваць, але мастака з яго не выйдзе. Шкада, што з тых жодзінскіх таленавітых і вясёлых пачаткоўцаў, якія кпілі з Марачкіна-малодшага, не атрымалася ніякіх мастакоў: ні кепскіх, ні пасрэдных, ні добрых. З тых жодзінскіх вучняў Марачкіна мне найбольш шкада Ступакова — майстравітага малявальшчыка, і Сярмяжку — вытанчанага жывапісца. Дарэчы, з Ігара мастак атрымаўся…

### Марачкін і Маркавец

У мастацтве і літаратуры шмат артыстычных пар. Калі казаць пра беларускую традыцыю, дык Колас і Купала — наша асноўная творчая пара. Яны бацькі-заснавальнікі беларускай культуры і нацыі, нашай самастойнасці і незалежнасці. У немцаў падобная пара таксама складаецца з паэтаў: Гётэ і Шылер. Першыя рускія пары больш празаічная: Пушкін і Гогаль, пазней — Талсты і Дастаеўскі, але ў сваім срэбным стагоддзі руская культурная традыцыя зноў вярнулася да паэтычнасці і атрымала Маякоўскага з Ясеніным. Цікава тое, што Ясенін сябраваў не з Маякоўскім, а з Марыенгофам. Яны нават спалі ў адным ложку, але не сталі артыстычнай парай. Так што не ўсе тыя артысты, хто спіць у адным ложку, з'яўляюцца артыстычнай парай. Для стварэння і замацавання паэтычнай пары патрэбны непараўнальныя творцы, якія будуць нагадваць непараўнальныя рэчы: такія, як неба і зямля, як агонь і вада, як чорнае і белае, як лета і зіма… Такія рэчы не могуць існаваць адно без другога. У мастацтве падобныя пары можа і не такія значныя, як у літаратуры, але і яны не менш каштоўныя. Пара Ван Гог і Гаген, пэўна ж, самая знакамітая. А Сёра і Сіньяк сваім маціцовым пуантэлізмам больш як стагоддзе зачароўваюць аматараў жывапісу. У жывапісца Марачкіна гэтаксама ёсць парны творца — Маркавец. Яны прыйшлі ў беларускае мастацтва разам. Там, дзе быў Марачкін, там быў і Маркавец. Маладасведчаныя гледачы нават блыталі Маркаўца з Марачкіным, як малаадукаваныя людзі блытаюць Коласа і Купалу. Маркавец быў спакойны,

**Марачкін чалавек добры, а таму вакол яго заўжды круцілася і круцяцца шмат людзей, большасць з іх малаталенавітыя і маласумленныя. Так заўжды бывае, калі вядомы чалавек мае яшчэ і добрае сэрца**

як зямля, а Марачкін рухомы і дынамічны, як навальнічнае неба. Маркавец быў жывапісцам светлай раніцы, а Марачкін жывапісец шарай гадзіны і глыбокай ночы. Здавалася, што Віктар Маркавец будзе жыць доўга-доўга, і на шмат гадоў перажыве свайго асноўнага паплечніка. Толькі лёс быў жорсткі да Маркаўца: ён захварэў на рак і памёр, пакінуўшы Аляксея Марачкіна ў творчай адзіноце.

### Хуткаплыннасць

Для мяне Марачкін належыць да тых мастакоў, на творчасці якіх я старанна вучыўся. Я не проста разглядаў на выставах яго новыя карціны, яны натхнялі на перайманне. Страшэнна хацелася напісаць палотны, падобныя да «Нацюрморта з дранікамі», да «Мары пра палёт. Партрэт сына», да «Арэляў. Успамін аб маёй вёсцы», да «Алена з Прошчыцаў», да «Касі каса, пакуль раса», да экспрэсіўнага твора «Дарога»… Нешта падобнае я і спрабаваў рабіць на апошніх курсах мастацкай вучэльні. У карцінах Марачкіна мне яшчэ падабалася іх антытэхналагічнасць. Неўзабаве яны проста мусілі змяніцца і паразвальвацца. Гэта як малюнкі на пяску, як малюнкі на снезе, як скульптуры з лёду. Яны радуюць цябе яшчэ і тым, што хутка зменяцца, знікнуць, забудуцца. Нешта падобнае я адчуваў каля палотнаў Марачкіна. Калі казаць проста, у іх была хуткаплыннасць жыцця.



### Сухія кветкі

На самых першых этапах акадэмічнай адукацыі мастакі пішуць і малююць шмат нацюрмортаў. Гіпсавыя яблыкі і гіпсавыя конусы, парафінавыя грушы і чэрствыя абаранкі, пудзілы качак і выцьвілыя анучы, запыленыя маскі і пустыя бутэлькі складаюць класічны нацюрмортны фонд у мастацкіх школах. Навучэнцы спрабуюць намаляваць пудзіла пеўня так, каб ён як мага больш нагадваў жывую птушку. Парафінавая садавіна і гародніна пішацца сакавітымі фарбамі, пішацца ярка, каб яе хацелася пакаштаваць і з'есці… Усе мастакі будуць спрабаваць ажыўляць мёртвую натуру. Высвятлілася, што не ўсе. Мастак Марачкін пайшоў у адваротным накірунку. Усе кветкі на яго ных палотнах прывялыя і сухія. Усе пташкі на яго ных карцінах падобныя на пудзілы. Усе дранікі пачарнелыя. Увесь часнык паджоўк. Бульба падгарэла. Папера пакамечылася. Жалеза пакрылася іржою. Выглядала на тое, што карціны Марачкіна павінны стаць мяртвейшымі за ўсё мёртвае, а яны глядзяцца жывымі, бо ў мастака ёсць талент ажыўляць рэч.

### Сыс

Марачкін добра ставіўся да паэта Сыса. Наогул, Марачкін чалавек добры, а таму вакол яго заўжды круцілася і круцяцца шмат людзей, большасць з іх малаталенавітыя і маласумленныя. Так заўжды бывае, калі вядомы чалавек мае яшчэ і добрае сэрца, дык за ім цугам ходзяць лісліўцы, папрашайкі ды эпігоны. Злы адразу скажа нязда рам, каб яны не замінаці дыхаць, жыць і працаваць. Добры будзе трываць чужую недасканаласць, нахабства і назаленне.

У апошнія гады свайго жыцця паэт Анатоль Сыс быў цяжкім чалавекам. Піў, плакаў, крычаў, сварыўся, гістэрыкі закатваў… Мала хто мог доўга вытрымліваць каля сябе такога вечна п'янога хама і генія ў адной неахайнай упакоўцы. Марачкін не толькі трываў Сыса, ён яго паважаў і дапамагаў.

Марачкін зрабіў вокладку апошняй прыжыццёвай кнігі Анатоля. На першы погляд нічога велічнага і адметнага ў той стрыманай вокладкі і няма. Два фота Анатоля ў профіль. Паэт углядаецца сам у сябе. Звычайны шрыфт. Але ж гэта апошняя прыжыццёвая кніга вялікага беларускага паэта, а таму каштоўнасць яе вокладкі неацэнная. Можа нехта яшчэ і не зразумеў значнасці гэтага твора Алеся Марачкіна, але я ўпэўнены, што ён з самага найлепшага і анталагічнага, што стварыў мастак.

### Рамы

Пішаш, перапісваеш, рэдагуеш, карэктуеш, выдаеш тысячы старонак, запоўненых словамі. Што з тых тэкстаў прачытаецца? Што запомніцца? Што знікне, прападзе, забудзецца? Каб жа ведаць…

**Яскрава запомнілася першае ўражанне пра постаць выбітнага мастака, які крочыць шырокай хадою праз цемнаваты калідор. Фалды незашпіленага паліто на былі падобныя на вялікія крылы, якія мусяць праз імгненне разгарнуцца і выправіцца ў палёт**

Ведаю, што з маіх вершаў запомнілася і падабаецца мастаку Марачкіну…

*«Як цябе недзе нехта згадае,*
*я адразу і ўспамінаю…*

*У капліцы абрабаванай*
*Шашаль точыць парожнія рамы…*

Іншага твайго і не запомніў. Чытаў шмат, а запомнілася пра абрабаваную капліцу…» — кажа Марачкін.

Кожнага разу я яго папраўляю…

У капліцы абрабаванай
Шашаль точыць пустыя рамы.

Марачкін пагаджаецца, што варыянт з пустымі рамамі больш дасканалы, але ў наступную сустрэчу я зноў чую пра парожнія рамы.

### Настрой

Вялікдзень, а святочнага настрою няма. Думаў, што ён адразу раніцай з'явіцца. Не з'явіўся ён ранкам, і ўдзень не з'явіўся. Здаецца, і сонечна было, і цёпла, і я па Мінску пахадзіў-пагуляў крыху. Думаў, што настрой знойдзецца. Вялікдзень — свята. Мяне бацькі ў праваслаўныя пахрысцілі. Самі лічылі сябе каталікамі, а мяне запісалі ў праваслаўныя. Дарэчы, на каталіцкі Вялікдзень святочны настрой у мяне быў. Таму і на праваслаўную Пасху ён мусіў з'явіцца. Я працаваў. Пісаў словы пра мастака Марачкіна. Маляваў ягоныя партрэты. Каву піў. Прыбіраўся ў майстэрні, бо ў суботу да мяне ў госці прыйшло ажно дванаццаць дзяцей. Мы малявалі. Мы коміксы гарталі. Сок пілі. Паразлівалі салодкі яблычны сок. Як інакш? Дзеці ёсць дзеці. Давялося мыць падлогу з мылам. Мыў і чакаў светлы настрой. Так без настрою і дамоў пайшоў.

Па дарозе зайшоў у кнігарню і там сустрэў мастака Марачкіна, і добры настрой з'явіўся. Мы пагаварылі, пасмяяліся. Марачкін купіў маю кнігу «Казкі сталічныя». На кнізе я напісаў удзячныя словы настаўніку ад вучня.

Калі ты чакаеш святочны настрой, ён абавязкова з'явіцца, абавязкова, хай сабе і толькі напрыканцы Вялікдня.

# Урачыстыя святы

Данута БІЧЭЛЬ



### Сакавік

*Месячык вымасціў зранку*
*месячным срэбрам расстанку…*
*Надта стамлёнаму сэрцу*
*ў медытацыі перагарэцца…*

*А можна ў кустах схавацца,*
*у калючых ружах ружанца,*
*уцячы ад сябе праз балоты*
*аж да Паўночнай Дакоты…*

*Божанька, дапамажы мне*
*з вярмом натхнення на шыі,*
*па зорках — то цёмных, то светлых,*
*трымаючыся за паветра…*

*нібы да сябе дадому,*
*уцячы ад сябе ў Аклахому,*
*учапіўшыся ў цёплы загрывак*
*сытых святых кракадзілак…*

### Гускі вяртаюцца

*У палоне традыцыі,*
*ігнаруючы межы-граніцы,*
*на адной інтуіцыі,*
*пад бубен грымотаў, шоргат крылцаў,*
*наваслеп, навобмацак, навылёт,*
*з поўдня лятуць на паўночны ўсход —*
*гускі — наватары і навігатары,*
*і самі сабе дыван-самалёт…*

*Цукаты, даты, гарматы,*
*гук, шум, пустка, тлум —*
*між Нілам і Нёманам*
*паветраных бураў паводка…*
*Прамою наводкай…*
*Адстрэльвае касаватая*
*маіх сяброў-аднагодкаў.*

*Вецер шалёны.*
*Гускі лятуць на свае палігоны*
*вольным клінам,*
*плачуць ад шчасця.*
*Пад нячутныя вуху глухому енкі*
*разбураюцца часу рэальнага сценкі.*
*Баляць каленкі.*
*Пад фальшывыя ноты,*
*эксперыменты дзівоты…*
*Псіхалагічныя інспірацыі —*
*гускі вяртаюцца!*

*Новыя фугі, кантаты ў крылах*
*ствараюцца.*
*Музыка, нібы касцельны звон,*
*на натхненне варон,*
*на ўталенне смагі,*
*падмацунак птушынай адвагі.*

*— Гусачкі мае!*
*Калі на поўдні няма гравітацыі,*
*калі там падаюць жабоцькаў на тацы,*
*чаму вам трэба сюды вяртацца,*
*да гэтай жаласнай навігацыі?*

*— А як жа нам, гусачкам, не вяртацца*
*высокай нябеснай сцяжынкай вузкаю,*
*калі ў кожным гусі, у кожнай гусачцы,*
*як магнітам, прыцягвае нас наша музыка,*
*у несвядомым супольным сугуччы —*
*калі нам не ўзляцець, то замучымся…*
*Музыка гор, нябёс у нагрузку*
*пераносіць музыку-гуску*
*у вобраз, у транс,*
*у жыццё без абраз,*
*старажытны і новы блытае час…*

*Чыстыя гукі з-пад хмарак збіраюцца —*
*гускі ў гуках купаюцца,*
*у напластаванні паветраных хрыбтоў*
*і ямаў,*
*у чыстым гранні рытмаў, метафар*
*і ямбаў,*
*душачак з розных закуткаў неба…*
*Пранізлівы крык — як з-за светаў*
*сувязных зямных кантынентаў,*
*гускі, натхненне рэк, балот і паэтаў,*
*сэрцаў эквівалентаў, жывых*
*інструментаў…*

*Можа не лётаць самалётаў, ракет —*
*гускі яднаюць невідочны і відочны сусвет.*
*У гусіным клінку кожная гуска*
*мае сваю пад крыло нагрузку.*
*А ці мяняюцца месцамі ў лёце,*
*ці не мяняюцца, —*
*гускі не жаляцца, не спавядаюцца…*

*Так, за нябеснымі перазагрузкамі*
*справы Боскія са справамі людскімі…*
*злучаюцца гускамі-андалузкамі,*
*эльбрускамі ды французкамі,*
*індускамі ды тунгузкамі,*
*этрускамі… беларускамі…*
*Гускі шэрыя, белыя, белахатыя,*
*вяртаюцца з выраю — на балота,*
*дахаты…*

**29. 03.2018 г.**
**Чысты чацвер.**

***

**Памяці сяброўак з вёскі Біскупцы Рэні Язэпавай, Веркі Буйніцкавай**

*Гэткія галапагосікі —*
*душы сяброўак голенькія ды босенькія,*
*з галінкамі віленскіх вербаў,*
*з наіўнаю ў Езуса верай,*
*на крылцах стракозкаў…*
*Узлятаюць за Гостьяй*
*сяброўачкі мае з вёсачкі,*
*на нябёсы Богам пакліканыя*
*перад Вялікаднем,*
*так адбываюцца*
*справы вясковыя і справы свойскія…*
*Каб сустрэцца нам зноў*
*на градках зялёных, хмарках,*
*у спелых трускалках —*
*так не бывае…*
*Натхненне не забівае…*
*Жмені ў натхненні…*
*боль выходзіць праз пальцы,*
*спальваецца на хмарцы.*
*З твайго Мялёгава, Мядзведзевалогава,*
*на твае Павалокі, у аблокі,*
*душа твая лёгенькая, Рэня,*
*маё натхненне праз пякельны твой боль.*
*Мы не спаткаемся больш.*
*Хіба што на нашых могілках…*
*Святая Рэня!*
*Цела твае, як душа твая, лёгенькае,*
*як летуценне…*
*Чаму цябе смерць так спадабала?*
*Як ты ўсіх —*
*мужа, сына, сястру, братоў і зяцёў дваіх —*
*такая худзенькая, сама пахавала?!*

*А я ў бяссонні вяртаюся ў тое зацьменне,*
*калі мы сена балотнае грэблі*
*каля вашай грэблі,*
*і раптам некуды згубілася сонейка.*
*І мне хацелася схавацца за Толіка,*
*такое сэрца было трымцэнне.*
*Прывітанне любові перадавай ім, Рэня…*

*Вечны спакой вам у Бозе!*

### Да святога Блажэя

*Выглядаю зусім не пачварнай —*
*між галінкаў спалоханай сарнай…*

*Зіма на святога Блажэя…*
*Дзве белыя свечкі не грэюць.*
*Снегавіцай зімовай кленчу,*
*запаліўшы белую свечку,*
*а вусны ксяндза шэпчуць,*
*на лаціне Блажэя клічуць…*
*Святы ксяндза разумее —*
*і горла маё дужэе…*
*Святы Блажэю, дапамажы мне.*
*Дзве белыя свечкі, скрыжуй на шыі,*

*І я шапчу, як хачу, —*
*прыйшла да цябе, бо хвараю…*
*А ты мае словы чуеш,*
*добры святы Блажэю,*
*усмешкаю белых свечак —*
*шыя мая старэчая*
*ад свечак святых — прыгажэе:*
*пералажу праз пералазкі,*
*не баляць гарляка майго звязкі,*
*не душыць нячысты дух,*
*калі пад горачку йду,*
*несучы між ямаў, платоў*
*каменне пражытых гадоў…*
*Вопыт маеш — дапамагаеш,*
*зведаў болю крывавы танец…*
*як горла сцінаў нікчэмны паганец.*

*Кошт жыцця вымяраецца*
*коштам пакуты.*
*Колькі ў сваёй даброці дае нам Бог,*
*каб смерць была, як ціхі*
*спеў на пабудку,*
*на прадзіранне ў іншы, нязмушаны час…*
*флейта, дудачка, кантрабас.*

### Урачыстае свята

*Бацька ненаўмысна спаліў радзіму*
*разам з дзедавай хаткай,*
*у якой стаў попелам сам.*
*Попел пакінуў сынам.*
*Несвядома сябе за кару*
*Богу прынёс у ахвяру.*
*На попеле вырас мох*
*на скрыжалях старых і новых дарог*
*з Усходу на Захад ці наадварот.*
*Кроцікаў, конікаў, жабкаў*
*бароніць Бог…*
*Бусел як лётаў, так і лятае*
*з Масцішча ў балота*
*на пастаўнік, дахаты…*
*У бусліка тыя самыя*
*светлагляды і цемрагляды.*
*У яго не мяняюцца даты…*
*Урачыстыя святы.*

### …За секунду да абуджэння

*Наймацнейшае выпрабаванне —*
*невядома чаго чаканне…*
*нібы нейкае ёсць прадчуванне…*
*прыйдзе раніца, нехта не ўстане.*

*Прадчуванне, напэўна, ёсць,*
*што ты ў гэтым свеце — госць.*

*А калі ведаеш, чаго чакаць,*
*то можна хоць у браню апранаць*
*свае пакуты-цярпенні…*
*Можна апоўначы плаваць па цемры,*
*калі людзі, снатворнае выпіўшы, спяць…*
*калі Бог тваіх пятак не бачыць,*
*і Богу не хочацца перайначваць*
*Божыя прадвызначэнні…*

*Найбольшая мука чакання,*
*калі мукі самой шчэ няма.*
*Зноў жа нейкае ёсць прадчуванне:*
*пражываеш жыццё задарма.*

*Лепш прадчуваць імгненнасці светлай,*
*зразумеўшы даўно, —*
*ты не належыш да гэтага свету,*
*служачы яму ўсё жыццё.*

*І табе ўжо нават не марыцца,*
*нібы нешта ў жыцці тваім здарыцца,*
*а табе ўжо — ані знаццё…*

*…Як нам бераг зайздросціў —*
*як мы ўмелі мудра маўчаць!*
*І Бог у сваёй даброці*
*даў цярпення больш, чым жыцця.*

### Хадзіў Архібель

*Хадзіў Архібель ад хаты да хаты,*
*збіраючы срэбра, дукаты.*
*Хадзіў па буры ад вёскі да вёскі,*
*нібы пасланец нейкі Боскі.*
*Хворы, сляпы, уся скура ў нарывах…*
*А быў Архібель шчаслівы,*
*таму што быў вольны, як шчэпка ля*
*плота…*
*Ды неяк зваліўся ў балота.*
*Ледзь выцягнуў з багны падбітыя пяткі.*
*І торбу ж знайсці неяк трэба…*
*І ўсклікнуў: «Хваліце Пана на небе!*
*Зямлю захапіла чартоўскае племя,*
*а ў чорта дурныя парадкі!»*

### Паэзія

*Абавязкова…*
*ціша просіць, каб нехта вымавіў слова.*
*Думку можна злёгку пхнуць, каб упала…*
*А той, хто пхае, і тое, што папіхнулі,*
*праз мітусню…*
*разам ствараюць такую гульню…*
*называецца спрэчка, дыскусія…*
*Хіба нас сварыцца прымусілі?*
*Ціша — як бліскавіца з-пад хмаркі,*
*і дождж прымчаўся шпаркі…*
*Калі ж ніхто не знайшоўся*
*праўдзівае слова мовіць —*
*а слова, нібы выпадкова,*
*знячэўку лезе, —*
*гэта ўжо будзе паэзія…*
*Глыніце са шклянкі гэтай гаданкі,*
*гэтай сівой галадранкі…*
*магчыма, у вуснах абудзіцца музыка,*
*магчыма, у вачах ажыве карціна…*
*магчыма, вас палюбіць Айчына…*

*Ды гэта, зноў жа, дыскусія.*
*І гэтую цішу слухаць не мусіце,*
*каб пасля без натхненняў не мучыцца…*

### Старэчая памяць

*Перад тым, як мы пойдзем,*
*трэба неяк запомніць,*
*што ў выраі лятуць на поўдзень,*
*а вяртаюцца з поўдня на поўнач…*
*Я гэта ведала добра,*
*калі жыла сабе дома, —*
*таксама ў выраі лятала,*
*і памяць туды вяртала,*
*дзе стаіць наша хата…*
*Тата,*
*чаму ты мяне адпусціў*
*на ўсё жыццё, як на свята?*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (141) | 25 мая 2018 | № 19 (582) Новы час

# ПАЗЛ

## (Фрагменты з рамана)



Валеры ГАПЕЕЎ

Агарод для старой Сёміхі быў яе сусветам і сэнсам. Як толькі пайшла на пенсію (рабіла ў бухгалтэрыі нарыхтоўчай канторы), ад самога ранку і да таго, пакуль магла разлічаць на зямлі парасткі, корпалася ў градах. Градкі былі пад шнурочак, ні каліва якой зяліны, усе зялёначубыя цыбуліны былі падобныя адна да адной, а кусты памідораў быццам падстрыгала — гэткія былі роўныя, бухматыя, цвілі дружна. Яе сагнутая спіна прызвычаілася да такога стану, прыцерліся косткі і храсткі, падцягнуліся жылы, і для Сёміхі ўстаць прама сярод рабочага часу па нейкай патрэбе было куды больш знясільна, чым рачкаваць. Твар яе і рукі за цёплы час рабіліся шэрымі, нібы нацягвала тае шэрасці ад град. За зімовыя месяцы скура святлела, ды нейк хваравіта, і сама Сёміха пачувалася хворай і лядашчай, штотыдзень наведвалася ў паліклініку, дзе ў чэргах абавязкова з кім-небудзь лаялася. Нудзілася да першых праталін, з імі тупала па агародзе і па двары, нешта грэбла, выбірала, і ад той прагрэтай зямлі бы ўсмоктвала жыццядайную сілу — жвавей і жвавей рухалася з кожным днём, не разгінаючыся, мармычучы сабе нешта пад нос, часам старэчым вісклівым голасам крычала на варон ды гракоў, якія шукалі спажывы на агародзе.

Дачка яе, бабылка Зося, таксама пенсіянерка, мужападобная, з кароткай шыяй і дужымі рукамі, з'яўлялася ў маці зімой зрэдку, а з вясны, як выскоквала з зямлі першая гародніна, то раз на тыдзень, у сезон агуркоў-памідораў ды трускалак і часцей. Сама яна ніколі ў агарод не ішла — Сёміха не пускала, гародніну «загружала» дачцэ ў двары. Зося сама цягала торбы і мяхі да старога аўтамабіля, які прыпыняўся на вуліцы ля хаты, — вадзіцель, сужыцель Зосі, адно адчыняў багажнік. Быў ён хліпкі, бы гліст, і Сёміха яго ніколі не запрашала ў двор, тым больш — за стол у хату.

З дачкой яна амаль не размаўляла.

Муж Сёміхі, Сямён, быў старэйшы за яе на восем гадоў, прыйшоў з фронту без трох пальцаў на правай руцэ, затое ж — мужчына! Ды раненне не дало яму доўга пажыць, і ад дзесяці гадоў дачку Сёміха падымала адна. А болей дзяцей не нарадзіла — адзін за другім тры выкідышы здарыліся, апошні раз ледзь не памерла, нешта там нарабілася, то дактары ўсё жаноцкае знутры выкінулі.

Сёміха трымала Зосю змалку ў строгасці, тая расла ціхай і паслухмянай. Не надта разумніцай. Са школай ёй дапамагаў сын суседзяў, Карпекаў. Іванка быў, як і ўсе хлапчукі, шкадлівы, але ж Сёміху пабойваўся, хоць і быў плот між іх агародамі нізенькі, а па трускалкі лазіць не лазіў. З суседзямі Сёміха мірна жыла, бо разумела: лепш са сваімі пабіцца, чым з суседам пасварыцца. Бо жыццё побач з ворагам — каму такая ласка трэба?

Ды ўрэшце — сталі ворагамі.

Іванка з Зосяй да юнацтва жылі бы сястра з братам, не біліся ніколі, хлопец, як падрос ды выцягнуўся, бараніў суседку паўсюль, бо надта ж ціхая, зацюканая расла дзеўчына. І разам яны, і разам. І ў лес па грыбы, і на рэчку — ды ўсё ад іншых людзей падалей. Упэўненая была Сёміха, што і ў «татку з мамкай» у якім зацішным месцы гулялі, дзе тут угледзіш? Адно Зосю прыстрашыла. Як былі дзеці цэлы дзень на рэчцы адны, то назаўтра, полючы грады, натрапіла Сёміха на жабку, згрэбла яе рукой, гукнула дачку і папярэдзіла: як задзярэ перад кім падол сукенкі ці хто рукой у трусіках яе палапае, то наступіць яна на адну нагу Зосі, хопіць другую і раздзярэ, як жабу. І тую жабу паказала, а пасля і папраўдзе ірванула яе за заднія лапы ды кінула знявечаную пад ногі дачцэ. Зося закалацілася ад страху і жудасці, клялася-прасілася: «Не-не, мамачка, не-не!»

Калі ў дачкі цыцачкі як след акругліліся і настаў канец школьнаму навучанню, прыкмеціла Сёміха: глядзіць яе Зося на Іванку зусім не як на брата, саромецца хлопца пачала, чырванець без прычыны. Ужо на яблыню ў сукенцы не лезе, як Іванка знізу стаіць. Ды і Іванка, было відаць, канфузіўся раптам на пустым месцы, лапатаў абы што, як пра яго ды дачку спытаешся. Прыглядзелася Сёміха і вырашыла: а лепшага мужа дачцэ і не знайсці. І Карпекі — людзі не злыя, дом у парадку, не багатыя, з мазаля жывуць, капейку маюць ды берагуць, на абы якое не марнуюць.

Даведалася пра планы хлопцавы: год трактарыстам у ПМК папрацуе, пойдзе служыць, а затым паступіць на тэхніка. Возьмуць пасля арміі!

Зося праводзіла свайго суседа Іванку ў салдаты нявестай нарачонай. Карпекі Сёміху ў чырвоны кут пасадзілі, бы сваячку. І два гады чакання прайшлі хутка. Зося ў вучылішча раней падалася, адвучылася, тынкоўшчыцай пачала працаваць. Усе два гады Сёміха пільнавала дзеўку, ні хвілінкі не пакідала без нагляду. Ні на якія танцулькі, крый Божа! Праўда, Зося і сама нікуды не ірвалася.

Маўклівая, сцішаная пакорліва выслухоўвала навучанні маці, гледзячы долу… Лісты, якія слаў з войска Іванка, Сёміха чытала ўсе — прымушала іх паказваць.

Калі да вяртання свайго будучага зяця заставалася з месяц, яна аднойчы пасадзіла дачку насупраць сябе на зэдлік, сама села на ложак і прынялася распытваць пра самыя дробныя дробязі ў яе з Іванкам адносінах. Вядома, у першую чаргу, інтымныя: куды руку клаў, дзе мацаў. Зося счырванелася так, што кроў гатовая была пырскаць з вушэй і шчок, але чуючы жорсткі і патрабавальны тон, расказвала дрыготкім голасам. З яе слоў Сёміха зрабіла суцяшальную выснову: абое заставаліся цнатліўцамі.

І ўпэўнена загадвала дачцэ: па вячэры-сустрэчы весці Іванку ў свой дом, дзверы зашчапіць ды не марудзіць, а распранацца да голага і ў ложак адразу класціся. Іванка галодны ж на дзявочую ласку, палезе следам, як міленькі.

— З якой крыніцы сасмяглы нап'ецца, з той яму вада найлепшая на ўсё жыццё! — навучала. — Як салодка дасі, то тры разы на дзень папросіць і ні на якую потым не зірне! А прамарудзіш, дык не зловіш, на такога жаніха кінуцца сучкі розныя.

Зосіны счырванелыя, поўныя слёз сораму вочы кругліліся ад будучага жаху, ды слова супраць маці вымавіць не змагла. А Сёміха вучыла дачку ў самых падрабязнасцях, не зважаючы на яе апушчаную ад пякучага сораму галаву.

Так і пакацілася. Нямеючы ад страху перад будучай ноччу, Зося прасядзела побач з Іванкам на вячэры, не кранаючыся ні ежы, ні пітва. А ён еў многа і піў добра. І быў зусім не тым суседскім хлопцам, якога ведала раней: жартачкі пахабныя казаў, мацюкаўся смела (адслужыў жа!), лапаў яе пад сталом за калені і вышэй, сціскаў да болю нагу. Зося мярцвела, маўкліва зносіла агідныя ёй цяпер дакрананні. Выйшлі першы раз з-за стала на двор, дзе сябры настройвалі прайгравальнікі, Іванка пацягнуў уладна Зосю ў сад, за кусты парэчак. Там палез цалавацца, хапаючыся за грудзі, жывот, мацаючы ніжэй. Не адбівалася, толькі прасілася, амаль губляючы прытомнасць ад сораму (могуць жа пабачыць!) і страху: «Іваначка, пазней, пазней… у хату да мяне пойдзем…»

Распранутая, калацілася ў ложку, як у ліхаманцы, моцна-моцна заплюшчыўшы вочы, абы не бачыць, як скідае сваю армейскую форму Іванка. Затым ён наваліўся зверху, дыхаючы горача тытунёвым і самагонным смуродам у твар, ціснуў да болю грудзі. Яна задрыжала яшчэ больш — цяпер ад знянацкага дакранання чужога голага цела да свайго аголенага, здалося, і ўспыхнула ў ёй шчымлівае і салодка-забароненае, змагла шырока раскінуць ногі, падняўшы калені, але адначасова ўнутры яе, унізе, сціснулася ўсё ад прадчування непазбежнага болю супраць яе волі так моцна (маці ж казала — будзе балець і кроў будзе!), што нічога не атрымалася ў Іванкі, і праз хвіліну Зося адчула, як гарачае і ліпкае густа пырснула на яе лона.

Хлопец знясілена ўпаў тварам на падушку побач, а яна невядомым веданнем зразумела: нічога не атрымалася, ён не змог, і яго пячэ сорам за сваё няўменне. Яе па-ранейшаму калаціла саму, але страх мінуў, прыйшло пачуццё вінаватасці — не выканала казанага маці: не абдымала і не прыціскала да сябе, не цалавала, не галубіла… Слёзы пакаціліся з яе вачэй, павярнулася асцярожна з думкай-жаданнем абняць хлопца, папрасіцца, а той ужо спаў.

Доўга ляжала, слухаючы, як роўна дыхае хлопец. Зніякавела ад няведання — маці ж не сказала: ці то ісці на канапу, ці то ляжаць голай з Іванкам да раніцы. Было цеснавата, легла бокам, прыціснулася да хлопца. Засынала з думкай: як прачнецца Іванка, будзе прасіць-вымольваць дараванне — бо то ж яна вінаватая, яна ад страху такая каменная і няўклюдная.

Развіднела, Іванка прачнуўся і падхапіўся, стаў мітуслівa апранацца, не азіраючыся на ложак. І ў яе не хапіла смеласці хоць голас падаць. Ён пайшоў з хаты моўчкі, спехам, як злодзей.

Зося не паспела ўстаць, як пачула стук дзвярэй, нацягнула на твар коўдру са страхам. Зазірнула маці.

— Ну, было?

Тая моўчкі ледзь кіўнула падбародкам.

— Крывёй прасціны не вымазала?

Зося праглынула даўкі камяк у горле, згадваючы пра мацярынскую навуку: падаслаць пад сябе чыстую дзяружку — тая засталася нявыцягнутай пад падушкай, куды яе паклала з вечара маці.

— Не было крыві, — здушана адказала і адвярнулася.

— Ну… паспі, — здобрылася Сёміха і прычыніла дзверы.

Зося заплакала.

Мажліва, усё б наладзілася яшчэ да вечара — дзяўчына вырашыла ўлучыць за дзень хвілінку і сам-насам павініцца перад Іванкам за сваю боязь ды сказаць, што хоць куды з ім пойдзе на ўсю ноч і ўсё-ўсё зробіць, як трэба, абы толькі ў іх усё атрымалася і ён не перажываў за сваю няўдачу. Але тут Сёміха вырашыла ўзяць справу ў свае рукі і ледзь пабачыла, як суседзі паснедалі, заспяшалася да Карпекаў. З парога завуркатала лагодна ды мякка: як ужо ў іх сына з яе дачкой выйшла так, варта пра вяселле думаць, хоць яна з дачкой адна, ды такі-сякі пасаг сабрала, не нішчымніцай дачку аддасць. Карпекі выпуліліся: Іванка вучыцца збіраецца, далей папрацаваць, за гэты час грошай збярэцца, каб на кватэру ставала, на першы ўзнос. А і было, дык дзела маладое, пачакаць жа можна…

Сёміха прыйшла ў шаленства: уся вуліца бачыла, як ранкам іх Іванка ад яе дачкі выходзіў… Хто на яе цяпер паглядзіць? З'едзе Іванка, гарадская ў яго ўчэпіцца — і кукіш тады яе Зосьцы?

Карпечыха была не з тых, каму можна было пальцы ў рот класці. Як то дачка пад хлопца легла, калі маці ў хаце? Мо й без ніякага галубіліся дзеці, ці ты са свечкай стаяла? Тут у Сёміхі і вырвалася: у суседкі начавала, а як прыйшла — пасцель разабраная, дачка голая і (тут прыбрахала для пэўнасці) прасціна ў крыві, не адмыеш. Карпечыха ўмомант да ўсяго дапетрыла: ты сама дачку навучыла і з хаты сыйшла!

Хвіліну б, і ўчапіліся адна адной у валасы, ды гаспадар, Карпека, умяшаўся: без вас дзеці разбяруцца, хай пагуляюць. Сёміха выскачыла з хаты з галашэннем: во, счэравалі яе дачушку, зняславілі матку, як жыць?

У той жа дзень яшчэ да абеду Іванка паехаў у госці да свайго дзядзькі — там быў тэхнікум, куды ён збіраўся паступаць. То і не змагла Зося з ім пабачыцца. І з таго дня вярталася з работы — і дома сядзела, не выходзіла з двара. Маўчала. А Сёміха цікавала за дачкой, бессаромна пыталася штодня: ці ёсць надзежы? Магчыма, ад перажытага стрэсу ды нерваванняў нешта збілася ў дзявочым арганізме, і месячныя ніяк не прыходзілі. Тут Сёміха ўзняла хай на ўсю вуліцу, каго ні сустракала, усім жалілася. А сама раўніва паглядвала на суседзяў: ведала, як бы тое ні было, а людзі яны з сумленнем, дый сам Іванка не ветрагон, куды дзенуцца, возьмуць дачку за нявестку.

Праз месяц палолі ўдвух грады, Сёміха агучыла ўголас свае планы: ісці заўтра ў бальніцу ды праверацца, паперку на рукі атрымаць.

І, уражаная, застыла, як Зося выпрасталася і зірнула ў твар маці — халодна, рашуча:

— Нікуды я не пайду!

— Ах жа сцерва! — як не падскочыла Сёміха, перахапіла капаніцу і выцяла яе гладзенькай ручкай дачку па плячы. Размахнулася другі раз, але неспадзеўкі Зося схапіла капаніцу, утрымала і шмаргануала на сябе. Тады Сёміха адчула, якая моц была ў даччыных руках. Яна ваўчыхай зіркнула на маці з-пад ілба і ціха прамовіла:

— Ты мяне больш не чапай. Я пазаўтра паеду адсюль. Вучыцца буду. А ты мяне не чапай.

Сёміха знямела — спужалася нянавісці ў вачах дачкі. Першы раз дачка супроць.

— Дык а ж… — толькі і ўдалося ёй выціснуць з сябе.

— Не было ў нас нічога, — абыякава адказала дачка і пайшла з агарода.

Так Карпекі сталі заклятымі ворагамі Сёміхі. Яна засталася раптоўна адна: Зося насамрэч з'ехала ў суседні горад, працавала і вучылася на завочным. Іванка ажаніўся праз два гады, працаваў у мясцовым ПМК, пабудавалі маладым бацькі кватэру. Хутка памёр стары Карпека — сэрца было слабое. На хаўтуры Сёміха і не збіралася, і труну з нябожчыкам нават позіркам праз акно не праводзіла. Карпечыха дачакалася ўнукаў: Іванка займеў дачку і сына. Дзеці летавалі ў бабулі,

**З суседзямі Сёміха мірна жыла, бо разумела: лепш са сваімі пабіцца, чым з суседам пасварыцца. Бо жыццё побач з ворагам — каму такая ласка трэба? Ды ўрэшце — сталі ворагамі**

была магчымасць ды нагода — Сёміха праклінала іх у вочы і за вочы. Ды бач, выраслі. Сама Сёміха ні цешчай, ні бабуляй не стала. Дачка замуж не ішла, самасейкаў нараджаць не схацела. «Не лезь у маё жыццё, ты адзін раз улезла, хопіць мне з лішкам!» — загадала маці, калі тая аднойчы нясмела пачала ёй называць як быццам годных знаёмых адзінокіх мужыкоў. Да пенсіі Зося жыла адна, а затым во знайшла нейкага гліста, прытуліла.

Карпечыха яшчэ і на вяселлі ўнучкі і ўнука пагуляла, а потым у галалёд зламала нагу ды і памерла той жа зімой, не ўстаючы з ложка. Іванка мала пажыў — казалі, у траншэі, як трубы клалі, заліло іх граззю, пакуль адкапалі, дык моцна прастыў, доўга хварэў і нядаўна памёр.

Цяпер у старым доме Карпекаў жыве сын Іванкі Зміцер са сваёй жонкай Галінай і малым дзіцём. І як некалі кляла Сёміха дзяцей Іванкі, так пры выпадку, як пабачыць, без асаблівай злосці, па звычцы, кляне ягонага ўнука. Дастаецца, ужо асэнсавана, з настроем ды пачуццём, Галіне, жонцы Змітра. Яна не некалішняя яе Зоська — даўгалыгая, ходзіць у кароткіх шортах, курыць, а акуркі часам шпурляе ў яе, Сёміхіны, трускалкі. Той акурак як знойдзе Сёміха — бы самародак залаты: тады шкандыбае да плота, абапіраецца і гукае:

— Галька! Сучка, каб табе вушы заклала, хадзі но сюды! Каб табе цыгарэціна за хлеб была і за мяса, каб табе той дым калом усярэдзіне стаў, каб ты вантробамі кашляла і ляцелі яны кавалкамі, як ты бычкі ў мае клубніцы кідаеш! Гэ, сучка, я табе не дарую! Некалі дап'ешся ты маёй крыві, каб цябе на тым свеце чэрці смалой паілі! Я ў міліцыю пайду!

Галіне, якой усяго дваццаць пяць, пасля вялікай кватэры бацькоў жыць у старэнькім доме з прагнілай у кутах падлогай на кухні было пакутліва і брыдка. Ды яшчэ гадаваць сына, якому на гэтае лета споўнілася паўтара гады. Не любіла гаспадарыць — ні на кухні, ні ў доме, ні тым больш у двары. Гідзілася агарода, прычым яе гідлівасць была настолькі моцнай, што корпанне ў зямлі адгукалася сапраўднай алергіяй: чырванеў плямамі твар, часалася цела, цякло з носа. То грады за домам Зміцер перарабіў з мінулага года ў зону адпачынку: пасеяў траву, паставіў альтанку, змайстраваў арэлі, мангал зладзіў. Цяпер з наступленнем лета Галіна пачувалася больш-менш здавальняюча: Зміцер часта быў у камандзіроўках, да яе наведваліся сяброўкі, з якімі бавіць час у альтанцы было хоць нейкай цікавай справай. Зміцер не злаваў, ён адчуваў віну перад жонкай: у кватэры бацькоў жыла сям'я сястры з хворай маці, а яму вось дасталася дзедава спадчына. Праўда, у яго была мара — пачаць тут будаваць новы дом, але ж жонка ўперлася не на жарт: толькі кватэра, ніякай зямлі! То і ашчаджаліся, разлічваючы пры гэтым добра прадаць дамок з участкам — месца было выгаднае.

Галіна з сяброўкамі заседжвалася ў альтанцы, гулялі заўсёды шумна, пілі віно, рагаталі, гучала музыка. Сын бавіў час ці то ў зробленай пясочніцы, ці сноўдаўся па двары. Іншым разам Галіна назло суседцы шпурляла недакуркі ў яе агарод, часам кідалі туды курыныя косткі. Назаўтра раніцай Сёміха пачынала захліпацца ад сваіх праклёнаў, тады Галіна, як быў настрой і не балела галава ад выпітага ўчора, выходзіла на двор, набліжалася да плота, да старой, паварочвалася, згіналася і ляпала сябе па сапраўды амаль голых ягадзіцах. Ёй было за радасць пазлаваць старую.



Пасля адной чарговай начной гулянкі з музыкай Сёміха зранку абышла свае грады і не стала збіраць убачаныя недакуркі — паперлася ў міліцыю. Участковы прыехаў пад вечар, паразмаўляў з Галінай, і тая сапраўдзе трохі напужалася. Болей недакуркаў у трускалкі і памідоры суседкі не закідвала. Старая як перастала для яе існаваць — заходзіла ў сваю альтанку і там распранулася да трусоў-стрынгаў (з вуліцы тут усё было закрыта) і слухала, бы музыку, крыклівае абурэнне Сёміхі. Калі старая корпалася блізка ад плота, Галіна магла прысесці са свайго боку плота па малой патрэбе альбо пасадзіць на гаршок сына Уладзіка акурат пад нос бабулі.

Старая шыпела, хоць ніколі ні зямлёй не шпурнула, ні замахнулася. Адно кляла, кляла і кляла. У яе выспела свая задумка, балазе, у тэлевізары пра ўсё сёння расскажуць.

Цікавала, як прыязджалі да Галіны сяброўкі, даставала стары вучнёўскі сшытак, скручанымі, звычнымі да тронка рыдлёўкі ды капаніцы пальцамі, нязграбна трымаючы аловак, запісвала: у які час прыйшлі, што пілі, дзе было дзіця тады. У адзін з дзён выправілася ў райвыканкам — запісалася на прыём, якраз прыязджаў нейкі вялікі абласны начальнік. І засталася задаволенай: яе аповед пра тое, што дзіця жыве з маткай бы беспрытульнае на вуліцы, есць хлеб з зямлі і падбірае ўпалае са стала ў час балявання бессаромных дзявуль, выклікаў вялікі эфект: у прысутнасці Сёмухі раённаму начальніку загадалі тэрмінова разабрацца.

— То ж дзіцятка галоднае, босенькае бегае дзень па двары, ровам раве, — з жалем у голасе расказвала яна, зазіраючы ў твары кожнаму з прысутных. — Падыдзе да плоту, глядзіць на мяне, а папрасіць ня ўмее, адно ручку цягне ды мычыць. Я жменьку клубніц памытых дам, растуць жа ў мяне, блінцом пачастую, цукеркай... А тая выпаўзе пад абед, сраку выставіць сонцу, вочы фарбуе. Як вечар — сунуцца такія ж бессаромніцы, п'юць-гуляюць да трэцю пеўняў. Што тое дзіця есць? А бацькі днямі не відаць, як на выхадныя — дык зноў п'янка: шашлыкі смажаць, збіраецца хеўра. Я тамака ўсё запісала, усе дзянёчкі іхнія... Мне, старой, спакою ад іх няма, тае бяды, а вось дзіцятка чаго мучыцца?

Сакратарка зазірнула ў кабінет, Рагоза запытальна падняў на яе вочы.

— Шэф выклікае, — даклала жанчына. — Мабыць, па ўчарашнім прыёме, адной карткі мне не перадалі.

Яна не памылілася: старшыня райвыканкама стаяў ля свайго стала, паляпваючы пальцамі па худзенькім стосіку папер. Ён працягнуў правую руку Рагозу, пачакаў, пакуль той падыдзе і пацісне яе.

— Адамавіч, гэты барзапісец, які нас «праслаўляе» на ўсю краіну, — Зміцер Карпека? Ён жа наш, мясцовы?

— Так, наш, — напружыўся Рагоза, — з гэтым незалежным журналістам адны непрыемнасці.

— Ты думаў, як яго прыструніць? Колькі ён яшчэ гадзіць нам будзе?

— Ды ёсць некаторыя думкі, — няпэўна прагаварыў Рагоза.

— Вось табе матэрыял, дзейнічай! — старшыня пасунуў той самы стосік па стале. — Самі не парупіліся праверыць, людзі падказваюць, — упікнуў нязлосна, але з націскам. — Вывучай справу, збірай камісію, хай праверыць умовы жыцця дзіцяці. Не мне вас вучыць. Каб у справаздачы пра колькасць круп было і наяўнасць памперсаў. Трэба — бярыце дзіця на праверку медыкам, як яно там развіваецца. Дзейнічай!

У сваім кабінеце Рагоза чытаў аркушы са школьнага сшытка, з цяжкасцю разбіраючы тэкст, напісаны старэчай рукой. Тое, што ў гэтых набрынялых нянавісцю радках была часцінка праўды, сумненняў не ўзнікла. Так, Рагоза ведаў, дзе жыве Зміцер Карпека, не такі ўжо вялікі іхні райцэнтр, ды і ведаць жа павінен. Старая дзедава хата ў прыватным сектары, які зялёным астраўком заставаўся сярод шматпавярховікаў. Месца зацішнае, выгоднае з усіх бакоў. Замест старых хат многія ўжо ўзвялі катэджы ў два паверхі, там усе камунікацыі побач, затраты невялікія.

Пазваніў рэдактару райгазеты, загадаў, каб адшукалі нумар тэлефона Карпекі. Хай гэты Зміцер — з варожага, так мовіць, стану, але ж кантакты ў яго з будучь хоць з адным журналістам раёнкі. Прафесійнае сяброўства, дый, чаго хаваць, сярод раённых газетчыкаў ідэйна аддадзеных — рэдактар ды яшчэ дзве жанчыны перадпенсійнага веку. Яны, журналісты, якраз і больш бачаць за іншых людзей. То і працуе нехта, цалкам верагодна, адно за грошы, таму ж Карпеку і інфармацыю патрэбную скідвае. Сёння ў сацсетках вартаўніка за кожным не прыставіш.

Тэлефон яму прадыктавалі праз чвэрць гадзіны. Рагоза набраў нумар.

— Гэта Зміцер Карпека?

— Так, — з лёгкім недаверам адказаў журналіст.

— Віталь Рагоза, намеснік старшыні райвыканкама турбуе, ведаеш такога? — адразу перайшоў на «ты» Рагоза.

— Ды як не ведаць, — больш упэўнена загаварыў Зміцер. — Слухаю.

— Справа ёсць. І справа неадкладная, — цвёрда казаў Рагоза. — Ты зараз у нашым горадзе ці на выездзе?

— Пакуль тут, збіраюся ў суседні раён, — прызнаўся Зміцер. — А што здарылася?

— Дык і здарылася, і не здарылася, — яшчэ больш заінтрыгаваў субяседніка Рагоза. — Але размова вельмі тэрміновая, у тваіх жа інтарэсах. То чакаю... ну, праз хвілін дваццаць. У кабінет заходзь. Я папярэджу міліцыянера на ўваходзе, скажаш, да мяне.

— А не заарыштуюць? — пажартаваў Зміцер.

— Ну, ты ж вокны біць не будзеш у маім кабінеце, — аджартаваўся і Рагоза. — Усё, я чакаю...

Рагоза сустрэў Карпеку, седзячы за сталом. Не ўставаў, ветліва паказаў на стул насупраць.

— Праходзь, сядай!

— Дзякуй... — Зміцер прысеў на край крэсла, зірнуў на спакойны твар намесніка старшыні. — Якія ж справы ў вас да мяне могуць быць?..

— Слухай, а табе не надакучыла? Гайсаць бясконца па раёнах, шукаць нешта гнілое, брыдкае, потым цягнуць тое на старонкі, маляваць: вось вы якія!

— А як гэтым не займацца, што будзе? — не разгубіўся Зміцер, бо размовы кшталту гэтай з ім спрабавалі заводзіць і раней розныя начальнікі.

— Ды нармальна будзе, — уздыхнуў Рагоза. — Як можна жыць, збіраючы ў быцці выключна негатыў? Ты б хоць пра светлае разочак напісаў, хіба ж можна, як, прабач, жуку ў дзярме корпацца, з дзярма жыць? Самому не агідна?

— Няпраўда, было і пра добрае ў мяне, — запярэчыў Зміцер, адчуўшы прыкрасць — горкая праўда ў словах чыноўніка была. — Пісаў я пра майстра-каваля...

— Чытаў, анягож. Толькі ты ў канцы лыжку дзёгцю дадаў, хіба не так? Ат, не будзем спрачацца, не дзеля таго цябе паклікаў. Я думаю, ты зарабляеш няблага. Але ж і ў нашай раёнцы, мне прыносілі нядаўна дакументы, заробкі вельмі неблагія. А калектыў там, лічы, скрозь жаночы. Адзін мужчына-журналіст. Ну, пагойсаеш ты яшчэ гадоў пяць, а далей? Якая ў цябе перспектыва? А тут бы рос паціху, дый спакайнейшая праца. Што скажаш?

Зміцер агаломшана маўчаў. Гэтага ён ніяк не чакаў. Але ж — нічога дзіўнага. Безумоўна, ім пад бокам цярпець журналіста незалежнай прэсы вельмі нязручна. А як прымусіць замаўчаць?

— Не змагу я хваліць існуючы лад, самі ведаеце... — нарэшце адшукаў патрэбныя словы ў адказ.

— А хто цябе прымушае пісаць ухвальныя артыкулы? — шчыра, як падалося, здзівіўся Рагоза. — Ты пішы тое ж, што і цяпер — але ж можна без вось гэтых абагульненняў аб вінаватасці ва ўсім дзяржаўнай сістэмы. Сам жа кажаш — людзі памыляюцца. Дык якая сістэма стане працаваць надзейна, калі з ненадзейных дэталей складаецца? Унікні ў любое пытанне: чалавечы фактар на дзевяноста працэнтаў. Карацей, каб цябе не затрымліваць: ты падумай. Судзіць ды караць цябе за твае погляды ніхто не збіраецца. Але падумай як след. Скажам, тры дні, напрыканцы тыдня патэлефануй, якое рашэнне прымеш...

...Было недзе гадзіны дзве пасля полудня, сонца пякло неміласэрна. Толькі заглушыў рухавік ля свайго дома, паставіўшы машыну ў цень старога ясеня, як да варот падкаціў аўтамабіль, спыніўся мусова на санцапёку, выйшлі пяцёра: міліцыянт, пажарнік, тры жанчыны, апранутыя па-дзелавому строга, няйнакш, чыноўніцы. Ёкнула ў сярэдзіне.

Адна з жанчын рушыла да яго, запыталася:

— Зміцер Карпека? Гэта ваш дом?

— Мой. Я. Нешта здарылася? — усхваляваўся Зміцер.

— Нічога пакуль не здарылася, — не супакоіла, а больш напружыла жанчына. — Гэта комплексная праверка камісіі райвыканкама ўмоў выхавання вашага сына, Карпекі Уладзіслава.

— Права не маеце! — закрычаў Зміцер, скочыў да веснічак. — Што за ...тваю маць! Тут мая прыватная тэрыторыя, ніхто сюды не зойдзе!

Размова з намеснікам старшыні райвыканкама раптоўна выбухнула ў галаве, іскрынкамі ўспыхвалі ў памяці прачытаныя артыкулы аб падобных камісіях у дамах апазіцыянераў, іх наступствы...

— Грамадзянін Карпека, афіцыйна вас папярэджваю: вы на вуліцы, значыць, у грамадскім месцы, лаяліся матам! — не строга, а ўшчувальна, больш за тое, бы з радасцю ўмяшаўся міліцыянт. — Згодна з законам аб ахове дзяцінства камісія мае поўнае права праверыць умовы жыцця дзіцяці. Зараз вы чыніце перашкоды для выканання службовымі асобамі іх абавязкаў. Такім чынам вы ўжо зарабілі два пратаколы. Для адміністрацыйнай справы. Не працягвайце, вам жа будзе лепш.

У гэты час пачуліся дробныя крокі і плаксіва-радаснае: «Та-та-та-та!» — то бег да Зміцера маленькі Уладзік. Мурзаты, у адных трусіках, таксама завэдзганых. Крык Зміцера пачула і жонка — яна выйшла з-за дома ў сваіх заўсёдных кароткіх шортах і станіку ад купальніка, старога і цеснага для яе цяперашніх, распаўнелых пасля родаў і кармлення сына грудзей.

Зміцер падхапіў сына на рукі, ступіў крок у двор, вызваляючы праход. Няхай. Пабачым...

**Раман чытайце ў бліжэйшых нумарах часопіса «Дзеяслоў»**

# Старыя фотаздымкі



Мікола ГІЛЬ

***

*Гусі ўратавалі Рым, —*
*Так легенда кажа нам:*
*Яны гаганнем сваім*
*Разбудзілі рымлянаў.*

*Ну, а хто разбудзіць нас,*
*Цёмных і глуханямых?*
*І сам Бог не дасць адказ,*
*Калі вораг ў нас саміх!*

***

*Дзед мой сеяў жыта*
*Ўсю жытку, да смерці,*
*Каб зрэбную світку*
*Меў і сам, і дзеці.*

*Бацька ж — толькі мальцам*
*Браў сявеньку ў рукі.*
*«Сенам на асфальце»*
*Выраслі унукі....*

***

*Добрае слова кажыце*
*Родным, блізкім, суседзям.*
*Ўсім — пры стрэчы, ў бяседзе —*
*Добрае слова кажыце.*
*Сёння, тут, а не недзе,*
*Юным, старым і дзецям*
*Добрае слова кажыце, —*
*Нават благім суседзям.*

***

*Расцвіла у мяне ў садзе ружа —*
*Боскай дасканаласці краса.*
*Чыстая, як летняя раса,*
*Расцвіла у мяне ў садзе ружа.*
*Не чапай: уджаліць, бы аса, —*
*Колкія шыпы — яе акружжа.*
*Расцвіла у мяне ў садзе ружа —*
*Непарушная сама краса!*

***

*Ужо нікуды не паеду,*
*Ужо нікуды не пайду*
*Ні да і ні пасля абеду, —*
*Хіба адно зраблю: сыйду...*

*Ах, мой браток! І як не ўспомніць*
*Тваю тугу, тваю нуду,*
*І радасць, калі хтось пазвоніць*
*І вымавіць; «Дык я зайду»...*

***

*Гляджу старыя фотаздымкі —*
*Тужліва-светла на душы.*
*У вечаровае цішы*
*Гляджу старыя фотаздымкі.*

*Боль смутку ціха прыглушыў:*
*Не ажывіць былой карцінкі...*
*Гляджу старыя фотаздымкі*
*Са светлай скрухай у душы.*

***

*Б'ецца ў шыбіну матылёк,*
*Абяссілены да знямогі,*
*Ды не знаць яму перамогі, --*
*Б'ецца ў шыбіну матылёк.*
*Мо і ў нас матыльковы клёк,*
*Што не вырвемся ўсё з аблогі?*
*Б'ецца ў шыбіну матылёк,*
*Абяссілены да знямогі.*

***

*Высокі хам гадуе хамаў*
*І з падначаленых сваіх.*
*Глядзь, па краіне плоймы іх, —*
*Вышэйшых і ніжэйшых хамаў.*
*Народ ёсць быдла — мерка ўсіх*
*Начальнікаў і іхніх намаў.*
*Высокі хам гадуе хамаў*
*І з падначаленых сваіх.*

***

*Было майстэрствам —*
*скласці стог,*
*Дый завяршыць яго прыгожа, —*
*Не кожны ў вёсцы гэта мог,*
*Тут адзін спрыт не дапаможа.*

*Няма майстроў, няма стагоў,*
*Асеннія лугі — пустыня,*
*І восеньскі адлёт буслоў*
*З лугоў тых — сумная карціна...*

***

*Не ўмеем мы цаніць дабро*
*І яго творца — чалавека.*
*Куды даўжэй мы помнім зло —*
*Яно бы стрэмка пад павека.*

*Спахопімся, каб пазваніць,*
*Бо стала штось трывожна*
*неяк, —*
*Ад весткі сэрца забаліць:*
*Няма... Няма ўжо чалавека!..*

***

*Жахаюся: які быў жорсткі час!*
*А, тым не меней, настальгую.*
*Кіно пабачу, песеньку пачую —*
*І ўжо ўсумнюся: няўжо быў жорсткі час?*
*Ён так нам прышчапіў любоў сляпую,*
*Што і цяпер не адпускае нас.*
*Жахаюся: які быў жорсткі час!*
*А, тым не меней,*
*настальгую...*

***

*У дзень народзінаў дзед*
*вызначыў мой лёс:*
*«Быць яму пісарам, не меней!»*
*Я і пражыў жыццё з пяром*
*у жмені, —*
*У дзень народзінаў дзед*
*вызначыў мой лёс.*
*Успомню дзеда — і прыгну калені,*
*Удзячны і расчулены да слёз,*
*Што ён вось гэтак*
*вызначыў мой лёс:*
*«Быць яму пісарам, не меней!»*

***

*Ці шчасны той, хто аніколі*
*Не памыляўся ані ў чым?*
*Не бацька лёсу ён — айчым,*
*Не памыляўся хто ніколі.*

*А шчасце вымераеш чым,*
*Не зведаўшы памылак болю?*
*Ці ж шчасны той, хто аніколі*
*Не памыляўся ані ў чым?*

***

*Родны кут — свячоная радзіма,*
*Грэх яго радзімай зваць малой.*
*Матчынна-бацькоўскі,*
*помны, свой*
*Родны кут — свячоная радзіма!*
*Ён не нейчы і не ўсіхны — твой,*
*У цалюткім свеце ён — адзіны,*
*Родны кут — свячоная радзіма,*
*Грэх яго радзімай зваць малой!*

***

*Каго ні ўспомню, каго ні згадаю,*
*Няма ні першага, ні другога*
*З часу шчаслівага, маладога, —*
*Каго ні ўспомню, каго ні згадаю.*
*Вось боль і горыч жыцця старога:*
*Вакол — пустэча, без меж,*
*без краю, —*
*Каго ні ўспомню, каго ні згадаю —*
*Няма ні першага, ні другога.*

***

*Знайсці сябе — пражыць жыццё*
*Уласнае і не пустое;*
*А не знайсці — пражыць чужое, —*
*Знайсці сябе — пражыць жыццё!*
*Куды цяжэй пражыць сваё,*
*Выбоістае і крутое,*
*І грэшнае, але й святое, —*
*Знайсці сябе — здабыць жыццё!*

***

*Жыву я, бы ў чужой краіне:*
*Свайго — ні гуку, ніадкуль.*
*Адсюль чужое і адтуль —*
*Жыву я, бы ў чужой краіне.*
*Нянаскае гучыць паўсюль, —*
*І хоць бы знак, што з часам*
*знікне,*
*І ўжо душа ў адчаі нікне, —*
*Свайго — ні гуку, ніадкуль...*

***

*Цьмы цьмушчыя канулі ў лету,*
*Ды намногіх зберагла памяць*
*Праз нялічаных гадаў замяць, —*
*Цьмы цьмушчыя канулі ў лету.*
*Горка мне і вусцішна цяміць,*
*Што не будзе і па мне следу...*
*Цьмы цьмушчыя канулі ў лету,*
*Ды намногіх зберагла памяць.*

***

*Вясне усё жывое рада.*
*Усё ірвецца да жыцця*
*Са сну паўстаўшы, з небыцця, —*
*Вясне усё жывое рада!*
*Прыроды й чалавек дзіця,*
*І ўдзельнік вясняга параду, —*
*Вясне усё жывое рада,*
*Усё ірвецца да жыцця!*

# Ада пісала вершы...

Падзея адбылася некалькі дзён таму, напачатку траўня. З нейкай патрэбы стаў разглядаць адну з кніжных паліц і звярнуў увагу на вялікі, у цёмна-зялёным пераплёце блакнот. Зняў, разгарнуў, стаў лістаць. Запісы ад рукі. Знаёмы да болю, акуратны, прыгожы почырк — почырк выкладчыцы літаратуры Ады Сямёнаўны Вярцінскай. Яна, аказваецца, вяла ў свой час адмысловы паэтычны блакнот — альбом, дзе цытаваліся лірычныя вершы розных аўтараў. Пэўна, чытала на ўроках падабраныя па сваім гусце радкі.

Прадаўжаю гартаць блакнот. Не без прадчування сюрпрызу. І вось ён наяве цудоўны сюрпрыз — уласныя вершы Ады Сямёнаўны! Нішто сабе. Не казала ж ніколі, не прызнавалася, што не толькі выкладае вершаваныя творы, але спрабуе часам пісаць і сама. Праўда, адкрыццю я не вельмі здзівіўся, бо заўсёды аддаваў належнае яе тонкаму філалагічнаму пачуццю.

Вось ужо мінула паўгода, як Яе з намі няма. А напісанае сапраўды застаецца.

**Анатоль Вярцінскі. Травень 2018 г.**



Здымак 2017 года

Ада ВЯРЦІНСКАЯ

## Дзве шасцёркі

*Дзве шасцёркі — дванаццаць год,*
*час надзей і чакання прыгод.*
*Дзве шасцёркі — дванаццаць год,*
*час бясхмарных дзён, без нягод.*
*А далей... Шасцёркі, шасцёркі.*
*Досвед то радасны, то горкі.*
*Узяць той жа шэсцьдзясят*
*шосты.*
*Шмат у чым быў цяжкі,*
*няпросты...*
*Перавернем шасцёркі*
*дагары нагамі:*
*Дзве дзявяткі паўстануць*
*перад намі.*
*І выходзіць, што нам ісці і ісці*
*аж да дзевяноста дзевяці?..*

**20.12.2001 г.**

## На восьмым дзясятку

*Лятуць мае гады*
*няспынна, няўмольна.*
*На восьмы дзясятак*
*імкнуць неадольна.*
*Разам з гадамі*
*прыходзяць болі.*
*Чым болей гадоў,*
*тым іх болей.*
*То ціск павышаецца —*
*настрой паніжаецца.*
*То сэрца заб'ецца,*
*як птушка ў клетцы.*
*На восьмым дзясятку*
*цяжка жывецца...*

## У адказ

***Ада, Арыяда, Арыядна!***
***Мне б цябе і любіць, і сніць,***
***толькі дзе скажы, Арыядна,***
***Арыядніна твая ніць?***
***А. Вярцінскі***

*Рыхтавала клубок,*
*прала моцныя ніткі,*
*каб не рваліся раптам*
*на цяжкім жыццёвым шляху,*
*каб магла з тым клубком*
*і сама не блукаць упоцемках,*
*і каб блізкім і родным*
*памагаць — спрыяць у жыцці.*
*Рыхтавалася,*
*рыхтавала клубок.*
*Ды чамусьці здарылася так,*
*што праз колькі часу раптоўна*
*стаў клубок мой распадацца,*
*нечакана сталі ірвацца*
*ніткі моцныя мае.*
*Я глядзела на гэта разгублена,*
*я не ведала, як мне быць,*
*што рабіць мне ў такім разе.*
*Адно толькі было зразумела,*
*што спасцігла нас няўдача,*
*што табе не змагу дараваць*
*гэту самую, пуцяводную*
*Арыядніну сваю ніць.*
*Як далей нам ісці без яе*
*лабірынтам жыццёвым?*
*Цяжка тут мне адказаць...*

## Пажаданне юбіляру

*Каб ногі — хадзілі!*
*Каб рукі — насілі!*
*Каб справы цяжкія не білі па сіле.*

*Каб блізкія, родныя — шанавалі,*
*каб сябры — пляча падстаўлялі.*

*Каб жонка любіла і добра*
*карміла,*
*смачней, чым дагэтуль.*
*Жылі каб з ёй міла!..*

**2009 г.**

# Кузя



Васіль ЖУКОВІЧ

Студэнтку Галіну Кузьміцкую мала хто называў праўдзівым імем. Маленькую, як ліліпутка, ды чарнявую, з першых дзён знаёмства дзяўчаты ў групе звалі Галкай, а пасля з чыйгосьці языка лёгенька зляцела і цвёрда замацавалася мянушка — Кузя, з чым яна хутка звыклася.

Як нікому іншаму, ёй давалася вучоба: у інстытут яна паступіла не пасля школьнае дзесяцігодкі, як усе, а займеўшы веды ў педвучэльні. На ўступных іспытах атрымала вышэйшы бал па ўсіх асноўных прадметах і добрую адзнаку па замежнай мове. Ёй удалося чымсьці зачараваць «немку» Іраіду Паўлаўну Рубанюкову. Так, толькі зачараваць ці загіпнатызаваць магла абітурыентка шматвопытную выкладчыцу, бо, як высветлілася, у той вучэльні нямецкае мовы не было. Тут, мабыць, дарэчы яшчэ сказаць: у будучай педагагіні гладка хадзіў язык. З чым бы гэта параўнаць? Падобна — як мянташка ў руках самага спрытнага касца.

На падрыхтоўку да заняткаў, залікаў ды іспытаў Кузя трáціла зусім няшмат часу, таму студэнтаў, якія ў чытальках сядзелі поседам з канспектамі і кнігамі ў руках, называла тугадумамі.

Ёй карцела дзейнічаць. Каб апраўдаць званне студэнткі філалогіі, спрабавала ствараць вершы. Але ў тым, што да яе хутка прыходзіла, бракавала красы і сілы. Не раз яна ўзнімалася на сцэну ў якасці вакалісткі. Ёй найбольш падабаліся іспанскія песні. Іх тэксты перакладала сама, у выніку з вуснаў ішоў пад музыку набор простых чужых слоўцаў кшталту: «Карамба, сеньёры...» Голас мела яна слабаваты, і яго недастатковасць не кампенсавалася спрошчаным артыстызмам.

Поспех чакаў першакурсніцу ў спорце. Як ні парадаксальна, ёй удалося замацавацца ў інстытуцкай зборнай па баскетболе, дзе, як вядома, не апошнюю ролю мае высокі рост спартсменаў. Якую ж пагоду магла стварыць у камандзе баскетбалістка-маляўка? О, трэ' было бачыць Кузю ў гульні! У зацікаўленых балельшчыкаў і, вядома ж, у саміх гульцоў каманды выклікала захапленне тое, як яна з неверагодным спрытам прабівалася ў натоўпе рослых і дужых спартсменак і, апынаючыся на месцы падбору, падхоплівала мяч ды перадавала яго ў эпіцэнтр атакі для трапнага кідка.

Пэўна, заняткі спортам нейкім чынам адбіліся на яе хадзе: ішла яна шпарка, правым плечуком уперад, што называецца — бачком. У яе не было аніякіх комплексаў з прычыны маленькага росту і прыроднае хударлявасці. Яна яшчэ й ганарылася сваім ліліпутскім расточкам і шчуплаю паставаю, асабліва пасля адной дэканацкай праверкі, калі шукалі ў інтэрнаце прагульшчыкаў заняткаў, а яе не знайшлі, бо ёй удалося залезці пад ложак і там згарнуцца абаранкам, як згортваецца сонная котка.

Поспехі ў вучобе давалі Кузі вольны час і мажлівасць наведваць бібліятэкі: інстытуцкую, гарадскую, абласную. Чытала шмат, можна сказаць, глытала аповесці, раманы, навэлы, апавяданні запоем, асабліва французскіх празаікаў: Бальзака, Гюго, Заля, Мапасана, а яшчэ расійскіх: Буніна і Шолахава.

Але ўсё, чым яна займалася пасля лекцыяў, не прыносіла ёй супакою, хацелася прыгодаў, нібыта ў ёй сядзеў, кіруючы ёю, д'яблік.

— Ой, дзевачкі, я так нацалавалася, аж галава кругам! — нечакана пахвалілася дзвюм аднакурсніцам, Марыне і Мальвіне, калі вярнулася познім вечарам у свой пакой. Вочы ў яе бліршчэлі, нібы ў коткі, а вусны і шчокі гарэлі.

— І з кім жа ты, Кузька, так нацмокалася? Хто цябе гэтак узбудзіў? — цікавіліся гарэзлівая Мальвіна і мажная ды спакойная Марына, якія ўжо засыналі пасля вячэрняга душу, але ажывіліся.

— Уяўляеце, ён фатограф. У яго такі багаты фотаапарат, а сам ён такі азартны! Шчоўкаў і шчоўкаў мяне ў парку, — працягвала яна, — казаў, хутка прынясе фотачкі.

— Значыць, ён цябе прывабіў апаратам, а не красою, — жартавала Марына, злёгку чырванеючы.

— А мужчынам краса неабавязковая, — адбівалася Кузя. — Галоўнае — розум і сіла.

— Адкуль ты ведаеш, які ў яго розум? — смяяліся дзяўчаты. — Мо ён дужа галавасты?

— Гэта не смешна, — казала яна, — розум відаць адразу. Прафесійны фатограф, ён і магнітафонам карыстаецца. А Ясеніна шпарыць па памяці — заслухаешся!

— Кажаш, яшчэ і дужы? — па-ранейшаму пасміхалася Мальвіна.

— Уяві сабе, ён мяне падымае на далоні адной рукі.

— Асілак дый годзе! — пасмейвалася ўжо зусім расчырванелая Марына з Кузі.

Тым часам Мальвіна перасцерагала:

— Глядзі, каб гэты разумнік цябе не абкруціў!

— Ды я ўжо абкручаная, дзяўчаткі, — уздыхнула Кузя і дадала: — Давайце будзем спаць.

— Глядзі, дакруцішся! — неяк па-мацярынску ўшчувала яе Мальвіна.

Пасля першага курса Кузя засталася без фатографа, ён кудысьці з'ехаў, нават не развітаўся. Але гэта ніколечкі не збянтэжыла гуляшчую. З кожным годам яна нарошчвала інтымныя абароты. Па два-тры спатканні за вечар рабіліся для яе нормаю. Яна амаль перастала чытаць раманы, на тое ўжо не ставала часу, яе захаплялі





ўласныя раманы, якія хутка распачыналіся і даволі хутка завяршаліся. Сведкамі нечаканага фіналу аднаго з іх аказаліся аднакурсніцы, якія прысутнічалі на яе ўроку ў дзявятым класе, дзе яна праходзіла педпрактыку. Тады яна вяла-вяла заняткі, ходзячы перад першымі партамі, і раптам супынілася, стала як укапаная. Яна замёрла мо на цэлую хвіліну: гэтак зніякавела, калі пазнала ў адным вучні, што сядзеў за апошняю партаю, юнака, з якім учора ўвечары цалавалася. Хлопец увесь час угінаў галаву, але ніяк не мог схаваць высокі рыжы чуб. Яе пакрыўдзіла тое, што пры знаёмстве ён назваўся студэнтам мединстытута. Здавалася б, што ўжо ёй так крыўдаваць! Хіба ніхто ніколі яе не падманваў і хіба ёй не ўсё адно, з кім было прыемна: з вучнем-старшакласнікам ці студэнтам-медыкам. Аднак крыўды было дастаткова, каб з ім больш не сустракацца.

Самае моцнае за час вучобы ў інстытуце ў Кузі сталася захапленне матацыклістам Адамам. Гэта пачалося на пятым курсе. Па зямлі ішла восень. Прырода заварожвала багаццем колераў. Дрэвы яшчэ не асыпалі пад ногі лістоту. Золата бярозаў і ясеняў, бронза каштанаў, рубіны арабінаў і густая барва канадскіх кляноў, — усё ў зачараваных вачах злівалася ў яскравыя палосы, што, здавалася, беглі насустрач абапал асфальту, па якім імчаў на навенькім бліскучым матацыкле Кузю яе кавалер. Яго доўгія чорныя кучаравыя валасы развейваў вецер, лёгкая куртачка надзімалася на ім, быццам паветраны шарык. На Кузі была тонкая сукенка і танюткі балоневы плашчык.

— Як табе, Галюня? — пытаўся ён, трошкі павярнуўшы галаву. — Не холадна? Мо збавіць хуткасць?

— Малайчына! Я люблю высокую хуткасць! — бадзёрым голасам перамагала яна трэск матора і шум ветру.

«Галюняй назваў. Так ніхто яшчэ не называў мяне! Ласкавы...» — думала яна, едучы да яго дамоў пасля ўчорашняга мімалётнага знаёмства.

Усю ягоную ласкавасць зведала яна неўзабаве. Як толькі ў сваім двары Адам заглушыў матор, жвава злез з сядзення і падаў ёй сваю цёплую руку.

— У цябе свой дом? — здзівілася студэнтка, акінуўшы вачыма прасторны будынак з раскошным чарапічным дахам.

— У бацькоў кватэра ў горадзе, а тут, за горадам, — мая дача, я — адзіны ў сям'і сын.

Хвілінаў праз пятнаццаць яны сядзелі ля каміна, у якім патрэсквалі ахопленыя агнём паленцы, за знаёмства і за спатканне пілі шампанскае, закусвалі шакаладам і цалаваліся.

У пасцелі Адам сказаў студэнтцы, быццам з ёю пачувацца на сёмым небе, бо ў яе ўсё акурат такое прывабнае і ўся яна такая зграбная, не тое, што нейкая таўстуха.

—Таўстухі таксама камусьці прыемныя і патрэбныя, — не пагадзілася з ім палюбоўніца.

Пасля дасягнутае асалоды Адам заявіў, што яму раннім ранкам трэба будзе ехаць на працу.

Развіталіся яны на бязлюдным прыпынку, калі дачакаліся аўтобуса...

Але яе галоўны раман, які так імкліва пачаўся і, як ёй здавалася, шматабяцальна развіваўся, прыйшоў да сваёй развязкі. Ён доўжыўся ад залатое восені да пышна квітнеючай вясны. Тая вясна аказалася для яе драматычнаю, журботнаю: апошняе студэнцкае захапленне завяршылася ганебным крахам. Аднойчы цёплым маёвым ранкам Кузя адчула ў сабе мажлівую вялікую перамену, а праз некалькі дзён канчаткова зразумела: так і ёсць!.. Яна сабе ледзь не ўголас сказала: «Божа мой, я — цяжкая!» Здарылася тое, чаго яна пабойвалася. Менавіта пабойвалася, а не баялася. Яна ў Адаме бачыла даволі надзейнага мужчыну. Мо не так бачыла, як хацела бачыць. Гутаркі між імі ніколі не было пра тое, што будзе, калі яна зацяжарыць. Цяпер у яе душы блукала спадзяванне: ён не такі, каб адвярнуцца і пакінуць яе, сваю Галюню, сам-насам з вялікаю праблемаю. Не такі ён, каб адмовіцца ад жанчыны, якая ўзносіць яго на сёмае неба, і ад свайго дзіцяці!..

Менавіта з такою спадзеўкаю і прызналася яна Адаму, уважліва гледзячы яму ў вочы, падчас чарговага спаткання ў ягонай пасцелі:

— Міленькі мой, я ўжо цяжарная!

— Ад каго? — з неверагоднаю лёгкасцю запытаўся ён.

— Ты што, з глузду з'ехаў?! — выпаліла яна. — Твая Галюня, думаеш, настолькі разбэшчаная?

— Ды ўсякае здараецца з прыгажунямі, — сказаў Адам з крывенькаю, гуллівею ўсмешкаю. Думаю, і ты — не выключэнне.

— Ды як у цябе язык паварочваецца! — абурылася Кузя.

— Ладна, маленькая, — усё яшчэ блукала ўсмешка па яго вуснах, — сёння ў нас пятніца... Давай спаткаемся ў нядзелю. Пад нашай ліпаю. А васямнаццатай. Окей?

Не чакаючы згоды, ён, прыгладжваючы звыклым рухам свае чорныя кучаравыя, зблытаныя ветрам, валасы, дадаў:

— А цяпер пойдзеш на прыпынак адна, дакладней, не адна, а з кімсьці ўжо ўдвух, бо, як ты кажаш, пацяжэла ўжо...

Яна толкам нават не ўлавіла ягонага цынізму, аднак у сваёй душы, ужо вялаю хадою тэпаючы на аўтобусны прыпынак, не пераставала ўзважваць яго ранейшыя паводзіны і надзеі. У яе свядомасці ўмацоўвалася трывожная думка пра сваю будучыню. Яна, тая неадступная думка, не давала як след заснуць дзве ночы запар — з пятніцы на суботу і з суботы на нядзелю. А ў нядзелю, яшчэ задоўга да прызначанага спаткання, яна стаяла пад пяшчотна-зялёнаю кронаю ліпы, абапершыся спіною аб ствол. Праз паркалёвую сукенку і танюткі балоневы плашчык адчувала яго халадок.

Траскучы матацыкл набліжаўся імкліва. Цяжарная зірнула на ручны мініятурны гадзіннік. Стрэлкі на цыферблаце паказвалі без пяці васямнаццаць. «Пунктуальны, як ніколі дагэтуль», — падумалася ёй. Але праз некалькі імгненняў ёй падумалася, што пунктуальны не адзін Адам, бо на матацыкле прыкацілі двое, падобных, бы дзве кроплі вады: абодва чарнавалосыя і кучаравыя і абодва сінявокія. «Бляха, блізнюкі! — думка маланкаю пранеслася ў галаве. — Брахаў, што ён адзіны сын у бацькоў. Сабака!»

Значыць, па яе прыязджалі і бралі ў пасцель па чарзе, а пасля дзяліліся падрабязнасцямі праведзенага з ёю вечара. Усё гэта яна ўжо не магла не ўцяміць, калі блізнюкі модна дэманстратыўна насміхаліся з яе, шырока выскаляючы зубы. Кузя так і не зразумела, каторы з іх Адам, бо і надоўга працягвалася нямая сцэна: рулявы блізнюк бойка развярнуў матацыкл, і пасля развітальных жэстаў браты імгненна рушылі ў зваротны шлях.

Кузя, каб не ўпасці, абняла ліпу. «Падлюгі!» — усяго толькі ціха вымавіла яна. У яе рэзка забалела галава, кальнула ў сэрца. Яна адчувала сябе то парожняю пляшкаю з-пад шампанскага, то коркам ад пляшкі. Неяк дапляласа да інтэрната. У пакоі распавяла дзяўчатам сваю трагікамічную гісторыю. Раніцаю доўга ляжала на сваім панцырным ложку, не пайшла ў сталоўку снедаць. Удзень хадзіла сюды-туды як непрыкаяная. Да выпускных іспытаў не рыхтавалася. Змянілася з твару, схуднела.

«Што адбываецца з Кузьміцкай?» — занепакоена пытаўся куратар, выдатны прафесар і клапатлівы чалавек, у актывістак курсу. Яны, вядома, ад яго нічога не ўтаілі. Яшчэ й папрасілі пагутарыць з няшчаснаю: баяліся, што яна сябе можа звесці са свету. Было відавочна, што ашуканая і прыніжаная Кузя ніяк не можа выбрацца з дэпрэсіі.

Калі куратар пагутарыў з ёю, ніхто не ведаў. Дзяржаўныя іспыты яна здала. Але здымацца для калектыўнага фота не захацела. І ўвогуле пазбягала лішніх сустрэчаў. Па накіраванні на працу не з'явілася. Чутка прайшла, быццам яна пераехала ў Прыбалтыку, у якую канкрэтна краіну — невядома.

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (141) | 25 мая 2018 | № 19 (582) Новы Час

# Заставацца на сваёй траекторыі

**Алена Ігнацюк — аўтар вершаваных зборнікаў «Нота «ля», «Летаргія», «Будзе ўсё наадварот».**




Яе паэтычную творчасць высока ацанілі Рыгор Барадулін (рэкамендаваў у Саюз пісьменнікаў), Адам Мальдзіс, Анатоль Кудравец, Уладзімір Арлоў. І вось зусім нядаўна ў сталічным «Кнігазборы» выйшла чарговая кніга Алены — «Дыярыуш для дзівалова».

Жанр новай кнігі, па вызначэнні аўтара, — зімовая фантасмагорыя. Змест падзелены на восем невялікіх раздзелаў — па колькасці дзён тыдня, бо акрамя звыклых для нас сямі па волі творцы з'явіўся і яшчэ адзін: шчасніца. Дакладна акрэслены і прамежак часу, калі адбываліся невесаголыя падзеі — 7 лютага і наступныя за гэтай датай дні, — а таксама месца дзеяння — горад Пінск і яго ваколіцы.

Фантасмагорыя — жанр асаблівы. У яго характарыстыцы найчасцей сустракаюцца словы «сумбур», « страх», «хаос», «фобіі»... Мне больш падабаецца паэтычнае азначэнне, дадзенае самім аўтарам: «Фантасмагорыя — мастачка, якая жыве ў палацы гарэзлівага пана Сну і распісвае ненадакучлівымі фарбамі яго сненні». Згадзіцеся, прыгожа і дакладна. Мы ўсе, сцвярджае пісьменніца, маем патрэбу ў маляўнічых снах, бо вельмі часта ў жыццёвай мітусні дарэшты разбіваюцца нашы спадзяванні, губляюцца надзеі, на нашых вачах падаюць ніц духоўныя аўтарытэты. І вельмі цяжка заставацца са сваёй адзінотай.

Да фантасмагарычных дзённікавых запісаў спадарыня Алена дадала і паэтычныя радкі, якія гучаць найперш з вуснаў коткі Евы, а яшчэ пінскіх паэтаў, знаўца латыні пацука-бібліяфіла і пасцільнай Музы. Калі гаварыць пра паэзію, то яна — мусім пагадзіцца з аўтарам — не апранута «ў пінскі кажушок з фальклорнымі элементамі». Яе ўбор эклектычны: тут ёсць месца філасофскім роздумам, алегарычнай вобразнасці ды іранічным інтанацыям...

Каб бліжэй пазнаёміцца з вынікамі творчага асэнсавання творцам выбранага матэрыялу, сутнаснымі, жыццёвымі прыярытэтамі аўтаркі «Дыярыуша», больш падрабязна разгледзім падзеі аднаго з дзён тыдня — няхай гэта будзе аўторак.

Дзень пачаўся са звыклых ранішніх турбот і падрыхтоўкі абеду, бо меліся прыйсці госці. Як і патрабуе закон жанру, чарадзейнае і звышнатуральнае ў творы накладваецца на банальнае і паўсядзённае. Роўна ў чатырнаццаць гадзін дзверы адчыніліся і ў пакой увайшоў... Тыгра з кнігі Алана Мілна пра Віні-Пуха. Ён прывітаўся чалавечым голасам і падарыў гаспадыні клетку з жалезнымі перагародкамі для папугая, але заўважыў, што ў клетцы павінна жыць менавіта пчолка. Філасофія ў тым, што ў ёй можна адчуваць сябе адначасова свабодна і несвабодна, быць у клетцы і пакідаць яе.

Наступнай зайшла, з вазаю і талеркаю агуркоў, раскаяная евангельская блудадзейка Святая Марыя Магдаліна з карціны сярэднявечнага мастака, які вельмі любіў маляваць і есці гуркі. За ёю — закаханы ў гаспадыню котку Еву рамантычны кот Вася, які надта ганарыўся тым, што нарадзіўся ў падвале, а не на вуліцы.

Следам парог пераступіў дырэктар арыфлэймаўскага цэнтра Барыс Падароўскі з багатым парфумным наборам. Апошняй з'явілася сястра гаспадыні Таня, прынесла пірог.

Незвычайныя госці памылі рукі і лапы ды селі за стол. І як толькі яны клалі ў рот драбінкі пірага — адбываліся метамарфозы. Госці рабіліся адпаведна пчолкаю, перлінкай з сукенкі, шкляной статуэткай, жывым карасём. Чарадзейства не падзейнічала толькі на сястрыцу, мужа гаспадыні Алеся ды котку Еву, якая, шкадуючы ўсіх, хацела песняй павярнуць усё назад. Словы песні пра Велічыні прывялі гаспадыню на развагі пра тое, што ў жыццё кожнага чалавека рана ці позна ўваходзяць людзі-павадыры, наканаванне якіх — дапамагчы адшукаць ісціну. Але вельмі часта гэтыя людзі застаюцца ў сваёй нязменнай сістэме каардынат. Метамарфозы адбыліся якраз з тымі гасцямі, якія хацелі вярнуць мінулае і нават быць на месцы сваіх колішніх павадыроў. Напрыклад, той жа кот Вася, каб вярнуць каханне коткі Евы, сам робіцца карасём. Падобныя метамарфозы, на жаль, нярэдка становяцца рэаліямі сённяшняга дня.

Застольная гутарка, ужо ў сямейным крузе, вяртае памяць гаспадыні ў сад драгічынскай сястры. Тады на пытанне містычнага голасу, ці адчувае яна сябе Велічынёй, Катэгорыяй, жанчына адказала, што Катэгорыяй, паняццем, якое выражае найбольш сутнаснае ў жыццёвых адносінах, яна бачыць сябе толькі тут, у падвешаным да яблынь гамаку. «Мне здавалася, — прызнаецца яна, — да мяне сцягваюцца ўсе рэчы дня, пачынаюцца з мяне і жывуць ува мне і нябёсы, і гэтыя яблыні... Я адчувала сябе дзівоснай абагульняльнай думкай». Несумненна, гераіня гаворыць пра паэтычнае бачанне свету...

Пра сутнасць творчага працэсу цікава гаворыцца і ў «суботніх» запісах пра Пацука-бібліяфіла, знаўца латыні. «Шукай патрэбныя словы, каб цябе правільна ўбачылі», — паўтарае ён услед за Сакратам, папракаючы паэтэсу за тое, што яна аніяк не можа вызначыцца са сваім месцам у гэтым свеце. Гераіня, як па загадзе Пацука, пачала шукаць неабходныя словы. І тут жа, нібы са сну, з'явілася жанчына-прывід. Цікавыя, далёка не фантасмагарычныя настаўленні выказаны яе вуснамі: «Шукай словы, каб быць шчаслівай... Перайнач сябе». І сама незнаёмка пачала рабіцца то мужам гераіні, то ружай, то царквой, то яшчэ чым. І працягвала яна гэта доўга, да поўнай стомы. Вось той прыклад, калі фантасмагарычны вобраз дапамагае раскрыць сутнасць з'явы, у дадзеным выпадку паэтычнага бачання свету, творчага азарэння.



На працягу васьмі дзён тыдня «алегарычныя кумачкі» дапамагаюць зразумець філасофію «нуля», заканамернасць Метамарфозаў, яны разважаюць пра тое, як адшукаць Субстанцыю, зводзяць гераіню з Гандляром-прусаком і панам Буслом.

Фантасмагорыя Алены Ігнацюк мае «востра загнутыя ўніз бровы, востры падбародак і востра-іранічную ўсмешку». На палосцы замацаванай на паголенай галаве тканіны — вянок са шчэпленых калючкамі шарападобных кактусаў, якія штотыдзень перасаджваюцца ў гаршчочкі. Так што «колкасці» ёй таксама хапае.

Аўтарка насмешліва ставіцца да многіх сваіх персанажаў. Напрыклад, да правінцыйных літаратараў — плагіятараў-перараймальнікаў і папулістаў. Містычныя Карамелькі ў фанцыкавых фраках (малараслыя, часовыя, хоць і салодкія) праводзяць кастынг сярод мясцовых паэтаў, каб запрасіць іх у краіну Карамелію на фэст. Ці яшчэ яскравы прыклад: усе дзяўчаты ў новым корпусе Палескага калегіюма — Ксюшы, а ўсе хлопцы — Арцёмы. Літаральна ўсе студэнты заказаныя і ходзяць толькі парамі, узяўшыся за рукі. Да ўсяго, усе пары — на адзін твар. Яшчэ складаней з выкладчыкамі: тыя зусім не ўсміхаюцца і таксама ходзяць, як спрэжаныя — навуковец і метадыст-кантралёр. Нават вядомы крытык Паўлін Казіцкі, знаўца рускай мовы і аматар выпраўляць у маўленні сваіх калег націскі, ходзіць з кантралёрам, які папраўляе і яго націскі. Тут ужо не іронія, а едкая гіпербала, гратэск. Але ж хто скажа, што не ў сук?!

Смех накіраваны і на Снегавікоў з мэрыі, што пад кіраўніцтвам жонкі першай асобы праводзяць акцыю пад назвай «Снегаманія» — збіраюць снегу кантэйнеры, каб пасля захоўваць яго ў халадзільных камерах і тым самым падоўжыць тэрмін знаходжання на высокай пасадзе...

Не прыніжаючы жанру фантасмагорыі, хачу заўважыць, што Алене Ігнацюк удаюцца мастацкія апісанні, якія маглі б упрыгожыць і празаічныя творы «рэалістычнага» зместу. У хаце роднай цёткі гераіня дакранулася да дыванка з лябёдкай. І адбыўся цуд: яна апынулася ў казачным леце. «Быў ранак... Ставок рухаўся, мільгацеў празрыста-блакітнымі крылцамі стракоз над зацвілай вадой і над прыхаванымі пад водарасцямі, ля берага, карычневымі смаўжамі, якія пускалі бурбалкі, мільгацеў выпуклымі вачыма жабак, што выглядалі з-пад вады. А лябёдка на хвалях нагадала майстрыху, якая вязала карункі з ярка-ружовай пены». І далей — не менш маляўніча, хоць крыху ў іншым ключы — пра вянчанне бусла і жабы. Асабліва выразны бусел, які сваёй чырвонай дзюбай паважліва папраўляе мініяцюрны капронавы вэлюм сваёй абранніцы. «Жаба тры разы праквакала. Бусел тры разы праклёкаў. Мажны бабёр тройчы правёў скрыжаванымі трэскамі над галовамі маладажонаў...» Чым не дзіцячая казка?.. Здаецца нам, у Алены Ігнацюк маглі б атрымацца захапляльныя дзіцячыя кнігі. Бусел з яго судженай, а яшчэ больш котка Ева, філасаф і паэтэса, так і просяцца ў яе галоўныя героі.

Фантасмагарычныя малюнкі ў Алены Ігнацюк даволі часта ўзнікаюць на аснове зрокавых асацыяцый. Так, адзінка — худая, насатая даўгавязая суседка. Бязвольная, бо не можа нават паўтарыць сама сябе. А двойка — сімвалічная жанчына ў фіялетавым капюшоне, якая на каленях просіць у духаў зімовага Снегаветру адшукаць сястрычку, каб можна было скласці пару...

У «Дыярыушы ад дзівалова» ненавязліва падаецца даволі многа гістарычных звестак. Не могуць не зацікавіць малюнкі Пінска часоў каралевы Боны. Разам з мілнаўскім Тыграй добра пагуляць па лясах і балотах Піншчыны. Не пакідаюць абыякавым эпізоды жыцця і дзейнасці айчынных асветнікаў і дзеячаў мастацтва. Аўтар высока цэніць народныя традыцыі і культуру роднага краю. Так, напрыклад, у раздзеле пра пана Бусла рэчы самі бягуць да касцёла, калі там пачынае гучаць аўтэнтычная музыка. Яна прыцягвае і заварожвае.

Культура, па пераканнанні аўтаркі, — тое адзінае, што можа выратаваць грамадства ад пагібелі. Калі па віне бязлікіх Масак з горада знікае Культура, на яе месца заступае такая ж бязлікая Ціхоня-Пустэча. «Я — замест Культуры...» — бармоча яна невыразна і вядзе людзей у масках праз снежнае поле да ліній абрыву. «Маскі! За полем — пастка! Выбірайце пастку! За мной!» — крычыць вар'ятка, і ўсе кідаюцца ўніз... Невясёлая, як кажуць, перспектыва... Але не будзем пераносіць, як гэта раюць навукоўцы, што не ходзяць парамі, жыццё кніжных персанажаў у нашу паўсядзённасць...

Застаецца сказаць, што «Дыярыуш для дзівалова» Алена Ігнацюк надрукавала пад псеўданімам Дора Гуш, а яшчэ тое, што кніга выйшла накладам у 150 асобнікаў, а нядаўна адбылася яе прэзентацыя ў парафіяльнай бібліятэцы імя Адама Міцкевіча сталічнага Касцёла Святых Сымона і Алены.

**Мікола Сянкевіч**

# «Лавіць матылькоў...»

**Выйшаў з друку 93 нумар «Дзеяслова».**




Часопіс адкрываецца лірычным цыклам паэта з Кобрына Ігара Сідарука, вершы якога пакідаюць чытача ў добрым псіхалагічным настроі, не зважаючы на пераменлівасць пачуццяў, што пераследуюць аўтара падчас душэўных узлётаў і будзённых грэхападзенняў. Каханне, якое не дае дарэшты страчваць ілюзіі да жыцця нават у сталым веку:

*Ты вершы хавала на голае цела,*
*На скуры пісала рамана старонкі.*
*Што нельга вось так –*
*разумець не хацела!*
*І ў неба ляцела — адчайна і звонка.*

Пісьменнік Сяргей Рублеўскі з Віцебска прапануе чытачам апавяданне на гістарычную тэматыку, калі дакладна, то пра адну прыватную судовую справу часоў Вялікага Княства Літоўскага. Тэма для аўтара, бадай, новая. І гэта пры чытанні адчуваецца. Як мне падалося, тэксту не хапае разнявольнасці, шчырай выверанасці ды займальнай развязкі, як тое заўжды было на высокім мастацкім узроўні ў ранейшых творах, што пісаліся гэтым таленавітым пісьменнікам на блізкародныя яму душэўныя тэмы.

Новая (чарговая) балада Уладзімера Арлова, змест якой натуральна грузінскі з прыцягнутымі па асацыяцыі персанажамі гістарычнага і цяперашняга часу, называецца «Гвірабі». Лірычна тонкі настрой, як пахкая бруя настоенага вінаграднага віна, што, хмельна пераліваючыся пад сонцам, ліецца ў бяздонны рог грузінскай гасціннасці... Не вызнаць ад такой словачыннасці эстэтычнага задавальнення — грэхападобна.

*царыцу звалі Тамара*
*Руставелі напісаў за Тамарай*
*Рыцара ў тыгравай шкуры*
*Грузія прысвяціла Руставелі*
*купюру 100 лары*
*царыцы Тамары Грузія*
*прысвяціць*
*купюру 50 лары*
*паэты цэняцца даражэй*
*за царыц*
*магчыма і за цароў*
*цары маюць іншую думку*

У нашым выпадку, будзем спадзявацца, балада «Гвірабі», напісаная за часам Лукашэнкі, у гэты ж час і будзе адпаведна ацэнена.

Заяўленае часопісам апавяданне Паліны Качатковай «Гатэль «Цішыня»», на маю думку, яшчэ павінна некалі напісацца. Пакуль жа чытачу прапануецца яго чарнавы накід. Магчыма, я памыляюся і гэта такі своеасаблівы стыль аўтара — і яго трэба збіраць, як пазлы, для выяўлення адзінай скончанай карціны. Ну, не ведаю, у мяне пры збіранні чамусьці нічога ўцямнага, а тым больш мастацкага, не атрымалася.

Чытаючы і даўно ведаючы (лічы, ад самых вытокаў) паэзію Насты Кудасавай, заўжды радуюся і здзіўляюся яе новым успляскам болевага натхнення. І гэты лірычны (як і метафізічны) боль аўтара ў яе творах ёсць адзінацэльным паэтычным тэкстам яе метафарычнага літаратурнага жыцця. Чарговы тэкст чапляецца за новы тэкст, слова — за слова, гук — за гук, ствараючы рэха вершаванага мастацкага плёну. Адбываецца натуральнае ўзвышэнне лёсу ажно да «пяшчоты» духоўнай «эўтаназіі». Маем вельмі таленавітую і неардынарную паэтку, і, згадваючы выраз Анатоля Сыса, павінны памятаць, што

*...такія жывуць насамрэч*
*толькі там, дзе тонка.*
*ну, а ўсё, што рвецца,*
*я складаю рупліва ў рукаў.*
*і пакуль мяне ненавідзяць*
*чужыя жонкі,*
*я ўсплываю між вамі штодня*
*паплаўком радка.*

Удумна-разважлівы і эмацыйна-пачуццёвы аповед Уладзіміра Мхно «Буслік» — пра ціхае паміранне нашай вясковай бацькаўшчыны і пра яе адпрыродны духоўны супраціў — прагу жыцця. Напачатку аўтар разважае над гэтым балючым пытаннем вельмі глыбока і філасофскі:

«І калі ўжо нас, закаранелых-удзірваненых вяскоўцаў, паесць той горад, праглыне ў сваёй ненасытнай пашчы? І калі ўжо нас даб'юць, даруйнуюць, дазачыняць, данішчуць? Бо як бяльмо ж на воку моцным свету гэтага, пранырлівым і дасужым, мы — з філасофіяй сваёй вясковаю, з мовачкай сваёй каптурова-загнетавай. Нас руйнуюць, урбанізуюць, аптымізуюць, ужо й не ведаюць, што з намі зрабіць, а мы ўсё яшчэ дыхаем, крэкчам, а жывем. І ўсё роўна ж у той горад не пойдзем, а пойдзем толькі на сухі лес і на пясчаную горку, адкуль нават з-пад зямлі збіраемся бачыць свае вёсачкі, і, спачуваючы, вечна пра іх думаць...

А напрыканцы канстатуе тое рэальнае і рэчаіснае жыццё сучаснай вёскі так, як яго паўсядзённа бачыць і вычувае ён сам:

«Вечары доўгія. Кампутар зусім адабраў вочы, а сацыяльныя сеткі — розум. Перматвараешся ў зомбі і пачынаеш спалохана адчуваць, што ўжо не можаш і не хочаш адарвацца ад экрана манітора і паказваць нос на вуліцу. Што зараз на вуліцы рабіць? Прынесці дроўцаў, напаліць у грубцы, уступіцца ў мяккія буркі, калі ў сланцах ужо няўстрым, і сесці за манітор. Нават кніжкі — тваё жыццё і твой лёс — ужо на другім плане — у мінулым, там, дзе і твая маладосць, і твае юначыя амбіцыі, і твае светлыя вочы...»

Наіўны аўтар спадзяецца, што новай вясной, прыляцеўшы ў сваё гняздо буслік, змусіць яго ўсё ж «адарвацца ад кампутара і каторы раз акрыяць душою»... Хацелася б верыць, але...

Іранічна-гратэскавыя вершы Усевалада Гарачкі з нізкі «Свята вайны» выклікаюць неадназначныя пачуцці. На тое публікацыя, зрэшты, і разлічаная. Зразумелыя погляды аўтара да вечна ўхвальнага свята Перамогі, да «танцаў на касцях», але ўсё ж некаторыя праявы вобразнага сарказма падштурхоўваюць да сумнеўнасці такіх аднаназначных поглядаў на балючую тэму. Нехта, пэўна, гэтак жа не будзе падзяляць тыя мае асцярогі. У такім выпадку я магу апынуцца адным са «старых герояў» аднайменнага верша У. Гарачкі:

*Хацеў пачаставаць цябе*
*кулямі жартаў,*
*Але ты ўжо ў акопе*
*Абранасці,*
*Пыхі,*
*Непрыняцця чужога.*
*Хацеў закідаць цябе*
*гранатамі кпінаў,*
*Але ты ўжо ў танку*
*Ганарлівасці,*
*Глупства*
*І цемрашальства.*
*І начышчанае жэрала яго гарматы*
*Пазірае мне ў твар.*

Мае аўтар права на такую думку? Чаму ж не...

Прызнаюся, што я вельмі запаважаў сябе, як чытача і крытыка, калі ўсё ж дачытаў да апошняй кропкі фрагмент фантасмагарычнага рамана Зміцера Вішнёва «калі прыгледзецца — Марс сіні». Дай Бог і вам. У ім ёсць соль жыцця, асабліва літаратурнага. Узгадаем, што, бадай, усе тэксты Зміцера Вішнёва напісаны ў яго пазнавальным стылі і малаўразумелай форме. А чалавек у ім ці зразумелы? Па логіцы аўтара мастацтва і літаратура ёсць не столькі актам доследу і разумення, а — спробай духоўнага ўдасканалення няўлоўнай чалавечай думкі... За якой — цэлы творчы свет.

«Пра што я хачу вам распавесці? Пачнем з таго, што я анічога не хачу распавядаць. Ну, не хачу і ўсё! Я проста здзекуюся з паперы і такім чынам лекую сваю змардаваную душу».

Правакатыўна. Але ці так гэта насамрэч, бо, аказваецца, распавядаць ёсць пра што:

«Рыгор Каваль з сумам паглядзеў на кніжныя паліцы — да кніжак аніхто не дакранаўся. Усім было пофіг! Літаратура кацілася ў тартарары. Усе Рабінзоны Крузы і Клеапатры, усе Томы Соеры і Сечкі, усе Праклёны і Цвікі — усе гэтыя літаратурныя складнікі былі незнаёмыя тутэйшым гасцям, але яны на іх не звярталі ўвагі. І ўвогуле было ўражанне, што іх цікавяць толькі парсючкі ды катлеткі...».

Вершы Алеся Наркевіча з Вілейкі эмацыйна-экспрэсіўныя, хоць стылёва і ідэйна даволі песімістычныя, з эзатэрычным падтэкстам. Асобныя з іх леглі мне на душу. Але працытаваць хочацца менавіта глыбока аптымістычны пасыл аднаго з вершаў:

*Трэба жыць. І гэтым чынам*
*Не даваць паскудству ходу.*
*Будаваць сваю Айчыну,*
*З нашым зместам, з нашай модай.*

Занатаванымі цікавосткамі і прыгодамі ўласнага і калегіяльнага культурніцкага жыцця дзеліцца з чытачамі часопіса Уладзімір Сіўчыкаў. Ёсць сярод запісаў займальныя ды іранічна-анекдатычныя гісторыі. Таму — чытайце, сумна не будзе.

Па-добраму ўразіла аповесць «Вы жэ самі ўсё прэкрасна панімаеце» даволі маладой літаратаркі Янкі Вольскай, не зважаючы на такі базарна-трасяначны назоў твора. Усцешыў нечаканы (як для такой маладой асобы) сталы і дакладны досвед сучаснага беларускага грамадства. Адчуваецца прафесійны погляд на як бы другарадныя рэчы. Вобразы герояў аповесці — людзей, грамадзян, увогуле чалавека беларускага — як адзінапрымальны на сёння вобраз грамадска-дзяржаўнага ладу ў таталітарнай краіне. Іх характары і ўчынкі праўдападобныя, а да таго ж па-мастацку нетрывіяльна і стылёва нязмушана выпісаныя. Гэта не імпульсіўна-эмацыйны, а цвярозы і роздумны погляд на праявы палітычнага і грамадскага жыцця ў Беларусі. Гэткі мужчынскі, сказаў бы я, адстаронена-насцярожаны погляд у нашае заўтра...

Як я мяркую, мы маем справу з таленавітай маладой пісьменніцай. Натхнення ёй і плённага творчага шляху. Хіба не пазнаем мы тут сваіх «герояў нашага часу»?

«Уся яго шматгадовая стомленасць адразу абрынулася долу ў святле патэнцыйнай пасады. Вочы загарэліся азартным полымем, як у заўзятага гульца ў казіно. Ён быў гатовы да тытанічнай працы, да перашуфлявання стоса справаў, да праўдаў і няпраўдаў, безумоўна, у межах закона і ў яго імя, але, каб толькі атрымаць гэтую пасаду. Тут прадстаўнік камісіі падэлію у самую кропку, у эпіцэнтр таемных жаданняў суддзі».

Праўда, мне не надта спадабаўся заключны дыялог аповесці. І, бадай, гэта адзіная дэталь, якая мне падалася не дарэшты прадуманай.

ДатКліва-ўтоены ў сабе паэт Вадзім Корань спрабуе раскрыць духоўны і душэўны стан чалавека, калі ён апынаецца сам-насам перад сваім светавыяўленнем і лёсавызначэннем — на мяжы сапраўднага і віртуальнага. Позні дэбют аўтара абманлівы і сваімі творамі абвяргае думку пра яго малы літаратурны вопыт і відочны паэтычны талент.

*З васількамі ў руках,*
*у белай кашулі,*
*пайду між бетонных гмахаў*
*па чорным асфальце вуліц,*
*праз цёплы пяшчотны дождж,*
*як Максім Багдановіч, самотны,*
*ды толькі старэйшы ўсё ж*
*і не сухотны.*

Драматургія прадстаўлена крэсовымі сцэнамі (у двух актах) з жыцця аднаго з правінцыйных гарадкоў сучаснай заходняй Беларусі. Называецца п'еса «Карта паляка», а напісалі яе Уладзіслаў Ахроменка і Максім Клімковіч. Яе героі, разнародныя па сваіх поглядах жыхары, выяўляюць свае натуральныя характары, калі іх адольвае жарсць і хэнць да лёгкага і бязбеднага жыцця. Карта паляка — адна з такіх прыцягальных грамадскіх праяў і з'яўляецца своеасаблівай лакмусавай паперкай для вызначэння чалавечай натуры сённяшняга беларускага электарата. Вось пара зонгаў, якія спецыяльна для п'есы напісаў Сяргей Балахонаў:

*Альбіна:*
*Ад гэтых збеглых псіхапатаў*
*Мястэчка ледзь не вар'яцела.*
*Каму ўспраглося польскай карты,*
*Каму ў мірѣ русскій закарцела.*

*Генік:*
*Заняцца гэтым я згадзіўся,*
*Бо карта — індыкатар здрады:*
*Хто Беларусі ўжо зракліся,*
*Прадаць і Польшчу будуць рады.*

Пераклады лепшых твораў сусветнай літаратуры — адна з фішак часопіса «Дзеяслоў». Гэтым разам у рубрыцы — «Паэзія». Як класічная, так і сучасная. Вершы японскага класіка традыцыйнага хайку Кабаясі Іса пераклала Вольга Гапеева, яна ж напісала кароткую, але змястоўную прадмову. Вершы вядомага сучаснага нарвежскага паэта Стэйнара Упстада пераклаў Дзмітрый Плакс.

Друкуецца вельмі адметная архіўная гутарка 1999 года Святланы Алексіевіч з рускамоўным паэтам Веніямінам Блажэнным (Айзенштатам). Цікавыя погляды і развагі вядомай на той час публіцысткі і «апальнага» паэта на свабоду грамадзянскую і свабоду творчую. Літаратуразнаўца Ева Лявонава публікуе артыкул пра жыццё і творчасць вядомага французскага паэта беларускага паходжання Гіёма Апалінэра (Кастравіцкага) у звязку з яго сёлетнім юбілеем. Паэтка Аксана Данільчык разважае пра рукапісны зборнік вершаў Ганны Новік. Друкуецца працяг успамінаў выдатнага беларускага бібліёграфа Юліі Бібілы. Яўген Рагін у «Палаце № 6» (так называецца арыгінальная рубрыка) друкуе свае чарговыя «абы-штоські» пад назовам «Я ў вас свой картузік не пакідаў?»

Да ўсяго Віктар Жыбуль рэцэнзуе кніжку «Уладзімір Дубоўка. Ён і пра яго», укладзеную Ганнай Севярынец, а Леанід Галубовіч самотна разважае пра пасмяротны зборнік вершаў рана сышоўшага ў лепшы свет паэта з гарадзеншчыны Андрэя Пяткевіча «Шчасьлівым сканаць». А завяршае публікацыі часопіса рубрыка «Дзеяпіс» з анатацыямі кніжак, што нядаўна пабачылі свет.

Ну і чаму б не пачытаць такое насычанае адметнай літаратурай выданне, тым больш квітнеючай вясной, калі чалавечы розум яшчэ абвостраны і сквапны да ўсяго новага і арыгінальнага...

**ЛеГал**



# Помнік Цвятаевай

**14 мая ў Маскве на тэрыторыі школы №1619, якая носіць імя паэткі, быў урачыста адкрыты помнік вядомай паэтэсе Марыне Цвятаевай.**

Прэс-служба аўтара скульптуры, прэзідэнта Расійскай акадэміі мастацтваў Зураба Цэрэтэлі паведаміла: «Помнік зроблены з бронзы і адлюстроўвае паэтку, якая сядзіць на пастаменце і якая трымае ў руцэ кветку. Вышыня скульптуры — каля двух метраў».

Зураб Цэрэтэлі стварыў скульптуру за свой кошт пасля таго, як вучні і дырэктар школы напісалі яму ліст з просьбай пра яе выраб.

У цырымоніі адкрыцця, акрамя Цэрэтэлі, прынялі ўдзел унучка Цвятаевай, загадчык яе архіва Вольга Трухачова, гісторык, літаратуразнаўца, заснавальнік і экс-дырэктар Дома-музея Марыны Цвятаевай Эсфір Красоўская і дырэктар Дома-музея Марыны Цвятаевай Алена Жук

Распараджэнне аб усталёўцы помніка паэтцы падпісаў мэр Масквы Сяргей Сабянін 14 сакавіка гэтага года.

Нагадаем, што ў Маскве ўжо існуе помнік паэтцы, адкрыты ў 2007 годзе ў Барысаглебскім завулку, насупраць дома, дзе паэтка жыла ў маладосці да эміграцыі. У цяперашні час у будынку размешчаны Дом-музей Марыны Цвятаевай.

# Цэнтр Андрэя Вазнясенскага

**У Маскве ў асабняку штабс-капітана Дзямідава на Вялікай Ардынцы ў мінулым годзе правялі прэзентацыю культурнага цэнтра Андрэя Вазнясенскага, а сёлета — у дзень нараджэння паэта — адбылося яго адкрыццё.**



Першапачаткова меркавалі на базе цэнтра стварыць музей, але пасынак паэта Леанід Багуслаўскі паведаміў, што ад гэтай канцэпцыі адмовіліся: «Музей — гэта мінулае, старое, артэфакты і гэтак далей. А ў самім словазлучэнні «культурны цэнтр» ёсць жыццё і будучыня». Таму замест традыцыйных экспанатаў наведвальнікі ўбачаць самыя сучасныя мультымедыйныя тэхналогіі: тэлевізары ды часовыя інсталяцыі.

У зале першага паверха ўзвышаецца інсталяцыя пад назвай «Антарэкс», або «Прысвячэнне», якая нагадвае дзіцячы канструктар са складзеных чорна-чырвоных кубоў з вершамі Андрэя Вазнясенскага і фотаздымкамі. Радкі ды вершы паэт прысвяціў сваім сябрам і тым, хто яго натхняў: Васілю Быкаву, Алегу Табакову, Яўгену Еўтушэнку, Райманду Паўлсу, Алегу Меньшыкаву, Барысу Грабеншчыкову і іншым. Уздоўж сцен вісяць тэлевізары, якія транслююць «відэомы» (відэа чалавека, паводле Вазнясенскага). Так прадстаўлены тэматычныя калажы, якія суправаджаюцца тэкстам. Акрамя гэтага, можна праслухаць паэзію Андрэя Андрэевіча, зняўшы са сцяны навушнікі.

Экспазіцыю на другім паверсе назвалі «Парабала». Яна прысвечана лёсавызначальным сустрэчам паэта, а таксама легендарным персонам, якія пакінулі след у яго жыцці і творчасці. Тут знаходзіцца стэнд, прысвечаны музе і жонцы Зоі Багуслаўскай, таксама прадстаўлены Бэла Ахмадуліна, Андрэй Таркоўскі, Мая Плісецкая і Радзівон Шчадрын і іншыя.

Адзіная фіксаваная экспазіцыя культурнага цэнтра — гэта кабінет Андрэя Вазнясенскага: у чорным пакоі валізкі (з подпісам «А ці не махнуць на мора?»), стол, фатэль і папяровыя самалёцікі на сцяне.

На цырымоніі адкрыцця Цэнтра госці ўшанавалі памяць паэта чытаннем яго вершаў.

# «Алмазная сутра»

**1150 гадоў таму — 11 мая 868 года — была створана першая датаваная друкаваная кніга — «Алмазная сутра».**

«Алмазная сутра» (або Ваджраччхедзіка Праджняпараміта сутра (на санскрыце) — «Сутра аб дасканалай мудрасці, якая рассякае [цемру невуцтва], як удар маланкі» — з'яўляецца асноватворным тэкстам будызму махаяны (галіна будызму), створанай у III стагоддзі н. э. Сваю назву «Алмазная сутра» атрымала ад заходніх даследчыкаў.

Існуе 6 кітайскіх перакладаў «Алмазнай сутры», пры гэтым пераклад Кумараджывы з'яўляецца першай у свеце друкаванай. Цяпер яна захоўваецца ў Брытанскай бібліятэцы. Яе асаблівасць — франтыспіс з выявай Буды ў асяроддзі святых, бодхісатваў, апсар, якія лётаюць, і двух львоў, а перад алтаром з рытуальнай параферналіяй сядзіць манах Субхуці, які задае Будзе пытанні, адказы на якія і складаюць тэкст «Алмазнай сутры».



«Сутра» з'яўляецца першым узорам ксілаграфіі (друку з драўлянай дошкі). Гэта скрутак даўжынёй 4,8 метраў, набыты археолагам Стэйнам Маркам Аўрэлем у манаха ў пячорах Могао каля Дуньхуан, дзе знаходзілася велізарная бібліятэка рукапісаў. У апошніх радках скрутка маецца тэкст: «З глыбокай павагай зроблена для ўсеагульнага бясплатнага распаўсюджвання Ван Цзэ па даручэнні яго бацькоў у 15 дзень 4-ай фазы месяца года Сяньтун (11 траўня 868 года)».

У «Сутры» апісваюцца паводзіны, мова і лад думак тых, хто стаў на шлях бадхісатваў («прасветленых»). Для абгрунтавання асноўных палажэнняў у «Сутры» выкарыстоўваецца характэрная пабудова прапаноў («парадаксальная логіка»): «тое, пра што Буда прапаведаваў як пра дасканаласць мудрасці, аб тым жа Ён распавёў як пра недасканаласць, таму яно названа дасканаласцю мудрасці».

Гэтая логіка падкрэслівае ўмоўнасць назвы і непажаданасць змешвання двух узроўняў паняцця: узроўня значэння і ўзроўня выражэння, сэнсу.

Яе асноўная мэта - паказаць, што ўсё апісванае не з'яўляецца рэальнасцю, бо мова звязана са знакамі, а не з рэальнасцю.

# Страсці па Пулітцэраўскай...

**Нядаўна выбухнуў яшчэ адзін сэкс-скандал у літаратурным свеце: старшыню журы вядомай у свеце Пулітцэраўскай прэміі абвінавацілі ў дамаганнях.**

Амерыканскі пісьменнік дамініканскага паходжання Джуна Дыяс, які толькі ў мінулым месяцы ўзначаліў журы Пулітцэраўскай прэміі, быў вымушаны пакінуць сваю пасаду з-за абвінавачванняў у дамаганнях, якія паступілі ў яго адрас. Паводле паведамлення «The Guardian», пісьменніца Зінзі Клеманс напісала ў сваім твітэры, што Дыяс сілком пацалаваў яе некалькі гадоў таму. На гэтае паведамленне прарэагавалі і іншыя жанчыны, выступіўшы з аналагічнымі абвінавачваннямі ў адрас Джуна Дыяса ў сацсетках.



Аргкамітэт Пулітцэраўскай прэміі заявіў журналістам, што пачне незалежнае расследаванне сцвярджэнняў пра неналежныя паводзіны Джуна Дыяса, а сам аўтар адмовіўся ад ролі старшыні журы. Зрэшты, Дыяс пакуль застаецца ў складзе журы прэміі. Дарэчы, ён сам з'яўляецца лаўрэатам Пулітцэраўскай прэміі — у 2008 годзе ён атрымаў яе за раман «Кароткае і дзіўнае жыццё Оскара Уао» («The Brief Wondrous Life of Oscar Wao»). Пост Дж. Дыяса часова зойме старшыня журы папярэдняга складу — Юджын Робінсан.

Масачусецкім тэхналагічным інстытутам, прафесарам якога з'яўляецца Дж. Дыяс і дзе выкладае, таксама будуць вывучацца згаданыя сцвярджэнні жанчын. Публічная бібліятэка Кембрыджа таксама абвесціла, што ёю адменены штогадовыя Летнія чытанні «Kick-Off» з удзелам Джуна Дыяса.

У эсэ для «New Yorker» у мінулым месяцы Джун Дыяс напісаў пра «спадчыну дзіцячай траўмы», прызнаўшыся, што яго неаднаразова гвалтавалі дарослыя, калі яму было 8 гадоў.

# Нарвежка прадказала крах Расіі

**Нарвежская пісьменніца Эрыка Фатланд аб'ехала краіны, якія мяжуюць з Расіяй, дзеля напісання кнігі «Мяжа» і паразважала пра будучыню краіны. Пра тое першым паведаміла «ИноСМИ».**

Эрыка Фатланд праехала праз 14 дзяржаў, якія мяжуюць з Расіяй, каб зразумець, што можна даведацца пра дзяржаву, назіраючы за ёй звонку. Падарожжа 34-гадовай літаратаркі доўжылася 259 дзён. Пісьменніца наведала і Паўночную Карэю, Кітай, Азербайджан, Беларусь, Грузію, Літву ды іншыя краіны.

Яна адзначыла, што суседнія краіны галоўным чынам ставяцца да Расіі як да старэйшага брата, ведаючы, што яна «больш і мацней». Пры гэтым пісьменніца адзначыла, што Кітай стаў выключэннем, бо ў параўнанні з ім эканоміка Расіі слабая.

«Я мяркую, што будучыня Расіі заснавана на гісторыі. Існавала мноства імперый, і ўсе яны заўсёды распадаліся. Расія такая вялікая, і там жыве так шмат розных народаў, а дзяржава неэфектыўная з-за маштабнай карупцыі і слабай эканомікі. Я думаю, што Расія будзе пашырацца, пакуль не развалiцца. Не магу сказаць дакладна, калі гэта адбудзецца, але не думаю, што праз 100 гадоў мяжа будзе выглядаць так, як цяпер. Расійская мяжа стане карацей», — падагульніла Эрыка Фатланд.

Пісьменніца адзначыла, што за час праекта межы Расіі паспелі памяняцца: Крым увайшоў у склад краіны, а ва Усходняй Украіне разгарнуліся баявыя дзеянні. Па словах Фатланд, рускія — «апартуністы і трымаюцца правілаў гульні ў меншай ступені, чым многія заходнія краіны».

«Расія заўсёды будзе імкнуцца займець назад тэрыторыі, якія калісьці былі яе часткай. У расійскай свядомасці тэрыторыі накшталт Казахстана і Беларусі — расійскія. Аднак я не думаю, што Расія адважыцца зрабіць замах на краіну НАТА», — дадала яна.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Як беларусы будавалі Ізраіль

## Сіяніцкі з'езд у Мінску і першы бой Арміі абароны Ізраіля ў Гомелі

Юрый ГЛУШАКОЎ

**У траўні 1948 года была абвешчана дзяржава Ізраіль. Ураджэнцам Беларусі было наканавана адыграць у гэтых падзеях велізарную ролю. Мы шмат ведаем пра асобаў, якія спрычыніліся да гэтай дзейнасці, але небагата — пра падзеі, якія змусілі іх з'ехаць у Палесціну.**



Першы з'езд сіяністаў у Мінску

### Беларускае гета

Да пачатку ХХ стагоддзя многія гарады і мястэчкі Беларусі ўяўлялі сабой яўрэйскія гета, дзе яўрэі складалі ад 60 да 80 працэнтаў насельніцтва. Звычайна гэта прынята звязваць з сумнавядомай «рысай аселасці», усталяванай у Расійскай імперыі неўзабаве пасля падзелу Рэчы Паспалітай. Але і задоўга да гэтага мноства яўрэяў бегла ў ВКЛ ад пагромаў, напрыклад, у Германіі.

У дачыненні да яўрэяў палітычны і сацыяльны прыгнёт дапаўняўся нацыянальнай і рэлігійнай дыскрымінацыяй, таму іх удзел у рэвалюцыйным руху быў вельмі актыўным. Потым у іх асяроддзі з'явіліся настроі на стварэнне і ўласна яўрэйскіх рэвалюцыйных арганізацый. У 1897 годзе быў утвораны Яўрэйскі рабочы саюз у Літве, Польшчы і Расіі, больш вядомы як «Бунд». У савецкай гістарыяграфіі «Бунд» было прынята вінаваціць у «яўрэйскім нацыяналізме». Прычым — цалкам беспадстаўна. Бундаўцы бачылі інтарэсы яўрэйскага пралетарыяту неаддзельнымі ад барацьбы расійскага і міжнароднага працоўнага класа. Але знайшліся і тыя, хто такую розніцу ўсё ж убачыў.

### Рабочыя Сіёна

У канцы XIX стагоддзя зараджаецца рух сіяністаў, і адным з яго цэнтраў становіцца Беларусь. У 1899 годзе гомельскі лекар Рыгор Брук быў абраны ў Савет Сусветнай сіяніцкай арганізацыі. Маладыя сіяністы абвінавачвалі фанатычных паслядоўнікаў рэлігійнай традыцыі ў дэградацыі яўрэйскага насельніцтва і, як і належыць радыкалам, прапаведавалі культ маладосці, сілы і энтузіязму. Пры гэтым у Беларусі вельмі ўплывовым былі не толькі буржуазныя сіяністы, але і левае сіяніцкае крыло, вядомае як «Паалей-Цыён» — «Рабочыя Сіёна». Але і левых, і правых яўрэйскіх нацыяналістаў аб'ядноўвала адно: намер вярнуць «гістарычную радзіму». Зрэшты, акрамя Палесціны, называліся і іншыя месцы — у Лацінскай Амерыцы, і нават Уганда ў Афрыцы.

У Беларусі сацыялісты-сіяністы працавалі сярод яўрэйскіх рабочых і інтэлігентаў. У Гомелі малады яўрэйскі паэт Іосіф Брэнер наведваў адначасова сходы і паалей-цыяністаў, і бундаўцаў.

Але не было ў бундаўцаў больш лютых ворагаў, чым сіяністы. У гомельскім архіве захоўваецца



Абвяшчэнне дзяржавы Ізраіль

ўспаміны відавочцы, які апісвае падпольную сходку ў Чэрыкаве ў пачатку ХХ стагоддзя. Дыскусія паміж сіяністамі і бундаўцамі нават перарасла ў бойку, і толькі з'яўленне паліцыі прымусіла і тых, і другіх сыходзіць агародамі.

Цікавы факт: нягледзячы на антысемітызм, уведзены ў ранг дзяржаўнай палітыкі, стаўленне ўладаў Расійскай імперыі да сіянізму было неадназначным. Паміж сіяністамі і царскай паліцыяй завязаўся дзіўны раман. Гэта адбылося падчас знаходжання на чале МУС Вячаслава фон Плеве. Ідэолагам новай палітыкі, падобна, быў начальнік Асобага аддзела Дэпартамента паліцыі Сяргей Зубатаў. Ён сам прыцягваўся па справе аб палітычным дазнанні, перайшоў на бок уладаў і стаў адным з лепшых паліцэйскіх Расіі. Зубатаў вырашыў ствараць падкантрольныя працоўныя партыі і арганізацыі. Сіяністы былі прызнаныя ў гэтым сэнсе аднымі з найбольш перспектыўных. Чаму?

Многія з сіяніцкіх дзеячаў і тады, і пазней выказваліся ў рэчышчы «час перастаць аплачваць яўрэйскай крывёю чужыя рэвалюцыі». Маўляў, яўрэі павінны берагчы сілы для стварэння сваёй дзяржавы. Такая мадэль «не дзеі» ўнутры Расійскай імперыі задавальняла ўлады. Мабыць таму сіяністам вырашана было даць «зялёнае святло».

### Паліцэйскія і пралетарыі

У 1902 годзе ў Мінску легальна прайшоў з'езд сіяністаў. На ім было 600 дэлегатаў, з'езд асвятляла 70 карэспандэнтаў СМІ! А за год да гэтага разгарнула дзейнасць «Яўрэйская незалежная рабочая партыя» (ЯНПР) на чале з Маняй Вільбушэвіч, дачкой яўрэйскага купца з-пад Гродна, якая з ідэйных меркаванняў стала грузчыцай. Характарыстыка партыі як «незалежнай», відаць, была павінна падкрэсліць свабоду партыі ад уплыву сацыялістаў і іншых крамольнікаў. Хаця менавіта былыя сацыялісты, якія сталі лаяльнымі манархіі, яе і ўзначальвалі. Падцягнуліся да «незалежнікаў» і левыя сіяністы.

У кароткі час ЯНРП стала папулярнай сярод працоўных, яе філіі дзейнічалі ў Мінску, Гомелі, Адэсе і іншых гарадах. Сакрэт поспеху быў просты: страйкі пад кіраўніцтвам «незалежнікаў», як правіла, выйграваліся. Папросту ў гэтых выпадках паліцыя «рэкамендавала» гаспадарам прыслухацца да патрабаванняў рабочых.

Падобныя поспехі «паліцэйскага сацыялізму» не маглі не выклікаць занепакоенасці сапраўдных рэвалюцыянераў. Але буржуазія была ўстрывожаная поспехамі «зубатаўцаў» яшчэ больш і змагла знайсці дарогу да высокага кіраўніцтва: неўзабаве «незалежная» партыя спыніла сваю дзейнасць. Пасля і сам аўтар інтрыгуючай сацыяльна-паліцэйскай гульні Зубатаў быў адстаўлены. А Маня Вільбушэвіч і яе муж Ісраэль Шохат прынялі ўдзел у каланізацыі Палесціны.

### Пачатак ЦАХАЛ — у Гомелі

Пасля правалу «паліцэйскага сіянізму» спецслужбы сталі вяртацца да рэпрэсій. Але, паколькі працоўны рух быў занадта масавым, кропкавых арыштаў ужо было недастаткова. Вырашылі «біць па плошчах», і для гэтага быў абраны стары апрабаваны сродак — яўрэйскі пагром. Першая хваля пагромаў пракацілася яшчэ ў 1880-х, і да гэтага часу дакладна не высветлена яе паходжанне. Некаторыя кажуць пра дачыненне да іх рэвалюцыянераў-народавольцаў, якія спрабавалі, выкарыстоўваючы нянавісць да эксплуатацыі з боку яўрэйскага капіталу, падняць народны рух. Іншыя, наадварот, лічаць, што гэта была рэакцыя цёмных нізоў на забойства цара сацыялістамі. Але менавіта пагромы 1880-х гадоў выклікалі першую хвалю эміграцыі яўрэйскага насельніцтва, у тым ліку — і ў Палесціну.

Цяпер жа пагромы павінны былі насіць антырэвалюцыйны характар. Запалохваючы яўрэйскае насельніцтва, яны павінны былі прымусіць іх адмовіцца ад падтрымкі сацыялістычнага і вызвольнага руху. Але ўсё атрымалася з дакладнасцю да наадварот.

У красавіку 1903 года жудасны пагром адбыўся ў Кішынёве. Натоўп беспакарана граміў яўрэйскія кварталы некалькі дзён, вынікам чаго былі дзясяткі забітых і тысячы параненых. Тады беларускія габрэі вырашылі супраціўляцца. У Гомелі, Пінску і іншых гарадах пачалі ствараць атрады самаабароны і запасацца зброяй. У Гомелі, па дадзеных паліцыі, самаабарона практыкавалася ў стральбе з рэвальвераў на «Мельнікавым лузе», спяваючы пры гэтым песню «На хрысціян, на сабак, на праклятых...» на матыў «Дубінушкі». Апошняе сцвярджэнне можна пакінуць на сумленні і антысеміцкім настроі сведак царскага суда і паліцыі.

Але, калі ў канцы жніўня 1903 года ў Гомелі на Базарнай плошчы ляснік князя Паскевіча ўдарыў яўрэйку, што гандлявала селядцом, самаахоўцы з нажамі і кісцянямі хлынулі з усіх бакоў. Яны атакавалі і тых, хто ўдзельнічаў у бойцы, і тых, хто стаяў убаку. Лічыцца, што самаабарона прадухіліла пагром, іншыя ж кажуць, што распаліла жарсці.

Праз два дні натоўп рабочых майстэрняў Лібава-Роменскай чыгункі рушыў у горад «біць жыдоў». Самаабарона сустрэла пагромшчыкаў і, верагодна, сапраўды спыніла б іх. Але ў канфлікт умяшаліся роты 160-га пяхотнага абхазскага палка, які страляў залпамі ў абодва бакі. У выніку пагром закрануў пераважна бедныя кварталы, куды вайскоўцы і паліцыя выцеснілі чарнасоценцаў. Большасць загінулых пры беспарадках былі сябрамі самаабароны.

Сёння кажуць пра тое, што сучасная Армія самаабароны Ізраіля (ЦАХАЛ) вядзе радавод ад той самай гомельскай самаабароны. Гэта і так, і не так. Сапраўды, падзеі жніўня-верасня 1903-га былі першым прыкладам арганізаванай узброенай абароны яўрэйскага насельніцтва ў найноўшай гісторыі. Шмат хто з удзельнікаў самаабароны, адбыўшы тэрмін за ўдзел у «міжплемянным пагроме» ў Гомелі або схаваўшыся ад пераследу ўладаў, эміграваў у Палесціну. Яны заснавалі там адну з першых камун і ўдзельнічалі ў стварэнні ўзброенай арганізацыі «Ха Шомэр» («Вартавы»). У сваю чаргу, на яе аснове склалася знакамітая «Хагана», якая адыграла вырашальную ролю ў «бітве за Ізраіль».

Аднак гомельская самаабарона не была справай выключна сіяністаў і сіяністаў-сацыялістаў. У яе фармаванні прымаў удзел і «Бунд», які на той час з'яўляўся галоўнай яўрэйскай сілай. Да ідэі ж абвяшчэння Ізраіля-2 і, адпаведна, яго будучай арміі бундаўцы ставіліся больш чым абыякава. Відавочна, што руку да абароны прыклалі «беспартыйныя яўрэйскія масы», непрабудная беднота легендарнай гомельскай «Малдаванкі» — Кагальнага рова, і іншыя.

### Беларускія кібуцы

Пасля паразы рэвалюцыі 1905 года многія яўрэйскія дзеячы перайшлі да легальнай працы. Шырокую дзейнасць разгарнулі каланізацыйныя таварыствы, якія накіроўвалі яўрэяў у палесцінскія паселішчы.

Кастрычніцкую рэвалюцыю 1917 года ў яўрэйскіх грамадах сустрэлі неадназначна. «Бунд» і «Паалей-Цыён» яе збольшага прынялі. Правыя сіяністы і рэлігійныя партыі — не. Антысавецкі паўстанцкі рух не бачыў розніцы паміж «правымі» і «левымі» яўрэямі і знішчаў усіх запар. Што, відавочна, вымушала яўрэйскіх дзеячаў устрымлівацца ад барацьбы з Саветамі.

Хутка левыя сіяністы таксама апынуліся ў падполлі. У 1920-я гады ў Беларусі разгарнула нелегальную дзейнасць маладзевая арганізацыя «Ха-Шомэр Ха-Цаір». Яна была пабудаваная на паўвайсковым прынцыпе, мела раённыя штабы і «легіёны». Асноўнай мэтай была вярбоўка моладзі для каланізацыі Палесціны. Савецкую ўладу «шамэры» крытыкавалі з левых пазіцый, сцвярджаючы, што толькі ў Палесціне будзе пабудавана «камуністычная дзяржава».

Камунізму ў Ізраілі няма, а вось заснаваныя «шамэрамі» і іншымі піянерамі камуны-кібуцы дзейнічаюць і дагэтуль.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ: Сталіца новай Карэі — Уладзівасток?

Расійскія патрыёты раскрылі новую змову. У шэрагу іх выданняў з'явіліся публікацыі пра тое, што Захад запусціў працэс аб'яднання Карэі з доўгатэрміновай мэтай — далучыць да будучай аб'яднанай карэйскай дзяржавы расійскае Прымор'е або ўвогуле стварыць тут асобную дзяржаву карэйцаў. Раскрыць падкопы ворага дапамагла выстава «Па слядах Бахайскага царства», якая прайшла нядаўна ва Уладзівастоку. Экспазіцыя была прысвечана дзяржаве Бахай, якая існавала тысячу гадоў таму на Далёкім Усходзе. Між тым, як высветлілі патрыёты, у апошні час паўднёвакарэйскія навукоўцы пачалі актыўна даказваць, што тая дзяржава была ўтворана продкамі цяперашніх карэйцаў. Пазл канчаткова склаўся, калі стала вядома пра хуткае будаўніцтва аўтабана з Расіі ў КНДР. На думку патрыётаў, рыхтуецца глеба да новай хвалі карэйскай працоўнай міграцыі, якая дасць падставы для сепаратызму. Не выключаюць таксама, што ў Вашынгтоне задумалі стварыць на Далёкім Усходзе асобную карэйскую дзяржаву. На думку аўтараў публікацый, з'яўленне на мапе свету Прыморскай Карэі актыўна падтрымае мясцовы бізнес, які даўно пераарыентаваўся з Масквы на азіяцкія цэнтры.

**Паводле расійскай прэсы**

### КІТАЙ. Свінінай па сепаратызму

Як піша брытанская прэса, улады Кітая прыдумалі новы сродак барацьбы з уйгурскім сепаратызмам. Уйгуры — цюркскі этнас, што жыве на ўсходзе КНР. Прыкладна дзесяць гадоў таму тут актывізаваўся рух за незалежнасць, што прымушае Пекін актыўна праводзіць палітыку рэпрэсій. Пры гэтым кітайскія спецслужбы прыдумляюць розныя ноў-хаў. Напрыклад, усе жыхары правінцыі, дзе жывуць уйгуры, павінны загрузіць на свае смартфоны спецыяльную праграму, якая дазваляе адпаведным органам праглядаць дзейнасць карыстальніка апарата. Акрамя таго, паводле ўсё той жа брытанскай прэсы, падазраваных у сепаратызме адсылаюць у спецыяльныя «лагеры перавыхавання». Працэс перавыхавання заключаецца ў тым, каб прывучыць вязняў… есці свініну і ўжываць алкаголь. Фішка ў тым, што уйгуры — мусульмане. Як следства, іслам адыгрывае вельмі важную ролю ў будаўніцтве нацыянальнай ідэнтычнасці. Паколькі іслам забараняе свініну і алкаголь, у уйгурскіх нацыяналістаў ад такога меню адразу пачынаюцца ментальныя праблемы, якія могуць выклікаць нават думкі пра суіцыд.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. Грымасы дэкамунізацыі

Украінская ўлада адзначыла трэцюю гадавіну прыняцця Закона аб дэкамунізацыі. «На падставе закона пераназваныя больш за 52 тысячы плошчаў і вуліц, амаль тысяча населеных пунктаў. Адных толькі помнікаў Леніну дэмантавалі амаль паўтары тысячы», — пахваліўся на гэты конт прэзідэнт Парашэнка. Між тым заходнеўкраінская прэса адзначае незвычайны рост цікавасці насельніцтва да ідэяў марксізму-ленінізму. Такі фенамен тлумачыцца вельмі проста: у краінах Паўднёвай Еўропы вельмі моцныя левыя традыцыі. Таму ўкраінец, які просіць там палітычны прытулак як камуніст — ахвяра рэпрэсій на радзіме, мае больш шанцаў на станоўчае рашэнне. «Там (у Італіі) любяць камуністаў. Таму можна нават абзаводзіцца фіктыўнымі дакументамі, што вы былі сябрамі кампартыі, і жалезабетонна атрымаеце там прытулак», — паведамляе выданне «Острів Галичина» (Івана-Франкоўск). Тое ж СМІ піша, што раней сярод украінцаў было папулярна прасіць прытулак, прадстаўляючыся геямі. Аднак «гей-лафа» скончылася пасля нядаўняга гучнага скандалу ў Швецыі, дзе ўкраінскі «гей», які атрымаў прытулак, неўзабаве завёў нармальную сям'ю.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Зноў рэвалюцыя?

Наталі Арто, лідарка французскай трацкісцкай арганізацыі «Рабочая барацьба», звярнулася да сваіх аднадумцаў з заклікам радыкалізаваць цяперашнія пратэсты супраць пакету ліберальных рэформаў прэзідэнта Макрона. Нагадаем, што з красавіка французскія чыгуначнікі абвясцілі страйк, падчас якога сур'ёзна абмежаваны рух цягнікоў. Рэформа дзяржаўнай чыгункі SNCF набыла знакавы размах, паколькі чыгунка — адзін са слупоў французскай сацыяльнай дзяржавы. Супраць новых правілаў навучання бунтуюць і студэнты: у некаторых ВНУ краіны праз пратэсты нават скасавалі экзамены. Аднак для Арто гэтага мала. Трацкісты, паводле яе меркавання, павінны пачаць сапраўдную рэвалюцыю. Хаця «травеньскія тэзісы» палітыка мелі вялікі рэзананс у СМІ, эксперты ўспрымаюць іх як кур'ёз: іншыя французскія левыя партыі ўважаюць групоўку Арто за небяспечных сектантаў. Тым не менш, нічога нельга выключаць, паколькі арганізацыя «Рабочая барацьба» налічвае каля 20 тысяч сяброў-фанатыкаў.

**Паводле французскай прэсы**

# ЕТА памерла. Няхай жыве ЕТА?

Алег НОВІКАЎ

**Эйфарыя наконт рашэння баскскіх нацыяналістаў з тэрарыстычнай групоўкі «Радзіма і незалежнасць» (ЕТА) расфармавацца і скласці зброю паступова суцішваецца, а трывожныя прагнозы гучаць усё часцей.**




Калі 3 траўня 2018-га ЕТА агучыла доўгачаканае камюніке пра самаліквідацыю, шмат каментатараў ахвотна пісалі, што ў будучым гэтую падзею пачнуць вывучаць усе школьнікі Еўрасаюзу. Падзея сапраўды глабальная — скончыўся апошні вайсковы канфлікт у Заходняй Еўропе. Ён цягнуўся аж з 1956 года, і яго ахвярамі сталі каля двух тысяч чалавек.

Мінуў амаль месяц пасля самароспуску ЕТА — і цяпер энтузіязму паменела. Затое ў прэсе ўсё больш публікацый пра тое, што шлях да міру ў рэгіёне, напэўна, будзе даўжэйшым і складанейшым. Справа не толькі ў некаторых нюансах. У гісторыі ЕТА хапала эпізодаў, калі, прыняўшы нейкае рашэнне, групоўка праз пэўны час раптам змяняла сваю пазіцыю — у тым ліку адносна інструментарыю і тактыкі.

Натуральна, нельга не зрабіць праекцыю на мірны працэс у Паўночнай Ірландыі, дзе аналаг ЕТА — Ірландская Рэспубліканская Армія (IRA) — у 1998 годзе таксама заявіла пра адмову ад тэрарыстычных метадаў барацьбы. Ледзь не адразу ў нетрах арганізацыі паўсталі фракцыі накшталт «Сапраўднай IRA» (Real IRA), якія абвясцілі пра намер працягнуць падпольную дзейнасць. Яны дасюль нагадваюць пра сябе — у тым ліку забойствамі і выбухамі. А што, калі на парэштках ЕТА з'явіцца банда адмарозкаў, падобная на «Сапраўдную IRA», пытаюцца медыя.

Калі такая радыкальная секта не паўстане, грамадская атмасфера ў краі ўсё роўна застанецца вельмі таксічнай. Французскае выданне «La Dépêche» звяртае ўвагу на тое, што міф пра ЕТА вельмі моцна прапісаўся ў баскскай палітычнай культуры. Выданне прыводзіць цікавы факт: у Краіне Баскаў сёння вельмі лёгка набыць сувенірную майку з выявай Чабі Эчыбар'еты, які здзейсніў першы гісторыі ЕТА замах. 7 чэрвеня 1968-га падчас разгону дэманстрацыі ён забіў свайго аднагодка Хасэ Пардынеса, супрацоўніка Грамадзянскай гвардыі (аналаг нашых унутраных войскаў). У гонар учынку Чабі на месцы таго замаху даўно стаіць помнік. А вось пра Хасэ Пардынеса ніхто, хіба акрамя гісторыкаў, не ўзгадае.

«La Dépêche» таксама нагадвае, што яшчэ да з'яўлення ЕТА баскі як мінімум тройчы вялі ўзброеную барацьбу супраць цэнтра (дзве карлісцкія вайны плюс удзел у грамадзянскай вайне на баку рэспубліканцаў). Моладзь выхоўваюць паважаць герояў тых канфліктаў. Адсюль выданне робіць выснову — экстрэмізм застанецца часткай баскскага палітычнага пейзажу, хаця самі радыкалы гэтым разам могуць не выкарыстоўваць брэнд ЕТА.

Больш за тое, стала вядома, што менавіта такі сцэнар быў распрацаваны кіраўніцтвам ЕТА некалькі гадоў таму. Нізавыя асяродкі арганізацыі тады атрымалі інструкцыю імкліва расфарміравацца і спрыяць паўстанню новых палітычных праектаў, якія, не будучы структурна падпарадкаваныя ЕТА, арыентаваліся б у паўсядзённай дзейнасці на яе рэзалюцыі.

Калі верыць паліцыі, адным з такіх праектаў стала групоўка «Ospa» з Навары, восем ак-

**Прычынаў і фактараў для рэнесансу ЕТА (або яе аватара) сапраўды хапае. Аднак усё ж, думаецца, пакуль гэта — толькі версія. Большасць нацыяналістаў пагаджаецца: ад ЕТА як кампраметуючага рудыменту трэба было абавязкова пазбаўляцца**

тывістаў якой цяпер паўсталі перад судом. Гісторыя пачалася мінулай восенню, калі падсудныя атакавалі супрацоўнікаў Грамадзянскай гвардыі. Паколькі арэнай бойкі быў нейкі бар, усё можна было б спісаць на наступствы злоўжывання моцнымі напоямі. Аднак самі сілавікі сцвярджаюць, што напад быў загадзя падрыхтаваны, а «Ospa» належыць да сеткі, што стварыла ЕТА перад тым, як паведаміць пра самароспуск. «Мы ніколі не гаворым, што гэтыя спадары (сябры з «Ospa») інтэграваныя ў ЕТА або супрацоўнічаюць з ЕТА, але арганізаваны імі гвалт вынікае з рэкамендацый ЕТА. У канчатковым выніку гэта звязана з тым, што іх гвалт звязаны з палітычнымі мэтамі», — рэзюмуюць спікеры сілавога ведамства.

Але самая вялікая бомба пад перспектывы міру ў Краіне Баскаў — праблема вязняў. У іспанскіх турмах дасюль сядзяць баевікі ЕТА (каля 460–500 чалавек), і некаторыя з іх сядзець будуць яшчэ вельмі доўга. На думку шматлікіх баскскіх нацыяналістаў, пасля самароспуску ЕТА Мадрыд у якасці зваротнага добрага сігналу павінен быў абвясціць амністыю. Аднак іспанскі ўрад кансерватара Марыяна Рахоя абыякавы да такіх петыцый. У Мадрыдзе камюніке ЕТА ад 3 траўня ўспрымаюць не як прапанову да дыялогу, а як заканамерны акт аднабаковай капітуляцыі.

Не дзіўна, што ў лагеры баскскіх незалежнікаў, якія спадзяваліся на вызваленне аднадумцаў, шмат расчараваных. Арнальда Атэгі, адзін з лідараў партыі Bildu (структуры, якую лічаць палітычнай вітрынай ЕТА) у нядаўнім артыкуле для брытанскага «The Guardian» піша: «ЕТА больш не існуе. Аднак відавочна, што іспанская ўлада не здольная рэагаваць праз фарматы дыялогу, перамоваў і пошукаў кампрамісу на запыты каталонскага і баскскага грамадстваў».

Як бачым, прычынаў і фактараў для рэнесансу ЕТА (або яе аватара) сапраўды хапае. Аднак усё ж, думаецца, пакуль гэта — толькі версія. Большасць нацыяналістаў пагаджаецца: ад ЕТА як кампраметуючага рудыменту трэба было пазбаўляцца. Тым больш — напярэдадні рашучай бітвы. Перманентны палітычны крызіс у Каталоніі і калапс рэйтынгаў кансерватараў Рахоя дазваляюць спадзявацца на фармаванне кааліцыі з удзелам левых, якія больш станоўча ўспрымаюць ідэю пашырэння правоў рэгіёнаў.

У такім разе не выключаюць нават прыняцця новай Канстытуцыі, якая, па прыкладзе Даніі і Вялікабрытаніі, надасць малым народам Іспаніі права на самавызначэнне праз рэферэндум. Баскі лічаць, што гэтаму актыўна будзе спрыяць і Брусэль. Як адзначае Атэгі ў тым жа артыкуле, «фрустрацыя іспанскай эліты ад таго, што імперыя руйнуецца на вачах, — крыніца нестабільнасці для ўсёй Еўропы».



Фота www.rsport.ria.ru

# Апошні Мундыяль у гісторыі?

Алег НОВІКАЎ

**Чым бліжэй да футбольнага чэмпіянату ў Расіі, тым больш спекуляцый наконт таго, што гэта будзе апошні Мундыяль у гісторыі.**

Сярод іншых мерапрыемстваў падчас Кубку свету–2018 будзе абвешчана краіна (або краіны), якая атрымае права прымаць турнір у 2026-м. Між тым, шмат спартовых экспертаў лічаць, што абіраць гаспадара чэмпіянату зарана. Як мінімум трэба пачакаць заканчэння спаборніцтваў у Расіі. На іх думку, у час гэтага чэмпіянату з'явіцца каскад акалічнасцяў, праз якія трэба будзе мяняць фармат спаборніцтваў. Песімісты лічаць, што па выніках Мундыялю ўвогуле будзе ўзнятае пытанне, ці ёсць сэнс далей праводзіць гульні па цяперашняй мадэлі і пад патранажам Федэрацыі футбольных асацыяцый (FIFA).

Якія падставы для падобнага скепсісу? Перш за ўсё, цяперашнія турніры FIFA цалкам супярэчаць прынцыпам тых, хто прыкладна сто гадоў таму прыдумаў Кубак свету. Шакаваныя наступствамі Першай Сусветнай вайны тагачасны кіраўнік FIFA Жуль Рымэ і яго калегі спадзяваліся з дапамогай футболу аб'яднаць нацыі, якія нядаўна бязлітасна ваявалі. Аднак сёння мы маем не свята міжнароднага сяброўства, а нейкі атракцыён карупцыі, пляцоўку для дэманстрацыі геапалітычнай моцы, знявагу інтарэсаў простых грамадзян.

Гісторыя Чэмпіянату свету ў Расіі з'яўляецца ў гэтым плане амаль эталонам. Краіна стала арганізатарам турніру на фоне буйной карупцыйнай аферы з удзелам вышэйшага кіраўніцтва FIFA. Сам факт арганізацыі і правядзення турніру выкарыстоўваецца ў расійскіх СМІ для рэкламы поспехаў рэжыму Пуціна, яго міжнароднага аўтарытэту. Амаль не хаваецца, што чэмпіянат стаў сродкам узбагачэння часткі эліты, якая актыўна пілавала бюджэт пад будаўніцтва спартовых аб'ектаў.

Сітуацыя робіцца яшчэ горшай праз такі невядомы на Захадзе феномен, як кодэкс расійскага чыноўніка. Свежы прыклад — скандал вакол вулічных сабакаў, якіх FIFA патрабавала прыбраць у гарадах, дзе пройдуць матчы турніру. Міністэрства спорту РФ у свой час абвясціла тэндар на спецыяльныя боксы, куды планавалася пасадзіць жывёл на час чэмпіянату. Тэндар правялі, грошы засвоілі, а пра сабакаў узгадалі толькі зараз — напярэдадні адкрыцця Мундыялю. Паколькі лавіць барбосаў часу ўжо няма, у ход ідзе ежа з транквілізатарамі, якую даюць жывёлам. Пасля іх дастаўляюць у боксы, дзе яны часта паміраюць. І гэта яшчэ гуманны варыянт. Калі верыць брытанскай прэсе, там-сям сабак проста адстрэльваюць.

На сабаках скандалы не сканчацца. Ужо зараз відавочна, што на час турніру ў Расіі будуць абмежаваныя грамадзянскія правы і свабоды. Не пазбегнуць скандалаў з украінскімі вязнямі ў турмах РФ, пытанне якіх актыўна ўздымае Кіеў.

Сярод заўзятараў, напэўна, будуць прадстаўнікі сексуальных меншасцяў, якія паспрабуюць праявіць на трыбунах салідарнасць з расійскімі геямі.

Наўрад ці абыдзецца без міжнародных дэмаршаў — з улікам цяперашняга статусу Расіі на Захадзе. Тамтэйшая жоўтая прэса ўжо падагравае нацыяналістычны псіхоз, спажыўцы якога, безумоўна, пабачаць у правале сваёй каманды помсту «жудаснага» Пуціна. Падчас турніру непазбежныя бойкі фанатаў, якія, верагодна, будуць самымі вялікімі ў гісторыі. Прынамсі фанаты шэрагу краінаў адпраўляюцца ў Расію як на фронт. У сваю чаргу, расійскія фанаты, вядомыя сваімі расісцкімі поглядамі, гарантуюць скандалы на глебе ксенафобіі.

Але і гэта яшчэ не мяжа. Пасля Расіі Чэмпіянат свету будзе прымаць Катар, дзе дасюль у пэўных формах захавалася рабства. Прычым ужо вядома, што тыя рабы і будавалі аб'екты футбольнай інфраструктуры. А гісторыя хабару, які шэйхі далі FIFA за права прымаць турнір, — амаль даведзены факт.

І на гэтым праблемы ў сусветнага футболу не спыняцца. Усё больш плётак пра тое, што чэмпіянат свету 2026-га чыноўнікі FIFA плануюць аддаць Марока. Прычым, падаецца, мараканская адміністрацыя ўжо ўлічыла памылкі расійскіх чыноўнікаў, і перад тым, як пачаць лабіяваць правядзенне чэмпіянату, банальна забіла ўсіх вулічных сабакаў. Перафразуючы вядомы афарызм, няма сабакаў — няма праблемаў.

«Ці трэба працягваць падобныя эксперыменты з футболам?» — пытаюць некаторыя спартовыя каментатары на Захадзе. На іх думку, самы час заснаваць новы турнір. Аматары перазагрузкі сусветнага футболу лічаць, што для гэтага можа быць дастаткова заявы кіраўніцтва футбольных асацыяцый самых вялікіх зборных свету: Германіі, Бразіліі, Францыі, Аргенціны і Іспаніі.

Праўда, аргументы іх апанентаў гучаць не менш моцна. На іх думку, мае месца рамантызацыя мінулых чэмпіянатаў свету, якія таксама цяжка назваць ідэальнымі. Дастаткова ўзгадаць Мундыялі ў фашысцкай Італіі (1934) або ў Аргенціне ў 1978-м, калі ў краіне панавала вайсковая дыктатура. Турнір у Бразіліі 2012-га дасюль адгукаецца жыхарам бедных кварталаў, чые будынкі былі знішчаныя пад будаўнічыя пляцоўкі гатэляў і стадыёнаў. Гісторыя не ведае турніраў, якія абыходзіліся без скандалаў з судзействам і штучнай палітызацыяй. І заўжды пасля іх заканчэння ў прэсе агітавалі за новую мадэль спаборніцтваў. Аднак пераможцы пра гэта і слухаць не жадалі.

Але нават тыя, хто не верыць у хуткую рэформу Кубка свету, прызнаюць — будучы чэмпіянат у Расіі сапраўды фенаменальны: яшчэ ніколі за ўвесь час правядзення турніру яму не пагражала так шмат адмоўных фактараў. Нейкі з іх здольны справакаваць інцыдэнт такога маштабу, што зробіць дэбаты пра новую формулу Кубка свету папросту непазбежнымі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Іван Чэбан

Кандыдат прарасійскай партыі сацыялістаў на выбарах мэра Кішынёва выйграў першы тур і атрымаў 42 працэнты галасоў.

У другім туры яму давядзецца пазмагацца з Андрэем Нэстасе, лідарам партыі «Платформа DA», якога падтрымалі 32 працэнты выбаршчыкаў. Выбары кіраўніка горада выклікаў каласальны інтарэс, паколькі з'яўляюцца рэпетыцыяй восеньскіх парламенцкіх выбараў, на якіх фактычна будзе вырашацца геапалітычны азімут краіны.

Па сутнасці, выбары пацвердзілі, што адзінага меркавання па пытанні, куды павінна рухацца Малдова, у яе жыхароў няма. Затое быў дасланы сігнал Дэмпартыі — структуры алігарха Уладзіміра Плахатнюка, які кантралюе ўсе галіны ўлады. Кішынёўцы літаральна пракацілі кандыдата ў мэры Сільвію Раду, якая выконвае абавязкі кіраўніка горада і мае сувязі з дэмакратамі. Лічыцца, што Плахатнюк цяпер будзе фліртаваць з сацыялістамі.

Але лёгкай прагулкі ў Чэбана не будзе. Кандыдаты, якія занялі трэцяе і чацвёртае месца, ужо заклікалі сваіх прыхільнікаў галасаваць за Нэстасе, каб «не даць сацыялістам заняць сталічную мэрыю». Таксама варта нагадаць, што за ўсе 27 гадоў незалежнасці левыя ніколі не перамагалі ў барацьбе за пасаду мэра сталіцы. Другі тур выбараў, які, паводле малдоўскіх законаў, праводзіцца праз два тыдні пасля першага, адбудзецца ў нядзелю, 3 чэрвеня.



### Тэрэза Мэй

Да ўсіх праблем кабінету прэм'еркі Вялікабрытаніі і лідаркі кансерватараў дадаўся яшчэ і шатландскі сепаратызм.

Днямі першы міністр Шатландыі Нікола Стэрджэн заявіла, што хацела б зноў пачаць дэбаты на тэму рэферэндуму пра незалежнасць і пра выгоды, якія прынясе аддзяленне ад Вялікабрытаніі. «Калі мы атрымаем пэўную яснасць пра выніка Brexit і будучыя адносіны паміж Вялікабрытаніяй і ЕС, што, спадзяюся, мы атрымаем ужо восенню гэтага года, то я зноў разгледжу пытанне пра тэрміны правядзення рэферэндуму аб незалежнасці», — заявіла Стэрджэн.

Даўнінг-Стрыт адрэагаваў вельмі жорстка. 22 траўня спікер ураду рашуча адхіліў ідэю другога рэферэндуму аб незалежнасці Шатландыі і заклікаў Стэрджэн паважаць вынікі галасавання 2014 года, калі большасць шатландцаў выказалася за захаванне Шатландыі ў складзе Злучанага Каралеўства.

Пікіроўка паміж Лонданам і Эдынбургам, як лічаць газеты, можа мець небяспечны фінал. Гледзячы на рэзкі тон заявы, Мэй не збіраецца даваць шатландцам права праводзіць новы плебісцыт. Між тым, не выключана, што Стэрджэн запатрабуе санкцыю на арганізацыю рэферэндуму ў Лондана ўвосень, калі ЕС і Брытанія канчаткова дамовяцца пра ўмовы Brexit.



### Рэджэп Таіп Эрдаган

Кіраўнік Турцыі, на думку шмат каго, наглядна давёў, што ніякай формулы інтэграцыі іншаземцаў у нямецкае грамадства не існуе. Усё праз тое, што два нямецкія футбалісты турэцкага паходжання падаравалі Эрдагану свае футболкі, назваўшы яго «мой прэзідэнт».

Гаворка не пра нейкіх звычайных футбалістаў, а пра Ілкая Гундагана і Месута Озіла, якія граюць за зборную ФРГ. І Озіл, і Гундаган нарадзіліся ў Германіі, маюць германскія пашпарты, аднак, падаецца, сапраўднымі немцамі сябе не адчуваюць. Акрамя таго, спартоўцы выказалі сімпатыі на адрас палітыка, якога на Захадзе лічаць амаль дыктатарам. Прычым, іх учынак, без сумневу, дапаможа Эрдагану пераабрацца на выбарах 24 чэрвеня.

Немцы, натуральна, у шоку. Калі нават Озіл і Гундаган, якія зрабілі кар'еру і зарабляюць шмат грошай, не адчуваюць сябе немцамі, дык чаго чакаць ад простых туркаў? Не кажучы пра мігрантаў з Сірыі, якіх Германія ў колькасці больш за мільён чалавек прыняла ў 2016-м? У выніку давялося ўмяшаццa не толькі кіраўніцтву Федэрацыі футбола Германіі і трэнеру нямецкай зборнай, але нават самому прэзідэнту краіны Франц-Вальтэру Штайнмаеру, які запрасіў абодвух да сябе на рандэву.

Тым часам прэса супакойвае аўдыторыю: згаданыя футбалісты не ілюструюць трэнд. У экспертным свеце лічыцца, што нямецкая мадэль інтэграцыі іншаземцаў усё ж дастаткова эфектыўная.



Фота www.svaboda.org

Кароль Швецыі Карл XVI Густаў уручае Нобелеўскі медаль Святлане Алексіевіч. Стакгольм, 10 снежня 2015 года



Фота www.grodnonews.by

Вучні старшых класаў у Беларусі будуць вывучаць творы Святланы Алексіевіч



Фота www.grodnonews.by

Святлана Алексіевіч сустракаецца з чытачамі ў Гомелі. 12 жніўня 2017 года

# Святлана Алексіевіч: «Я — шчаслівы чалавек»

Сяргей ШАПРАН

**Пра гэтае інтэрв'ю я прасіў Святлану Алексіевіч даўно. Але пасля прысуджэння Нобелеўскай прэміі яна і дасюль яшчэ ў частых раз'ездах — бачыць і чуць яе па-ранейшаму хоча ўвесь свет. Зрэшты, мы ўсё ж сустрэліся, тым больш і нагода з'явілася годная — дзень нараджэння пісьменніцы...**



Фота www.euroradio.fm

Быў незвычайна цёплы май 2018-га. І зноў, як і «нац-цаць» гадоў таму, пераступаю парог гэтым разам ужо новага дома Святланы Алексіевіч. І хоць гаспадыня яшчэ не паспела цалкам абжыць яго (на падлозе стосамі яе кнігі, што выйшлі апошнім часам, у кніжных шафах яшчэ пустыя паліцы, і пакуль не знайшлося належнага месца для партрэта яе ўлюбёнага Дастаеўскага — у ранейшай кватэры ён быў над працоўным сталом у кабінеце), але гэтае новае жытло ўражвае — найперш густам, багаццем дызайнерскіх рашэнняў і ледзь улоўнай філасафічнасцю. У адрозненне ад старой кватэры пісьменніцы, тут — прастора, арганічным працягам якой акно на ўсю сцяну, і за ім ужо ледзь не бязмежная перспектыва, акрэсленая выгібам Свіслачы знізу і гарызонтам з дахаў далёкіх шматпавярховікаў ды аблокаў уверсе…

Святлана Аляксандраўна заварвае зялёную гарбату. На сцяне над дубовым сталом велізарны гадзіннік колеру летняга вечаровага сонца, дзе ўсяго тры лічбы. Як сімвал вечнасці запаволенага часу і хуткаплыннасці чалавечага жыцця… Спякотны дзень на зыходзе. Мы гутарым… Неяк незаўважна змяркаецца. Калі задаю апошняе пытанне, за акном, што на ўсю сцяну, пануе цемра. На гадзінніку, дзе замест цыферблата сонца, — палова на адзінаццатую…

***— Васіль Быкаў пісаў, што памятае сябе гадоў з пяці, калі сябар павёў яго на возера. Рыгор Барадулін казаў, што першы ўспамін пра жыццё — як ён, маленькі, спрабаваў злавіць бусла за хвост. Уладзімір Някляеў пачаў памятаць сябе з двух гадоў, з таго моманту, як ягоны дзядзька выпусціў яго, маленькага, на каменны парог дзедавай хаты. А які ваш самы першы ўспамін пра жыццё, Святлана Аляксандраўна?***

— Не, я, вядома, памятаю сябе з юнацтва. Дзяцінства захавалася ў памяці ўрыўкамі, да таго ж яно не так ужо паўплывала на маё фарміраванне. Хоць сама Украіна пакінула вельмі моцнае ўражанне: у маёй памяці засталіся пах пылу і валоў, белыя хаткі і белыя кашулі, украінская гаворка… Але гэта, хутчэй за ўсё, эмацыйныя рэчы. Свядома я пачала памятаць сябе з юнацкіх гадоў, калі пачала фарміраваць сябе.

***— Відаць, неўсвядомлена пачалі фарміраваць?***

— Не, абсалютна свядома. Я гадоў з дванаццаці сябе фарміравала: я не толькі складала спісы літаратуры, якую трэба было прачытаць, але і пісала планы на месяц, на год — гэта ўсё была вялікая і доўгая праца па стварэнні сябе. Я ўсё рабіла свядома, гэта проста з маёй сутнасці вынікала. Нават не магу цяпер успомніць, каб хто-небудзь на мяне ўплываў… Бацькі былі занятыя працай. І хоць тата быў дырэктарам школы, а мама — настаўніцай, жыццё было складанае і цяжкае — усё-ткі нас трое дзяцей было. Хоць, вядома, сяляне жылі яшчэ цяжэй…

Уплывалі, вядома, кнігі, але болей — прырода. А яшчэ — вясковыя аповеды. Я любіла слухаць старых жанчын. Мужчын практычна не памятаю, бо гэта была пасляваенная вёска. Яны пазней з'явіліся, маладыя мужчыны, а так былі адны жанчыны і старыя. Іх апавяданні і пакінулі самае моцнае ўражанне. Гэта, па сутнасці, і фарміравала мяне — вясковыя аповеды і прырода.

***— Тыя спісы літаратуры і планы на жыццё, мусіць, не захаваліся?***

— Мне Маша (Марыя Вайцяшонак, пісьменніца, сяброўка Святланы Алексіевіч. — С. Ш.) казала, што нейкі мой студэнцкі дзённік яна захавала… Я выкідвала дзённікі пасля таго, як праходзіла нейкі кавалак шляху — раз гэта стала часткай мяне, гэта мяне больш не цікавіла.

***— І не хацелі б цяпер перачытаць?***

— Напэўна, не… Гэты шлях ужо ззаду застаўся.

***— Памятаю, як вы казалі, што не любіце наштурхоўваць сябе…***

— На саму сябе. Так, не люблю. Я ўжо ў зусім іншай прасторы, з іншымі думкамі і ўяўленнямі. Таму наўрад ці… Можа, толькі каб усміхнуцца — наколькі я была наіўная і з якім напорам ішла па жыцці.

***— Сястра Васіля Быкава Валянціна Уладзіміраўна расказвала, што чытанне для яе брата было ў школьныя гады на першым месцы, ён і ўрокі не вучыў, а прыходзячы дадому, сядаў за кнігі. Сам Васіль Уладзіміравіч успамінаў, што ўжо тады кніжны свет стаў больш рэальным, чым свет навакольны. Вашае дзяцінства таксама было кніжным?***

— Не-не, дзяцінства было, вядома, кніжнае. І вучоба таксама не цікавіла. Пяцёркі ў мяне былі, напэўна, толькі па гісторыі і літаратуры, а так, па-мойму, было восем або дзевяць троек. Я вельмі дрэнна скончыла школу, пачнём з гэтага. Але я ўжо тады ведала, што буду пісьменніцай. Мой жа бацька да вайны скончыў некалькі курсаў факультэта журналістыкі, і пазней, калі яго доўга не дэмабілізоўвалі, завочна скончыў гістфак, здаецца, у Курску. Мусіць, невыпадкова мне з дзяцінства было цікава пісаць.

***— Таксама і вашы бацькі ўспаміналі, што вы яшчэ ў дзяцінстве казалі, што будзеце пісьменніцай.***

— Мне было гэта цікава… Памятаю, бабуля распавядала, як аднойчы каля нашага дома спыніўся вялізны камбайн, і камбайнер вынес мяне на руках са словамі: «Що це за дитина, я не знаю!..» Высветлілася, што я прыйшла да яго і пачала распытваць, што ён бачыць там, наверсе…

***— Ваша першае інтэрв'ю.***

— Так, так… (Смяецца.) Ён быў так узрушаны, што ўзяў мяне ў кабіну і цэлы дзень са мной няньчыўся, нават хлебам і салам падзяліўся. А ўвечары, калі мяне ўжо хапіліся дома, прывёз… Бабуля заўсёды смяялася, гэта ўспамінаючы. Мне было тры-чатыры гадкі.

***— Калі яшчэ казаць пра школьныя гады, памятаеце рэпартаж Змітра Бартосіка з вашай радзімы? (Алексіевіч смяецца.) Чытаючы, што гавораць сёння пра вас настаўнікі (сутнасць выказванняў вашых землякоў Зміцер Бартосік абагуліў гэткім чынам: «Таемная габрэйка, якая, пасябраваўшы з Зянонам Пазняком, звязалася з Васілём Быкавым, каб уступіць у Народны фронт, каб пасля атрымаць Нобелеўскую прэмію ад Барака Абамы за тое, што плявузгае на Лукашэнку»), падумаў, што Святланай Алексіевіч вы сталі не дзякуючы школе, а насуперак.***

— Не, насуперак, вядома. Я заўсёды жыла асобна ад гэтага і чытала зусім іншыя кнігі. Хоць гэта складана было — мы ж ведаем, якія ў нас сельскія бібліятэкі. Але там была цікавая руская класіка, акрамя гэтага, можна было знайсці Цыялкоўскага і Фёдарава, яго працы пра чалавечую бессмяротнасць…

***— Згадваецца, як вы казалі, што гэта бабуля дапамагла вам не адарвацца ад рэальнасці і не сысці з галавой у свет кніг…***

— Так, украінская бабуля. Мая беларуская бабуля памерла ў партызанскім атрадзе ад тыфу.

***— Але якім чынам яна вырвала вас з гэтага кніжнага свету?***

— Наколькі памятаю, бабуля мала вучылася, але яна была вельмі таленавітая. Яна чытала мне «Кабзара» і спявала ўкраінскія песні, а калі мы кудысьці ішлі, увесь час нешта расказвала. Калі, дапусцім, праходзілі нейкае месца, бабуля распавядала, што за баі тут былі, пасля якіх доўга яшчэ ляжалі забітыя, асабліва немцы… То-бок рэальнасць, прычым жорсткая рэальнасць, была вядомая мне з дзяцінства… І калі бабуля брала мяне з сабой у поле на буракі, я таксама варушылася ў баразне, і хоць мне было гадкі тры-чатыры, але памятаю, як жанчыны ўспаміналі сваіх мужоў і плакалі — яны ж былі зусім маладыя жанчыны… Гэтыя эмоцыі былі вельмі моцныя — ні адна кніга пасля не дала мне падобных уражанняў.

***— Памятаю дзесьці вычытаны ваш аповед, як бабуля паказвала на хату, дзе жыла жанчына, якая падчас Галадамору з'ела дваіх сваіх дзяцей…***

— Згадваю, што яна жыла нібы на гары, крыху вышэй за іншых. У чорным, заўсёды неяк асабліва глядзела на людзей…

***— Яна была ў сваім розуме?***

— Не ведаю, але, па-мойму, так… Яна была зусім адзінокая. Як зафіксавала мая дзіцячая памяць, людзі цураліся яе.

***— Мяне калісьці зачапіла думка ў кнізе інтэрв'ю іншага нобелеўскага лаўрэата — Іосіфа Бродскага: «...Усе мы загнаныя ў псіхалагічную пастку, расстаўленую нашай цывілізацыяй. Мама, няня ці хто-небудзь яшчэ з маленства казалі нам, што жыццё цудоўнае, што чалавек прыгожы, што дабро пераможа зло, а злы шэры воўк ніколі не прыйдзе. І калі мы сутыкаемся з чым-небудзь агідным, наша першая рэакцыя: гэтага не можа быць, адбылася памылка — яе дапусцілі мы ці, яшчэ лепш, хтосьці іншы. Мамам варта было б расказваць дзецям, што ў пяцідзесяці адсотках выпадкаў злы шэры воўк сапраўды з'яўляецца на парозе і выглядае ён зусім як мы».***

***Ці пагодзіцеся з гэтым? І якім у гэтым сэнсе было ваша хатняе выхаванне?***

— Не, у мяне зусім іншыя адчуванні. Я ж расла пасля вайны і памятаю непраглядную беднасць у вёсках. Або інвалідаў, якія на гэтых сваіх дошчачках ездзілі...

***— Без ног?***

— Без ног. Ва Украіне іх не так хутка з жыцця выкінулі, як у Расіі, дзе, як мы цяпер ведаем, здараліся жахлівыя гісторыі, калі гэтых інвалідаў або далей на астравы вывезлі, напрыклад, на Валаам, або расстралялі. А ва Украіне яны доўга былі. Памятаю, як яны спявалі і як плакалі, і як людзі падавалі ім капеечкі... Памятаю яшчэ аднаго чалавека, які жыў у абсалютнай адзіноце. Да яго толькі дачка з далёкай вёскі прыходзіла. Нават не ведаю, ці хадзіў ён сам па хлеб... З ім таксама страшная гісторыя здарылася — здаецца, ён быў паліцаем у вайну, і ўся вёска ад яго адвярнулася...

Згадваю і тое, як бабуля крычала і цэлы дзень плакала, калі ўпершыню, ужо пры Хрушчове, атрымала дзесяць рублёў за мужа, які без вестак знік на вайне. Яна ж ні капейкі не атрымлівала, маючы дваіх маленькіх дзяцей... Я толькі цяпер даведалася, што мой дзядуля насамрэч загінуў у баі. Даведалася дзякуючы Анатолю Міцяненку, дзіўнаму чалавеку, які шукае праўду пра загінулых у тую вайну і ашчаслівіў ужо, напэўна, многіх унукаў — дзеці наўрад ці дажылі да сённяшняга дня...

Так што зло я з дзяцінства бачыла і ведала, што свет вельмі не просты і можа быць жорсткі. Я ведала пра існаванне зла. Хоць, вядома, школа, сама сістэма адукацыі спрабавалі ўнушыць мне ідэалістычнае ўяўленне пра свет. На гэтым утапічным поглядзе і грунтавалася савецкая сістэма. Але паколькі я вырасла ў вёсцы, падмануць мяне было нельга... Да таго ж я рана пачала чытаць Дастаеўскага. Прычым не толькі добра яго чытала, але і шмат разважала... Вядома, ад сістэмы адукацыі многае залежыць, але большую частку духоўнага жыцця мы праводзім у адзіноце. І таму ўсё залежыць усё-такі ад самога чалавека.

***— Мне сімпатычная ваша думка пра тое, што кнігі кнігамі, але вучыцца лепш у асоб, бо асобы — гэта спрасаваны час.***

— Вядома. Гэта мой прынцып быў — вучыцца ў асоб.

***— Адна з прычын, чаму я, дарэчы, любіў журналістыку, — маючы зносіны з цікавымі табе людзьмі, веды атрымліваеш экстэрнам.***

— Вядома-вядома. І потым, гэта ж такая ўнікальная магчымасць — мы можам звяртацца да каго хочам. А калі б я была настаўніцай, ці была б у мяне раскоша зносін з Быкавым, Адамовічам? Канешне, не.

***— Аднак калі вярнуцца да ранейшага: вы расказвалі, што Украіна часу вашага дзяцінства была каляровая, усё там квітнела і пахла; калі ж ваша сям'я пераехала ў Беларусь, свет афарбаваўся ў змрочныя тоны. Нават колер неба і зямлі, казалі вы, нават чалавечыя галасы былі іншыя...***

— Украінская зямля — гэта багатая зямля. Як там кажуць, пасадзі кол — і тут жа вырасце дрэва. А ў Беларусі ўсё было змрочна, гэта было беднае мястэчка. І людзі жылі вельмі цяжка, з вялікай працай здабываючы свой кавалак хлеба. Ды і партызанская вайна тут была вельмі страшная, людзі бясконца пра гэта гаварылі. Гэта ў літаратуры цэнзары маглі нешта выкрэсліваць і не прапускаць, а народ у вёсцы казаў усё, як было: як свой ішоў на свайго, ці як паказвалі, дзе хаваюцца яўрэйскія дзеці, і як потым на іх нацкоўвалі сабак, і іх прыносілі ўжо па кавалачках, гэтых дзяцей... Гэта ўсё я ведаю з дзяцінства...

Ніхто нічога добрага пра немцаў не казаў, але і ніхто не любіў Сталіна за адзін толькі Галадамор. Хто ж мог яго любіць за гэта?.. Бабуля распавядала, як аднойчы схавала пад страху жменьку кукурузы, і прыйшоў атрад на чале з жанчынай-камісаршай, дык ператрэслі ўсю хату і ўсё-ткі знайшлі тую жменьку і забралі!.. Ці ўспаміналa, як у суседняй вёсцы знясіленыя людзі, якія паміралі ад голаду і елі траву і жаб, паўзлі да сажалкі, што ахоўвалася, каб там не лавілі рыбу, і салдаты стралялі ў іх... Я з дзяцінства чула гэтыя жудасныя аповеды. Гэта ўжо потым перамога ў вайне засланіла і Галадамор, і ГУЛАГ — мы па сёння не ведаем усёй праўды пра той час.

***— Па дарозе да вас кінуўся ў вочы традыцыйны лозунг-транспарант, вывешаны да 9 мая: «Подзвіг народа бессмяротны».***

— За гэтымі фармулёўкамі велізарная народная бяда схавана. І хоць я з дзяцінства чула гэтыя словы, але на мяне яны ніяк не дзейнічалі. У школе нам казалі адно, але калі прыязджала ў вёску — чула зусім іншае, і, вядома, гэта не магло не застацца ў памяці.

***— Мой сусед-франтавік ніколі не распавядаў пра вайну.***

— Мой бацька таксама не хацеў гаварыць. Ніколі. Ён толькі аднойчы распавёў, як цягнуў сябра. Дый то пасля таго, як я спытала пра пахі вайны. «Лайном пахне вайна, вось што я табе скажу», — казаў бацька, крыху выпіўшы. І распавёў пра тое, як прыцягнуў сябра ў медсанбат, і ўвесь быў забруджаны экскрэментамі, таму што ў сябра жывот раскурочыла... Нічога гераічнага. Гэта ўсё было вельмі страшна.

***— Між тым хацелася б узгадаць яшчэ такую гісторыю. Ваш бацька мог бы стаць сакратаром абкама на Палессі, аднак высветлілася, што родная сястра вашай маці сядзіць у лагеры. І ваш бацька быў пастаўлены перад выбарам: або развод, або партбілет на стол. Але ён настолькі любіў вашу маму...***

— Што не кінуў яе. Тату выратаваў Лабанок — быў такі яго сябар яшчэ з вайны.

***— Той самы Лабанок, што быў членам ЦК?***

— Так. У выніку тата не пацярпеў, але вымушаны быў з'ехаць з Мазыра ў вёску, дзе быў дырэктарам школы.

***— Успамінаецца, што і Пятро Глебка ахвяраваў многім дзеля жонкі, якая падчас вайны была дыктарам на акупацыйным радыё. Пасля вайны яе збіраліся арыштаваць, і Глебка хадзіў да міністра дзяржбяспекі Цанавы прасіць за жонку. З яго боку гэта таксама быў учынак.***

— Вядома. Калінін жа не выратаваў сваю жонку Жамчужную, а па-ранейшаму служыў Сталіну і баяўся заікнуцца пра яе... Так, гэта быў учынак па тых часах. Хоць у бацькі была дзіўная вера: ён лічыў, што сама па сабе ідэя сацыялізму выдатная, але гэта Сталін сапсаваў яе... Я памятаю іх размовы з мамай, калі пачаліся 1990-я гады: спачатку гэта была радасць, бо яны, як і мільёны людзей, думалі, што іх чакае палепшаны сацыялізм. Ніхто нават не ўяўляў, што наперадзе капіталізм! Калі ж, нарэшце, стала зразумела, што чаканні не апраўдаліся, мама казала, што зноў будуць багатыя-бедныя, што зноў будзе прыніжэнне, якое яна перажыла яшчэ ў дзяцінстве... Вядома, бацькі не маглі гэтага прыняць. Яны былі здзіўлены — яны ж настаўнікі былі! — што гісторыя дае такі дзіўны збой і зноў — як там у Леніна? — адзін крок наперад, два крокі назад. Ім быў не зразумелы гэты адыход ад сацыялізму да капіталізму — яны ж ведалі, яны ж былі выхаваны так, што пасля капіталізму ідзе сацыялізм, а не наадварот. І калі нават нам цяжка гэта зразумець, што ўжо казаць пра нашых бацькоў!..

***— А вам вядомы далейшы лёс вашай цёткі?***

— Яе накіравалі ў Брэст літаральна за некалькі месяцаў да вайны. І калі немцы ўвайшлі ў горад, ім патрэбны быў перакладчык, вось ім і сказалі: «Тут нам "немку" прыслалі». Маю цётку не звалі інакш, як толькі «немка», бо яна выкладала нямецкую мову. Да таго ж была ўкраінка, то-бок зусім чужая. І мала таго, што жыла пад акупацыяй, дык яшчэ і перакладала! Пасля вайны яе, вядома, пасадзілі. Пазней яна жыла на вольным пасяленні і працавала на шахтах у Данбасе. Памятаю, цётка распавядала, што калі выйшла распараджэнне пра тое, што жанчыны не павінны працаваць пад зямлёй, бо гэта пякельная праца, жанчыны пачалі пратэставаць. Гэта як у Чэхава ў «Вішнёвым садзе», калі стары Фірс кажа: «Гэта было яшчэ да няшчасця». А пад «няшчасцем» мелася на ўвазе адмена прыгоннага права. Так і тут — гэта было няшчасцем, бо жанчыны не маглі знайсці працу і галадалі.

***— Ці не адбілася яе лагернае мінулае на вашай біяграфіі? У тыя ж гады было небяспечна не тое што мець рэпрэсаваных сваякоў, але і жыць на акупаванай тэрыторыі.***

— Не ўзгадаю, каб гэта калі-небудзь адбівалася на маёй біяграфіі. І калі паступала на журфак, не памятаю, каб хтосьці пра гэта пытаўся... Усё ж былі ўжо іншыя часы, «вегетарыянскія», як іх называюць.

***— Дарэчы, запомнілася, як вы сказалі, што хоць у вашага бацькі была хвароба Альцгеймера, аднак ён памятаў, якой прыгожай была ваша мама.***

— Так-так. І яшчэ памятаў бітву пад Сталінградам, дзе ён уступіў у кампартыю — пра гэта ён мог распавядаць бясконца.

***— І наколькі тыя аповеды адрозніваліся ад «У акопах Сталінграда» Віктара Някрасава?***

— Вядома, адрозніваліся — гэта была ўжо нейкая казка... Як гэта ў Рэмарка: спачатку людзі выходзяць адтуль, і ўсё для іх пахне лайном і жахам, але потым успаміны выліньваюць да ружовага колеру... І калі чалавек сыходзіць з жыцця, вядома, усё таксама ўпрыгожваецца. У яго няма ўжо сіл перамагчы гэты хаос, і ён прыгадвае маладосць. Успамінае, як атрымаў партбілет і адразу пайшоў у бой.

***— Можа, гэта адна з прычын таго, што — як вы сказалі — з вельмі старымі людзьмі вам цяжка размаўляць?***

— Так, з савецкімі старымі людзьмі...

***— А іншых жа няма!***

— Пасля 1990-х гэта ўжо іншыя людзі. Як бы там ні было, але ўсё ж людзі жывуць сваім жыццём і больш паважаюць уласнае жыццё. А савецкія старыя будуць расказваць, як яны ваявалі і як потым Мінск па цаглінцы разбіралі. То-бок свайго жыцця ў іх аповедах амаль няма. І ў кнізе «У вайны не жаночы твар» практычна няма аповедаў пра каханне — там усяго некалькі такіх гісторый, да таго ж яны... прыгожыя, скажам так. Таму што гэтыя жанчыны не хацелі, не любілі расказваць пра вайну. Толькі адзін раз я чула такую гісторыю: разумеючы, што інакш усе загінуць, раніцай яны вырашылі ісці на прарыў, і ў іх заставалася гэтая апошняя ноч, калі дзяўчаты аддаваліся тым мужчынам, хто яшчэ мог быць блізкі з жанчынай, — не ўсе ж маглі, ведаючы, што заўтра загінуць... Ці расказвалі пра згвалтаванні з боку нашых салдат... Але на падобныя тэмы было накладзена табу, і вельмі цяжка было «дастаць» з чалавека не вайну, а яго ўласнае чалавечае жыццё.

***— Напэўна, цяпер падчас працы над кнігай пра старасць гэтак жа складана «дастаць» з пажылых людзей эмоцыі?***

— Не, падрабязнасці, дэталі бываюць проста цудоўныя — цяжка «дастаць» нейкія экзістэнцыйныя веды, веданне пра свой сыход і сэнс чалавечага жыцця. І практычна немагчыма «дастаць» несавецкі погляд на жыццё. У гэтым і заключаецца галоўная складанасць — гэтыя людзі не ў стане выскачыць за круг савецкіх уяўленняў пра сэнс жыцця.

Тую ж маю кнігу «У вайны не жаночы твар» выратавала тое, што я была маладая, а яны — пажылыя, і яны спачатку распавядалі мне пра вайну, як гэта было агульнапрынята, і толькі потым — калі вып'ем гарбаты ці гарэлачкі — пачыналі гаварыць ужо як дзяўчынцы: «А ты ведаеш, што самае страшнае на вайне? — І смяюцца. — Самае страшнае — мужчынскія майткі насіць! Вось што страшна! Яны ж, гэтыя сацінавыя майткі, былі ніжэй за калені. Бывала, збяромся ў бліндажы ноччу і абрагочамся, калі скідаем з сябе штаны!» А ўсе ж былі прывабныя дзяўчаты і — такія брыдкія ў гэтых мужчынскіх майтках! І вось ім было страшна, што калі заб'юць, то будуць непрыгожа выглядаць... «Але гэта, дзяўчынка, мы табе распавялі, — казалі. — А пісаць пра гэта не трэба — пісаць трэба зусім іншае!» Дык вось кніга «У вайны не жаночы твар» складаецца якраз з таго, што «не трэба пісаць»...

Вельмі цяжка вырвацца са свайго часу, бо ўсе дужа прывязаныя да яго. Але вы мусіце не падыгрываць герою, а быць часам жорсткім і задаваць пытанні як бы з вашага часу. А калі пачынаеце падыгрываць — маўляў, і страшна, і шкада героя, — то, вядома, ён можа не сказаць таго, што мог бы, і яго веды знікнуць разам з ім. І пытацца трэба пра тое, чаго мы не ведаем. Каб новае пачуць, трэба па-новаму спытаць. Бо сам чалавек, цалкам належны свайму часу, можа і не задаваць сабе нейкіх пытанняў. Рэдка хто здольны на гэта. Мала хто ацалеў і змог потым інакш паглядзець на сваё жыццё. Напрыклад, адна з самых моцных кніг пра вайну — «Успаміны пра вайну» Мікалая Нікуліна, яна толькі нядаўна была апублікавана. Або дзённік пра вайну Юрыя Нагібіна, які і па выхаванні, і па ўяўленнях пра чалавека быў цалкам не савецкім пісьменнікам. Вось ён таксама мог абсалютна інакш расказваць. Памятаю такі фрагмент з яго дзённікаў: калі-небудзь напішуць, што гэта ішла пераможная армія, а ў сапраўднасці ішла дрэнна апранутая сухотная і галодная армія, вось якая армія ўваходзіла ў Еўропу, вось якая армія перамагла. І я адразу бачу гэта і веру гэтаму.

**Зло я з дзяцінства бачыла і ведала, што свет вельмі не просты і можа быць жорсткі. Хоць, вядома, школа, сама сістэма адукацыі спрабавалі ўнушыць мне ідэалістычнае ўяўленне пра свет. На гэтым утапічным поглядзе і грунтавалася савецкая сістэма. Але паколькі я вырасла ў вёсцы, падмануць мяне было нельга...**

**Заканчэнне ў наступным нумары**

# Дзень Швецыі ў Мінску. Далучайцеся да свята!

**2 чэрвеня на плошчы Свабоды ў Мінску пройдзе Дзень Швецыі. У канцэрце каля Ратушы выступіць зорка шведскай поп-музыкі Jenny from Ace of Base і беларускі гурт «Akute».**








Упрыгожаннем свята стане Jenny from Ace of Base, якая выступіць з вечаровым канцэртам на галоўнай сцэне каля Ратушы. У канцэрце таксама возьме ўдзел папулярны беларускі гурт «Akute». Падарункам для аўтааматараў стане зона аўтатармажэння Volvo Cars на вуліцы Зыбіцкай, дзе можна будзе самому апрабаваць новую сістэму City Safety.

Свята для мінчан і гасцей сталіцы арганізуе Пасольства Швецыі ў Рэспубліцы Беларусь сумесна з Мінскім гарадскім выканаўчым камітэтам пры падтрымцы шведскіх і беларускіх кампаній. Генеральнымі спонсарамі Дня Швецыі выступаюць Volvo Cars і ETC-Бел.

Для ўсіх аматараў шведскай культуры з галоўнай сцэны цягам дня прагучыць шведская музыка ў выкананні хору «Concordia». Улюбёныя хіты «ABBA» і «Roxette» выканае кавер-бэнд Пятра Клюева. Танцавальны гурт «Madcaps» запаліць публіку брэйк- і хіп-хоп кампазіцыямі ў сучасных рытмах. Госці свята таксама змогуць узяць удзел у «Спеўным сходзе» і заспяваць па-шведску разам з гуртом «Вурай». Усіх чакаюць разнастайныя інтэрактыўныя гульні і віктарыны з каштоўнымі прызамі ад спонсараў.

Удзельнікамі свята ў Мінску сёлета будуць прадстаўнікі афіцыйнага сайта Швецыі на рускай мове Sweden.ru, якія падрыхтавалі для гасцей Дня Швецыі спецыяльную праграму, кульмінацыяй якой стане выступ на сцэне папулярнага шведскага спевака Jay-Jay Johanson.

Гуру кулінарнага майстэрства Анастасія Лундквіст падзеліцца з гасцямі свята сакрэтамі шведскай кухні. А на культурна-адукацыйнай пляцоўцы (гл. ніжэй) будзе ўсталяваны шацёр, дзе можна будзе цягам дня пры дапамозе акуляраў віртуальнай рэальнасці пазнаёміцца са Швецыяй з вышыні птушынага палёту.

Акрамя галоўнай сцэны, на плошчы таксама будуць дзейнічаць і іншыя пляцоўкі: культурна-адукацыйная, інфармацыйная, дзіцячая, спартовая, аўтамабільная, індустрыяльная і іншыя.

На культурна-адукацыйнай пляцоўцы «Спазнай Швецыю» (уваход у задні дворык гатэля «Манастырскі» з вуліцы Герцэна) адбудзецца прэзентацыя навучальных праграм Шведскага Інстытута.

Любы жадаючы зможа наведаць майстар-клас па традыцыях святкавання Сярэдзіны лета ў Швецыі з гульнямі і песнямі, а таксама размаляваць драўляныя фігуркі лася або даларнскага коніка. Можна будзе таксама патрапіць на ўрок шведскай мовы і паспытаць шчасця ў віктарыне. Важную адукацыйную ролю будзе выконваць станцыя па сартаванні смецця як значны элемент сучаснай шведскай палітыкі ўстойлівага развіцця.

**Любы жадаючы зможа наведаць майстар-клас па традыцыях святкавання Сярэдзіны лета ў Швецыі з гульнямі і песнямі, а таксама размаляваць драўляныя фігуркі лася або коніка**

На дзіцячай пляцоўцы (арт-тэраса канцэртнай залы «Верхні горад») пры падтрымцы кампаніі IKEA адбудуцца дзіцячыя спектаклі і канцэрты паводле шведскіх казак. Маленькія гледачы змогуць убачыць казку пра карову Маму Му і яе сябра Крумкача, паслухаць музычную гісторыю пра старога Пэтсана і яго коціка Фіндуса ды паспяваць разам песенькі пра Малога і Мядзведзіка.

На пляцоўцы дзетак таксама чакаюць цікавыя майстар-класы «Зрабі лосіка» і «Намалюй Швецыю». А шведская кампанія Oriflame пры дапамозе аквагрыму ператворыць малых у іх улюбёных казачных герояў. Тут жа можна будзе набыць шведскія дзіцячыя кніжкі ў перакладзе на беларускую мову, сфатаграфавацца з персанажамі шведскіх казак і натхніцца выставай Шведскага Інстытута «17 прычын чытаць дзіцячыя кнігі».

У аўтамабільнай зоне (на паркінгу з аглядной пляцоўкай) група кампаній Volvo Cars, Volvo Trucks, Volvo Construction Equipment і Scania прадэманструюць гасцям свята апошнія мадэлі аўтамабіляў, грузавікоў і экскаватара. Аўтааматары змогуць пазнаёміцца з Volvo XC40, які быў прызнаны «Аўтамабілем года 2018» у Еўропе.

На індустрыяльнай пляцоўцы (з боку вуліцы Леніна) кампанія Husqvarna прадэманструе робата-газонакасілку, а таксама гульнявую зону з тэлевізарам і шлемам віртуальнай рэальнасці, пры дапамозе якога можна будзе паўдзельнічаць у спаборніцтве па абрэзцы галінаў дрэў. SKF прапануе азнаёміцца са сваёй прадукцыяй у дэманстрацыйным грузавіку. Побач размесціцца інтэрактыўны стэнд кампаніі Bahco Bisov, якая выrабляе пілаінструмент. Elfa (каля Ратушы) пазнаёміць з сучаснымі шведскімі сістэмамі захоўвання адзення, абутку і іншых хатніх рэчаў.

У цэнтральным дворыку гатэля «Манастырскі» (уваход з вуліцы Кірылы і Мефодыя) флагман шведскай бытавой тэхнікі Electrolux ва ўласным гастранамічным тэатры правядзе майстар-класы па прыгатаванні ежы з дэгустацыяй на абсталяванні кампаніі.

Зону прыгажосці створыць кампанія Oriflame (каля Ратушы насупраць сцэны), якая пазнаёміць гасцей з новай касметычнай прадукцыяй і дасць магчымасць усім, хто зацікавіцца, паспрабаваць яе.

На інфармацыйнай пляцоўцы (каля галоўнай сцэны) можна будзе атрымаць карту мерапрыемства, а таксама матэрыялы, прысвечаныя гісторыі, культуры і традыцыям Швецыі.

Запрашаем усіх аматараў актыўных гульняў на спартовую пляцоўку (перад рэстаранам «Рэнесанс») паўдзельнічаць у майстар-класе па флорболе, узяць удзел у адкрытым чэмпіянаце па настольным хакеі, футболе і тэнісе, а таксама пазаймацца надзвычай папулярнай сёння скандынаўскай хадой.

Паміж гарадскімі вагамі і фантанам «Спадчына» раскінецца дзіцячая пляцоўка фабрыкі цацак «Палессе», дзе самыя маленькія знойдуць сабе занятак па душы.

Цягам свята на плошчы Свабоды будзе працаваць фудкорт са шведскімі традыцыйнымі стравамі. Зробім наша свята больш экалагічным, сартыруючы смецце ў спецыяльныя кантэйнеры ад групы кампаній «Экалогія горада». А для зніжэння колькасці пластыку можна будзе атрымаць на фудкорце напоі ва ўласныя кубкі. Той, хто возьме ўдзел у конкурсах на нашых пляцоўках, зможа выйграць кубачкі шведскага дызайну шматразовага выкарыстання.

Гаспадароў сабак абавязкова зацікавіць прадукцыя кампаніі «Magnusson Petfood» — корм для сабак, выраблены па ўнікальнай тэхналогіі.

**Паводле інфармацыі Пасольства Швецыі**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навіна». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №181

Падпісана да друку 25.05.2018. 8.00.
Наклад 2500 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.